Алег Бембель



# Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс

**Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі**

Алег Бембель

# Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс

*2-е выданне, дапоўненае*

Нью-Ёрк — Лондан
2024

# Пра кнігу і яе аўтара

Кніга Алега Бембеля, першае выданне якой выйшла ў 1985 г. у Лондане, пры ўсёй арыгінальнасці і адметнасці, асабліва ва ўмовах савецкай Беларусі, сваім жанрам цалкам кладзецца ў беларускія традыцыі працы Юркі Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі», напісанай у 1950-я гг., але выдадзенай толькі ў 1996 г. у Нью-Ёрку, дакументальнага зборніка «Я з вогненнай вёскі» Алеся Адамовіча, Уладзіміра Калесніка і Янкі Брыля, што пабачыў свет у 1975 г., і, натуральна, твораў Святланы Алексіевіч.

У сваёй нобелеўскай лекцыі апошняя, між іншага, сказала: «*Мой настаўнік Алесь Адамовіч, чыё імя сёння хачу назваць з удзячнасцю, таксама лічыў, што пісаць прозу пра жахі XX стагоддзя — блюзнерства. Тут нельга прыдумваць. Праўду трэба даваць, як яна ёсць. Патрабуецца "звышлітаратура". Гаварыць мусіць сведка*»[1].

Пісьменніца дала і назву жанру: «*Я доўга шукала жанр, які б адпавядаў таму, як я бачу свет. [...] І абрала жанр чалавечых галасоў*»[2].

Вось да гэткай *звышлітаратуры*, да жанру *чалавечых галасоў* належыць таксама кніга, другое выданне якой чытач трымае ў руках. Алег Бембель акрэсліў яе блізка да азначэння Святланы Алексіевіч — «*дыялог жывых чалавечых думак*», «*сапраўдная сябрына жывой чалавечай думкі*».

Галасы, запісаныя аўтарам у першай палове 1980-х гг., даносяць да нас думкі суайчыннікаў пра стан, лёс і будучыню роднага слова, а патрэба другога выдання сведчыць, на жаль, пра актуальнасць і сёння пытанняў і праблемаў таго часу.

---

[1] Гл.: https://www.nobelprize.org/prizes/literature/2015/alexievich/25414-nobel-lecture-by-svetlana-aleksievitch-in-russian.

[2] Гл.: http://alexievich.info.

І сам аўтар, і яго кніга мелі няпросты лёс, з якім, хай у агульных абрысах, неабходна пазнаёміць чытача, асабліва маладзейшага пакалення, а таксама найноўшых беларусаў.

Алег Бембель нарадзіўся 16 снежня 1939 г. у сям'і беларускага савецкага скульптара, прафесара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля, аднаго са стваральнікаў беларускага манументальнага мастацтва, аўтара барэльефаў мемарыяльных комплексаў «Курган Славы» і «Брэсцкая крэпасць-герой», Дома ўраду, манумента Перамогі на аднайменнай плошчы ў Мінску, помніка М. Ф. Гастэлу і інш.

З залатым медалём Алег Бембель скончыў мінскую школу № 13, паралельна адвучыўся ў музычнай школе. Паступіў у Палітэхнічны інстытут, але пакінуў яго пасля чацвёртага курса і падаў дакументы ў Беларускую кансерваторыю па спецыяльнасці «фартэпіяна».

Захапленне філасофіяй прывяло Алега Бембеля ў Інстытут філасофіі і права Акадэмію навук БССР. У 1971–1974 гг. ён быў аспірантам, а пазней малодшым навуковым супрацоўнікам. Тут падрыхтаваў дысертацыю «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры», але да абароны справа не дайшла: праца была прызнаная *нацыяналістычнай*.

У 1985 г. рукапіс кнігі Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» трапіў у Лондан, і кніга была выдадзеная Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі.

Рэакцыя ўладаў не прымусіла сябе чакаць: аўтар быў выключаны з КПСС, яго, як гаворыцца, «сышлі» з Акадэміі навук. Але пацярпеў не толькі ён – быў разагнаны ўвесь сектар, у якім Алег Бембель працаваў, пацярпеў і яго кіраўнік — вядомы філосаф Уладзімір Конан.

Нью-ёркская газета «Беларус» (№ 341, лістапад 1987 г.) змясціла вялікі ліст Алега Бембеля «Колькі словаў пра гуманітарныя канфлікты. На прыкладзе аднаго зь іх. Адкрыты ліст М. С. Гарбачову, дзеячом гуманітарнае культуры», у якім ён падрабязна расказаў пра тагачасную сітуацыю і акрэсліў аўтарскую пазіцыю[3]:

---

[3] Друкуецца з захаваннем правапісу арыгінала.

*«Паважаныя таварышы! Хачу скарыстаць зь "мяча, што загойвае раны — з галоснасьці", каб пагутарыць з Вамі пра важныя, з майго гледзішча, пытаньні новага палітычнага й гуманітарнага мысьленьня. Нагода для гэтага быццам-бы і не такая важная, каб да яе прыцягваць Вашу ўвагу: за публікацыю ў Англіі, бязь ведама й згоды аўтара, майго рукапісу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" мяне выключылі з партыі. Але тое — як гэта зроблена, чым матывавана ды што прыйшло за гэтым — на мой погляд, заслугоўвае на Вашую ўвагу як лідэраў абнаўленьня нашага грамадзтва й сыстэмы міжнародных дачыненьняў.*

*Дзеля мяне разграмілі маладзы пэрспэктыўны сэктар, які за два гады свайго існаваньня стаўся заўважнай зьявай у культурным жыцьці рэспублікі, за які культурная грамадзкасьць змагалася шмат гадоў, — сэктар сацыяльнай псыхалёгіі і эстэтыкі Інстытуту філязофіі й права АН БССР. Сурова пакараны загадчык сэктару, выдатны вучоны, лаўрэат Дзяржаўнае прэміі БССР, доктар філязофскіх навукаў У. М. Конан (яму далі строгую вымову з запісам на ўліковую картачку, прымусілі адыйсьці ад становішча загадчыка сэктару). Строгія вымовы дасталі таксама дырэктар ІФП АН БССР Я. М. Бабосаў ды сакратар партбюро інстытуту А. А. Тарасенка, а таксама загадчык музэю старабеларускай культуры пры ІЭФ АН БССР О. В. Церашчаткава — за тое, што чатыры гады таму (!) дазволіла мне выступіць на сэмінары з дакладам пра маю кнігу. Вось некаторыя вонкавыя адзнакі глыбокай, выразна палітычнай сытуацыі, якая склалася ў партыйнай арганізацыі АН БССР фармальна вакол майго няплянавага рукапісу "Роднае слова...", а ў існасьці вакол цэлага кірунку ў дасьледаваньні праблемы нацыянальнага й інтэрнацыянальнага ў мастацкай культуры Беларусі, якую я распрацоўваю ўжо каля 15 гадоў.*

*І ў дысэртацыі маёй ("Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры. На матар'ялах мастацкае культуры ў БССР"), рэкамэндаванай да абароны яшчэ ў 1977 годзе сэктарам філязофіі й права АН БССР (тады сэктар узначальваў Н. С. Купчын), але пасьля — літаральна "заблякаванай" нашай гуманітарнай бюракратыяй, — і, яшчэ ў большай*

*меры, у рукапісе "Роднае слова...", — адлюстраваная й прааналізаваная даўняя й глыбока канфліктная сытуацыя ў гуманітарнай сыстэме асьветы (дашкольнай, сярэдняй, вышэйшай), а адсюль — і ў нашых гарадох, разбурэньне (ад недагляды ці наўмысна) большай часткі нашых помнікаў гісторыі й культуры, нашых літаратурна-ляндшафтных помнікаў (хоць невялікая частка іх рэстаўруецца або ўжо рэстаўраваная, і гэта, пэўна-ж, добра). Вось сэнс і пафас маіх працаў — паказаць, якую шкоду спрычыняюць гэтыя негатыўныя зьявы ня толькі маральна-эстэтычнаму й сацыяльна-псыхалягічнаму разьвіцьцю нашага народу, але й прэстыжу нашай рэспублікі сярод братніх народаў Савецкага Саюзу ды замежных краінаў. [...]*

*Кнігу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" мяне змусіла напісаць глыбокая ўстурбаванасьць станам беларускае мовы ў сёньняшняй Беларусі. Наколькі дасканала мне ўдалося ўжыцьцёвіць сваю задуму, зразумела, не магу меркаваць. Але я, у моц сваіх сілаў, стараўся не адыходзіць ад прынцыпаў поўнае праўды ды галоснасьці, якая, паводля словаў "Праўды", становіць "меч, што загойвае раны"».*

Гэты ліст, зразумела, нічога не змяніў. Ад таго часу Алег Бембель — вольны мастак. Яго кнігі вершаў пад псеўданімам Зьніч выходзілі пераважна за мяжой: «Рэха малітвы» (1988) — у Нью-Ёрку, «Саната ростані» (1988) — у Беластоку.

А ў 1996 г. Алег Бембель рэзка змяніў сваё жыццё — сышоў на паслух у Жыровіцкі манастыр, дзе і жыве пад імем інака Іаана. Ён па-ранейшаму піша вершы, выдае новыя кнігі, але ў айчыннай гісторыі застанецца найперш як аўтар працы пра роднае слова, якая сёння набывае хіба нават большае значэнне, чым у 1987 г. Цяпер яна чытаецца не толькі як кніга пра нашыя праклятыя пытанні, што працягнуліся з мінулага стагоддзя ў новае, але і як унікальны матэрыял для сацыялагічнага даследавання пра беларусаў 1980-х.

Кніга зноў прыходзіць да чытача, бы матэрыялізуючы думку аўтара: *«Тое, што сёння адбываецца ў кожным з нас, некалі будзе архаікай. Трэба клапатліва ўзнаўляць гэта не толькі для сучаснасці, але і для наступных пакаленняў, якім*

*вельмі патрэбна будзе гаварыць з намі шчыра, чуць сапраўднае жыццё нашых душ».*

Прарочыя словы. Як прарочым гучыць сёння даўні верш аўтарства — не Зьніча, і тым больш не інака Іаана, а менавіта Алега Бембеля, стваральніка кнігі пра роднае слова.

### На скон народа[4]

Манкуртам стаў нявольнік лёсу.
Маўчыць. Сыноў не пазнае.
Ні болю ўжо, ні прагі помсты:
Чароўны круг на галаве…
Манкурт!.. Навошта галашэнне
І мітусня — пасля пакут?..
Не будзе тут уваскрашэння —
Адбыўся цэсараў прысуд.
…Згарэў вянок вякоў…
Цяпер вянцом цярновым,
Абвітым лаўрамі, заціснулі чало…
І змоўкла спадчыннае Слова…
І згасла Боскае Святло…
А цар спатоліўся крывёю,
Дае палёгку нездарма:
Шляхотны дух над той зямлёю
Сканаў. Ратунку ўжо няма…
І што за дзіва?.. Адусюды
На лоўлю шчасця і чыноў
Шыбуюць процьмы ўцекачоў —
І Гараcтраты, і Іуды…
Гвалтуюць д’яблавы сыны
Чужыя звычаі і мову…
Затое ўласныя чыны
Уладкавалі адмыслова!..
Скрышылі храмы і муры —
Што ім усім да нашай славы!..
…На мерцвяках — пасля аблавы —
Свой пір, ганебны і крывавы,
Спраўляюць каты й гандляры!..

---

[4] Гл.: https://vytoki.net/?docs=00017097.

А вы, тутэйшыя Дантэсы,
Падпанкі подласці нахрапістых братоў,
Святыню — спадчыну ў пракруставыя «крэсы»
За срэбнік кідаеце колькі ўжо вякоў?..
Натоўпам сквапным раскашуеце ля тронаў,
На вочы матчыныя селі, крумкачы…
Схаваліся за шыльдамі законаў,
І суд, і праўда перад вамі — усё маўчы!..
Але ёсць Божы Суд, наперснікі распусты!
Там аджыве закатаваны Край…
Нямы народ свае раскрые вусны —
І здасца вам:
«О, Божа, пакарай!..»
…Усё узновіцца, што той абруч чароўны
Сцёр з памяці, з зямлі, з душы…
І кожны — ўваскрашальнае пакуты поўны —
Мо ўчуе:
«Йдзі!.. І болей не грашы…»

*Наталля Гардзіенка*
*Мінск, 2021*

Імклівае развіццё беларускай прафесійнай культуры ў XX стагоддзі, усеагульная пісьменнасць насельніцтва сацыялістычнай Беларусі і ўзрастанне ролі маральна-эстэтычных фактараў у развіцці грамадства сталага сацыялізму, палітычная вастрыня праблемы нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў сённяшнім свеце глабальнага супрацьстаяння дзвюх сацыяльных сістэм, сляды далёкіх і блізкіх трагедый, так шчодра адпушчаных гісторыяй беларускаму народу, — усё гэта робіць надзвычай актуальнай для нашай рэспублікі праблему жывога бытавання беларускага слова ў розных сферах жыцця: у выхаванні нацыянальных кадраў, у кантактах паміж дзеячамі культуры, паміж людзьмі розных прафесій, увогуле — у працэсе духоўнага станаўлення чалавека. Аптымальнае вырашэнне гэтай праблемы з'яўляецца аб'ектыўнай сацыяльна-духоўнай неабходнасцю ў развіцці ўсёй беларускай культуры і патрабуе абагульнення новых інтэлектуальных і духоўных запатрабаванняў народа, высвятлення і аналізу таго, што людзі розных прафесій і пакаленняў думаюць адносна стану і перспектываў нашага моўнага развіцця. Даследаванню розных аспектаў гэтай праблемы прысвечана кніга «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс».

Пытанне «Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?» і рэха, якое яно выклікала ў сучаснікаў, — асноўны структураўтваральны элемент кнігі. Праблема жывога бытавання нацыянальнай мовы адлюстроўваецца, з аднаго боку, у сістэме адпаведных філасофскіх паняццяў, што, у сваю чаргу, вымагае ў новых ракурсах зірнуць на суадносіны прафесійнай і народнай філасофіі, у прыватнасці, увесці і растлумачыць два паняцці: «філасофскі фальклор» і «філасофская фалькларыстыка». Праз востраканфліктны «інтэлектуальны сюжэт», які спалучае элементы канкрэтнасацыялістычнага, філасофскага, а часам і мастацкага

даследавання, высвятляецца вялікае значэнне роднага слова ў фарміраванні сапраўднага, глыбока ўсвядомленага інтэрнацыяналізму і патрыятызму, у актывізацыі маральных і эстэтычных патэнцый чалавека.

*...На беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай... гавораць каля дзесяці мільёнаў чалавек, гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для дыпламатычнай перапіскі...*[1].

*...З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmененай. Усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыгнёце...*

*Адам Міцкевіч*[2]

*...Все наши знания, все наши понятия с младенчества почерпнули мы в книгах иностранных, мы привыкли мыслить на чужом языке...*

*...Учёность, политика и философия ещё по-русски не изъяснялись: метафизического языка у нас вовсе не существует...*

---

1 Цытата перакладзена недакладна. Больш дакладны варыянт прапанаваў Сяргей Шупа: «*Гаворкаю Белай Русі, званаю русінскай ці літоўска-русінскай, таксама размаўляе каля 10 мільёнаў чалавек: гэта гаворка найбагацейшая і найчысьцейшая; яна распрацоўвалася з даўніх часоў: вялікія князі літоўскія карысталіся ёю ў дыпляматычным ліставаньні ў пару незалежнасьці Літоўскага княства*» (Mickiewicz, Adam. Les Slaves: Cours Professé au Collège de France. Vol. II. Paris: Comon, 1849. P. 429).

2 **Адам Міцкевіч** (пол. *Adam Mickiewicz*, 1798–1855), польскі паэт беларускага паходжання, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

*…и леность наша охотнее выражается на языке чужом, коего механические формы давно уже готовы и всем известны…*[3].

*А. С. Пушкин*[4]

# Прадмова

Кніга, якую Вы разгарнулі, паважаны чытач, напісана, каб выклікаць у людзей пачуццё не толькі духоўнай, але нават і прыроднай асалоды ад самой музыкі беларускага слова…

…каб у людзей была штодзённая патрэба сказаць адзін аднаму хаця б некалькі словаў на гэтай мове…

…каб праблема нацыянальнай мовы разумелася і адчувалася ў агульным кантэксце аховы прыроднага і духоўнага асяроддзя чалавечага жыцця…

# Філасофскі фальклор і філасофская фальклярыстыка

Плыні фальклору, скажам, літаратурная і музычная, маюць у параўнанні з філасофскай адну прывілею: ні вучоным, ні шырокай грамадскасці не трэба даводзіць сам факт іх існавання як самастойных феноменаў культуры. Яны маюць даўнюю гісторыю і відавочны плён. Фальклор жа філасофскі — глыбока адчувальны, але амаль нябачны прывід. Ён нібы ўсюды і нідзе адначасова. І лёс яго своесаблівы, і спадарожніца — філасофская фальклярыстыка — такая маладая…

---

[3] *…Усе нашыя веды, усе нашыя ўяўленні з маленства ўзялі мы з кніг замежных, мы прызвычаіліся думаць у замежнай мове.*

*…Навука, палітыка і філасофія яшчэ па-руску не размаўлялі, метафізічнае мовы ў нас зусім няма…*

*…і лянота нашая найлепей выяўляецца ў мове чужой, якое механічныя формулы даўно прыгатаваныя і ўсім вядомыя…*

[4] **Аляксандр Пушкін** (рус. *Александр Пушкин*, 1799–1837), рускі паэт, класік рускай літаратуры.

Любамудрасць — душа не толькі фальклору, але і ўсёй культуры. Таму філасофскі фальклор, як і сам народ, — патэнцыяльна вечны. Але самастойным аб'ектам збірання і прафесійна-філасофскага даследавання ён стаў параўнаўча нядаўна. І ў гэтай якасці ён патрабуе пэўнага адмежавання ад іншых сфер духоўнага жыцця.

Пад філасофскім фальклорам мы разумеем тую бясконца глыбокую плынь духоўнага жыцця народа, якая ляжыць недзе за межамі, з аднаго боку, персаналістычных галін прафесійнага філасофствавання, а з другога — глыбей так званай звычайнай свядомасці (*«обыденного сознания»*), гэтага ў значнай меры рэха «масавай культуры». Філасофскі фальклор — мудрасць народа ў прамым сэнсе: тое, што народ думае ў сэрцы сваім пра «вялікія» і «малыя» праблемы жыцця. Філасофская фальклярыстыка — аўтэнтычнае ўзнаўленне, збіранне і навуковы аналіз гэтай стыхіі. Перафразуючы словы М. І. Глінкі[5], можна сказаць: мудрасць стварае народ, філосафы яе толькі аранжыруюць (часцей, праўда, толькі псуюць).

Вядома, што існуюць два ўзроўні філасофствавання: прафесійнае стварэнне, распрацоўка і практычнае выкарыстанне пэўных паняццевых структур і непасрэднае, жывое спасціжэнне існага ці асобных яго плыней кожнай чалавечай душой — незалежна ад прафесійнай навукі і заняткаў яе носьбіта. Першы ўзровень — гэта сфера «адчужанай філасофіі», катэгарыяльнай віртуознасці, «тэхналогіі», «анатоміі» філасофіі. Другі — стыхія мудрасці цэласнай, непасрэднай, жывой. Народнай, фальклорнай — у самым лепшым, першасным сэнсе гэтых словаў. А ў сваёй сукупнасці — нацыянальнай.

Кожная чалавечая душа — сусвет. Унікальны, непаўторны. І ў ім — высокаіндывідуалізаванае адлюстраванне існага. Не кожны чалавек можа сам фіксаваць, аб'ектываваць тое «свячэнне вечнасці» ва ўласным сэрцы. І вось дапамагчы яму зрабіць гэта павінна філасофская фальклярыстыка. Сярод філосафаў-прафесіяналаў павін-

---

[5] **Міхаіл Глінка** (рус. *Михаил Глинка*, 1804–1857), расійскі кампазітар беларускага паходжання, стваральнік рускай класічнай музыкі.

ны быць людзі, якія, быццам мастакі-рэстаўратары, здымалі б з чалавечай душы вонкавыя катэгарыяльныя трафарэты і, аднаўляючы на новым узроўні сакратаўскае «спавівальнае мастацтва», выяўлялі і фіксавалі ўнікальнае аблічча быцця, што жыве менавіта ў гэтым чалавеку, тое, як ён сам-насам успрымае вечнасць, нябыт, сэнс існавання чалавека, народа, чалавецтва. Услухацца і клапатліва ўзнавіць усё гэта — без «адзіна верных» павучанняў, без сцыентысцкай гардыні — вось прафесійная і маральная задача філосафа-фалькларыста.

Прывяду канкрэтны прыклад філасофскай фалькларыстыкі, звязаны з яе практычным аспектам[6]. Я апытаў людзей розных прафесій і пакаленняў — ад школьнікаў да старэнькіх дзядоў і бабуль (вясковых і гарадскіх, пераважна гарадскіх — але сярод іх багата былых вяскоўцаў), — што яны думаюць пра лёс жывой стыхіі беларускага слова (і ўвогуле — моў не-«сусветна-гістарычных» народаў), пра сучасны стан гэтай стыхіі, прычыны такога стану, перспектывы. Сотні людзей падзяліліся са мной сваімі думкамі (хто сам пісаў, каго я слухаў з алоўкам). І вось з іх выказванняў, лепшыя з якіх скампанаваныя ў пэўнае дыялектычнае адзінства, атрымалася асноўная частка кнігі «Роднае слова і

---

[6] Тэарэтычны аспект філасофскай фалькларыстыкі яшчэ чакае грунтоўнай распрацоўкі. Тут толькі варта зазначыць, што цэнтральнае, структураўтваральнае, інтэгратыўнае паняцце гэтага адгалінення фалькларыстыкі знаходзіцца на стыку трох агульных паняццяў: шчырасці, мудрасці, сумлення — і можа быць (эскізна) вызначана як шчырасць, мудрая і сумленная, у адзінстве самараскрыцця і самапазнання чалавечай істоты ў працэсе выяўлення яе адносін, яе ўспрымання, разумення і ацэнкі «вялікіх» і «малых» праблем жыцця. Сам тэрмін «філасофская фалькларыстыка» мэтазгодна ўжываць перш за ўсё ў адносінах да сучаснага філасофскага фальклору, бо ў традыцыйным слоўным фальклоры плыні філасофская і літаратурная, відаць, непадзельныя. Раней філасофскі фальклор раставаў часткова ў фальклоры літаратурным, часткова ў прафесійнай літаратуры, а часткова пагардліва атаясамліваўся з «обыденным сознанием». Цяпер, у сувязі са стварэннем спрыяльных аб’ектыўных умоў для глыбіннага духоўнага самавыяўлення кожнага чалавека, інтэнсіфікацыяй, глабалізацыяй і «спецыялізацыяй» культурнага жыцця, філасофскі фальклор мэтазгодна вылучыць, збіраць і вывучаць як асобны, аўтаномны феномен духоўнай творчасці народа. — *Заўв. А. Б.*

маральна-эстэтычны прагрэс», названая «Што мы думаем пра цябе — беларуская мова?». Сабраныя матэрыялы можна даследаваць у розных ракурсах і аспектах, але гэта ўжо задача іншага парадку. Самае цікавае і каштоўнае для культуры, сучаснай і будучай, — гэта аўтэнтычнасць, маналог нашага часу ў форме дыялогу жывых чалавечых думак.

Найважнейшае тут вось што. Калі перад чалавекам паўстае, здаецца, прыватнае пытанне, што ён думае пра родную мову, пра яе сённяшні стан, ён міжволі выходзіць на праблему структуры духоўнага жыцця чалавецтва, якая адвеку шматнацыянальная, на праблему фарсіравання разбурэння гэтай структуры эпохай НТС[7], урбанізацыі, інфармацыйнага і іншых выбухаў, спароджаных XX стагоддзем, і звязаныя з гэтым многія балючыя пытанні развіцця сучаснай беларускай культуры. Такім чынам абуджаюцца, дакладней, выяўляюцца ў «мяжовых» духоўных сітуацыях тыя патаемныя творчыя сілы, пра якія ў звычайным жыцці сваім чалавек нават і не ведае.

Кніга «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» пабудавана такім чынам, што ядро духоўнай культуры народа — мова, у шырокім сацыяльна-псіхалагічным кантэксце, адлюстроўваецца адначасова нібы ў двух «люстэрках»: ва ўнутраным свеце канкрэтных людзей розных прафесій і пакаленняў (у тэкстуалізаваным філасофскім фальклоры)[8] і ў адпаведнай сістэме філасофскіх паняццяў[9]. Такі «паліфанічны» падыход, які спалучае элементы

---

[7] **НТС** — навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва.

[8] Другая, найбольшая па аб'ёме, частка кнігі цалкам складаецца з тэкстаў такога характару, скампанаваных у пэўнае адзінства на аснове кантрасту і ўзаемадапаўнення. У першай частцы, названай «Папярэднія супярэчнасці», выкарыстаны некаторыя найбольш яркія, на маю думку, і разнапланавыя выказванні беларускіх паэтаў пра мову, а таксама апісаны характэрныя «моўныя прыгоды» складальніка, звязаныя са збіраннем фальклору. — *Заўв. А. Б.*

[9] У трэцяй, завяршальнай частцы кнігі («Аўтаінтэрв'ю складальніка») праблема мовы разглядаецца на фоне падрабязнага аналізу катэгорый «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» і паняцця «сістэма нацыянальнай духоўнай культуры». (Фрагмент гэтай часткі, у якім разглядаюцца азначаныя паняцці, надрукаваны ў артыкуле «Н. Г. Чернышевский и проблема национального в духовной культуре». — Гл.:

канкрэтна-сацыялагічнага, філасофскага, а часам і мастацкага даследавання, у прынцыпе дазваляе разгледзець праблему жывой стыхіі нацыянальнага слова аб'ёмна, цэласна, татальна. Асноўнае, што ўбачылася мне ў люстэрку і што па-свойму выходзіць за тыя ж крытычныя кропачкі сучаснасці, у якія пільна ўглядаюцца і найбольш чуйныя прафесійныя філосафы, літаратары, фалькларысты, — гэта вострае інтуітыўнае, а часам і глыбока ўсвядомленае адчуванне неабходнасці разглядаць праблему нацыянальнай мовы ў агульным кантэксце аховы прыроднага і духоўнага асяроддзя чалавечага жыцця. Ва ўмовах усё большай маральнай і эстэтычнай паўперызацыі сучаснага чалавека (з адначасовым узрастаннем яго рэчавага багацця і, адпаведна, магчымасцей дэструктыўнага актывізму) роднае слова — як найбольш універсальнае, цэласнае выяўленне этасу і эстэтызму народа — можа і павінна стаць магутным сродкам адраджэння і захавання здароўя людзям. Вельмі істотнае, што адкрыла мне люстэрка філасофскага фальклору (у адрозненне ад, у асноўным, мажорных танальнасцей сферы прафесійнай мудрасці), гэта песімістычнае, нават трагедыйнае ўспрыманне сённяшняй моўнай сітуацыі і перспектыў. Адначасова свеціцца своеасаблівая вера ў прызначэнне гуманітарнай інтэлігенцыі, перш за ўсё прафесіяналаў слова (у шырокім сэнсе), вера ў тое, што многае можа змяніцца да лепшага — у залежнасці ад іх «моўных паводзін». Як у творчасці, так і «сярод людзей» — што, як і сумленне, непадзельнае.

Крытэрыем маральна-эстэтычнага прагрэсу (*progressus* (лац.) — рух наперад) з'яўляецца мера аб'ектывацыі маральна-эстэтычных патэнцый чалавека (індывіда — народа — чалавецтва), і высвятляецца гэтая мера ў філасофскім фальклоры (ды і ўсюды) як пазітыўна, так і ў значнай ступені «метадам адваротным» («*от противного*») — паказам (дакладней — самавыяўленнем) амаль поўнага занядбання, а можа, нават і атрафіі маральных і эстэтычных плыней душы.

---

«Н. Г. Чернышевский и его наследие». Новосибирск, 1980. С. 305–311). — *Заўв. А. Б.*

І ўнутраная дыялектыка адпаведных філасофскіх паняццяў, і найбольш глыбокія філасофска-фальклорныя інтуіцыі сыходзяцца ў фундаментальным, вузлавым пункце — неабходнасці захавання і развіцця шматнацыянальнай структуры духоўнага жыцця чалавецтва, а для гэтага — аховы не толькі асобных помнікаў культуры, але і ўсёй сістэмы духоўнай культуры кожнага народа як пэўнай індывідуалізаванай самаактыўнай цэласнасці. У наш час ахова помнікаў культуры — гэта перш за ўсё ахова саміх нацыянальных духоўных культур як унікальных, што склаліся стагоддзямі, цэласных сістэм, ахова ад разбурэння іх жывога функцыянавання, магчымасцей іх далейшага самаразвіцця як самастойных галасоў поліфаніі чалавечай культуры. Мова ж не толькі помнік, але і жывое сэрца культуры, «кроў народа» (Ядвігін Ш.[10]). Трэба помніць пра гэта ў наш век інфарктаў…

У працэсе практычнага функцыянавання філасофскай фалькларыстыкі, акрамя асноўнай функцыі — збірання і аховы, рэалізуецца і пэўная «адваротная сувязь»: з аднаго боку, спраўджваецца нефармальная, унутраная філасофія чалавека[11], актывізуюцца яго найбольш патаемныя духоўныя патэнцыі; з другога — адбываецца своеасаблівая «верыфікацыя» адносна кансерватыўных прафесійна-філасофскіх структур у жывой стыхіі народнага духу. «Філасафізацыя народа і фалькларызацыя філасофіі» — адна з «пабочных», але незвычайна важных сацыяльных функцый філасофскай фалькларыстыкі. Гэта паспрыяе і ўзнаўленню — на новым узроўні, «на новым вітку гістарычнай спіралі» — нацыянальнай філасофскай традыцыі цэласнага, маральна і эстэтычна напружанага ўспрымання свету. Трэба праходзіць школу, а не ператварацца ў шкаляроў заходнееўрапейскага сцэнізаванага філасофствавання.

Філасафічнасць, як і музыкальнасць, уласцівая амаль кожнаму чалавеку. Галоўнае — не нявечыць яе дагматыч-

---

[10] **Ядвігін Ш**. (сапр. **Антон Лявіцкі**, 1869–1922), празаік, публіцыст, паэт, фельетаніст. Аўтар першага беларускага рамана «Золата».

[11] Ці, што тое ж, — гуманізацыя філасофіі, пераадоленне яе элітарнасці, адчужэння. — *Заўв. А. Б.*

най сістэмай выхавання, а выявіць і ўзнавіць з дапамогай, так сказаць, «філасофскага псіхааналізу», прафесійнай тэхнікі філосафа-фальклярыста. Аўтэнтычнае ўзнаўленне філасофскага фальклору, які незваротна гіне ў кожным з нас, можа з'явіцца невычэрпнай крыніцай эўрыстычнай сілы і для самой прафесійнай філасофіі, а таксама для сацыёлагаў (тэарэтыкаў і практыкаў) і г. д. у справе аб'ектыўнай ацэнкі таго, што сапраўды адбываецца ў душах сучасных людзей, што гэта за істота — «сучасны чалавек», з якога мы збіраемся зрабіць «новага чалавека»[12].

Тое, што сёння адбываецца ў кожным з нас, некалі будзе архаікай. Трэба клапатліва ўзнаўляць гэта не толькі для сучаснасці, але і для наступных пакаленняў, якім вельмі патрэбна будзе гаварыць з намі шчыра, чуць сапраўднае жыццё нашых душ.

Магчыма, іменна філасофская фальклярыстыка пры належнай да яе ўвазе з'явіцца інтэгратыўным элементам у пераадоленні адчужанасці духоўнага жыцця ў сучасным грамадстве, бо прафесійныя і іншыя межы не існуюць для яе. Аднаўленне ўнутранай цэласнасці жыццёва неабходна сучаснаму чалавеку, бо расшчэпленасць духоўнай культуры дасягнула невераемных, сацыяльна небяспечных маштабаў. (Я не кажу, напрыклад, пра рэзкую «цэхавую» адасобленасць нашых творчых Саюзаў, якія падобныя да галактык, што ляцяць у розныя бакі. Сама прафесійная філасофія, якая, па ідэі, павінна выконваць інтэгратыўную функцыю ў сістэме культуры, — як тое ўранавае ядро, — усё болей разбураецца на асобныя кавалкі (дыямат, этыка, эстэтыка і г. д.), якія ўсё меней слухаюць, разумеюць і паважаюць адзін аднаго, а прафесійная філасофія на тэрыторыі Беларусі ўвогуле, амаль цалкам, развіваецца фактычна за межамі нацыянальнай культуры — з-за неадэкватнасці моўнай матэрыі.)

Багата дабра можа зрабіць філасофская фальклярыстыка і ў справе пераадолення вульгарнага сацыялагізму ў

---

[12] У гэтых аспектах філасофская фальклярыстыка набліжаецца да сацыяльнай псіхалогіі і, магчыма, можа нават разглядацца як адзін з яе раздзелаў. — *Заўв. А. Б.*

сферы духоўнай, у справе аховы традыцыйнага фальклору і паглыбленні яго ўзаемадзеянняў з сучаснай прафесійнай культурай, у пераадоленні глыбокага адрыву гэтай апошняй (асабліва яе «масавага варыянта») ад рэальнага духоўнага жыцця сучаснага чалавека.

*Раздзел I*

# Папярэднія супярэчнасці

## Беларускія паэты пра родную мову

Пятро Глебка[13]
…Калі ў маёй памяці ўстаюць словы Багушэвіча:
«Не пакідайце роднай мовы, каб не памерці»,
у мяне па скуры прабягае мароз.
Яны гучаць, як труба архангела,
што склікае на Страшны суд.

Янка Купала[14]

…Скажа хто-небудзь: хай бы адна мова на свеце, — бо і праўда: нашто іх столькі…

Яно б то можа было і добра, а мо і не саўсім. Дай мы, каб было аднаго толькі гатунку дзерава або аднаго толькі гатунку жывёліна ці збажына, то напэўна лёгка дагадацца, што на свеце было б не так прыгожа, як цяпер ёсць. А калі дзерава ці жывёліна ёсць толькі паверхнаснай аздобай зямлі, то мова людзей ёсць як бы цэнтрам гэтага жыцця, яго душой, яго ўнутранай аздобай.

Для мовы, для гэтай выразіцелькі душы і думак чалавека, не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалочанага абруча, рамак. Сонца само па сабе адна аздобнасць — і золата, і брыльянт. Таксама і мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздобнасцяй.

---

[13] **Пятро Глебка** (1905–1969), паэт, драматург, перакладчык, акадэмік АН БССР.

[14] **Янка Купала** (сапр. **Іван Луцэвіч**, 1882–1942), паэт, драматург, публіцыст, класік беларускай літаратуры.

Цётка[15]

…Чаму ж, роднае слова, гэтак часта забываюць цябе людзі — нават тут, між сваімі? Чаму сыны нашага народу так лёгка адракаюцца ад матчынай гутаркі?

Кажуць: бо цёмныя нашы беларусы. Але гэта няпраўда: забываюць родную мову, адракаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў да навук, выйшаў у людзі. Яны няцёмныя: яны пераймаюць чужое — дзеля карысці. У сэрцы такіх людзей згасла любоў да свайго народу і роднай мовы. Дачасная карысць, жаданне пашаны ў чужых, смешны гонар — усё гэта заняло месца ў апусцеўшай іх душы. А за іх прыкладам і нашая вясковая моладзь, наламваючы сябе, пачынае праз несвядомасць чурацца таго, што яе выдзяляе з паміж іншых народаў, пачынае глядзець на ўсё сваё, роднае чужымі вачыма, думаючы, быццам гэта добра, калі людзі «вышэйшых станаў» так робяць…

На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачываць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народу тады вы ўмерлі!

Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларуса б'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, павераць ва ўласныя сілы свае…

Якуб Колас[16]

…Што такое наша Беларусь? А гэта, бачыш, заходняя акраіна Расіі. Чым яна слаўная? Нічым. Вось балоты ёсць, ды яшчэ на ўвесь свет вядомая хвароба — каўтун. І мы з гэтым лёгкадумна згаджаемся, мы ўсё гэта прымаем на веру, бо, як той казаў праўду, над намі пануе шаблон, шаблон пустых словаў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чу-

[15] **Цётка** (сапр. **Алаіза Пашкевіч**, у шлюбе **Кайрыс**, 1876–1916), паэтка, грамадская дзеячка, публіцыстка.

[16] **Якуб Колас** (сапр. **Канстанцін Міцкевіч**, 1882–1956), пісьменнік, крытык, педагог, класік беларускай літаратуры.

жы змест іх. Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго!..

…Кожны народ мае свой гонар. Англічанін перад усім светам горда зазначае: я — англічанін! Тое самае скажа француз, немец, аўстрыец, рускі і іншыя прадстаўнікі другіх нацый. А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народа, як вядома, многа выліта памыяў, годнасць яго прыніжана і мова асмеяна, у яго няма імя, няма твару. А з гэтага вынікае, што беларус-інтэлігент адмяжоўваецца не толькі ад свайго народа, але і ад бацькоў сваіх. Мы ведаем такое здарэнне з адным нашым знаёмым настаўнікам, да якога прыехала з дому матка. У яго былі госці. Ён пры гасцях не пасмеў пазнаць свае мацеры: «Ідзі ты, кажа, кабетка, на кухню: там цябе накормяць».

Ніл Гілевіч[17]

…Перш-наперш я паспрабую паставіць адно пытанне агульнага характару: з чаго трэба пачынаць маладому літаратару? З якім пачуццём выходзіць у шырокі свет мастацкай творчасці, каб пракласці ў ім сваю ўласную пуцявіну?

На мой погляд, трэба пачынаць з усведамлення, што наша літаратура — вечная, што ёй жыць і праз сотні, і праз тысячы гадоў. І што пачыналася яна не ўчора і не пазаўчора, як думаюць некаторыя недасведчаныя таварышы, а шмат стагоддзяў назад. Разуменне вось гэтага — што ў нашай літаратуры за плячамі доўгія стагоддзі, а наперадзе — яшчэ даўжэйшыя — неабходна маладому пісьменніку для таго, каб ніколі не страціць веры ў высокую грамадскую місію слова, слова, якім ты жывеш і з якім звяртаешся да народа, каб ніколі не апусціць крылле і не ўпасці ў роспач…

Ядвігін Ш.

…Мова народа — кроў народа…

---

[17] **Ніл Гілевіч** (1931–2016), паэт, грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі.

Максім Лужанін[18]

…У празрыстых ручаінах усіх славянскіх гаворак чуецца магутная падводная плынь агульнай мовы, якая нарадзіла іх у аддаленыя стагоддзі. І праз доўгія выпрабаванні часам, лёсамі, зброяй рысы матчынага аблічча не страціліся ў абліччах дачок.

Калі ў нашых моваў быў агульны выток, тым больш верагодна, што агульнымі будуць сутокі, як гавораць у нас у Беларусі, — месца, дзе зліваюцца яны…

Пятро Глебка

…Мовы і іх зліццё ў будучым…

А можа і не сальюцца — будзе адна агульная мова, але будуць і свае «раённыя». Вывучаць мовы будзе лёгка, бо знойдуцца добрыя метады, часу будзе больш, бо на матэматыку і інш. прадметы пры гэтых метадах будзе таксама ісці менш часу.

Праца над слоўнікамі, камунікацыя людзей з дапамогай гукавых слоўнікаў: націснуў пальцам на слова «стол» у беларуска-французскім слоўніку, і пачуеш «ле табль»…

Як жа пры такой тэхніцы могуць знікнуць мовы і нацыянальнасці?..

Рыгор Барадулін[19]

**Мая мова**

Сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,
Што паступова сціраюцца грані нацый
І, нібыта як перажытак,
аджыць павінна абавязкова
Мова маці маёй — беларуская мова,
Што мне, як імя ўласнае, блізкая і знаёмая,
Што па жылах маіх цячэ
і сонным Сажом і Нёманам.

---

[18] **Максім Лужанін** (сапр. **Аляксандр Каратай**, 1909–2001), паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык.

[19] **Рыгор Барадулін** (1935–2014), паэт, эсэіст, перакладчык, народны паэт Беларусі.

Я чакаю часіну сябрыны людской,
Але не згаджуся, што родныя мовы луской
Былі на рыбіне чалавецтва,
Якая ў вечнасць плыве акіянам вечнасці.
Галеюць увосень гаі-касмачы,
Па вясне расціскаюць лісты
Свае кулачкі маладыя.
І калі нават мова мая замаўчыць,
То не зробіцца мёртвай латынню.
Словы, дзе кожны гук
Азяблай сініцай цінькае,
Не стануць тэрмінамі медыцынскімі.
Гэтыя словы
Павінны вывучыць будуць нанова,
Каб даведацца,
Як Русь мая, белая
Ад вясновай наквеці
І касцей няпрошанай набрыдзі
З-пад чарапастых свастык,
Вольнай воляй сваёй даражыла,
Як з братамі і сёстрамі
Шчыра дружыла.
Калі мова мая
Уліецца ў агульны людскі акіян —
Пацячэ ў ім, стрыманая,
Цёплым Гальфстрымам.
І будзе мне сэрца грэць
Кожным ашчаджаным словам,
Бо, як жыта, спрадвечная
Беларуская мова!

Максім Танк[20]

**Родная мова**

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,

[20] **Максім Танк** (сапр. **Яўген Скурко**, 1912–1995), народны паэт Беларусі, акадэмік АН Беларусі, грамадскі і палітычны дзеяч.

З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц.
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над будучыняй і над песняй маёй —
Над тым, што было і што век будзе вольным.

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівы васкросшыя закаласяцца, —
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці[21].

---

[21] Варта супаставіць яго з вершам Ганны Ахматавай, напісаным амаль адначасова:

*Мы знаем, что ныне лежит на весах*
*И что совершается ныне.*
*Час мужества пробил на наших часах,*
*И мужество нас не покинет.*
*Не страшно под пулями мертвыми лечь,*
*Не горько остаться без крова,*
*И мы сохраним тебя, русская речь,*
*Великое русское слово.*
*Свободным и чистым тебя пронесем,*
*И внукам дадим, и от плена спасем*
*Навеки. — Заўв. А. Б.*

Алесь Гарун[22]

## Песня-звон

Гэй, ты маці, родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота збіты,
Загрымі ты,
Загрымі!
Гэй, званар, званар мой пане,
Бій у звон, як змогі стане,
Без спачынку,
Безупынку,
Потам зліты,
Ім умыты, —
Бій, звані ты,
Бій, звані!
Гэй, гусляр, пясняр, мой брацe,
Грай, спявай у полі, ў хаце,
Дзе гарота,
Дзе галота,
Дзе нясыты,
Дзе няўмыты.
Ім спыні ты,
Жаль спыні!
Струны хай грымяць і рвуцца,
З болю, з гневу. Хай смяюцца
Разам з імі,
Не чужымі,
Голас чысты,
Залацісты,
З імі злій ты,
З імі злій!..

[22] **Алесь Гарун** (сапр. **Аляксандр Прушынскі**, 1887–1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэння пачатку XX ст.

Ларыса Генiюш[23]

## Родная мова

Мова родная, мова дзядоў!
Іншай мовы мы сэрцам не чуем.
Мілагучнасцю любых нам слоў,
быццам музыкай душы чаруеш.

Мы за вокнамі дзень залаты,
нашых рэкаў пявучыя хвалі,
роднай хаты святыя куты
ў гэтай мове раз першы назвалі.

Мова наша — буйны цветабой!
Пралілася ў ёй першая радасць…
Словы матчыны сыпаліcь ў ёй,
як лісточкі з адцвіўшага саду.

Любай песняй старою гучыш,
з-пад калыскі, з гадоў тых дзяціных,
салаўіным разлівам ўначы,
звонам хваляў прыткой ручаіны.

З-пад вясковых прыветлівых стрэх
мілагучна звініш ад світання;
бы дзявочы, рассыпчаты, смех,
быццам першае ў сэрцы каханне!

Ты — вясною аквечаны луг,
шум дубровы магутны, пявучы;
непадайны сталёвы ланцуг,
што нам сэрцы крывіцкія лучыць!

Так балюча і гэтак даўно
стогне любы народ ў паняверцы;

[23] **Ларыса Генiюш** (1910–1983), паэтка, празаiк, грамадская дзяячка.

ты адна толькі ясным прадном
нам снуесся праз нівы, праз сэрцы.

Святы прадзедаў ты нам адказ,
якім слаўна ў харомах гудзела!
Ты, як неба, як сонца — для нас,
быццам наквеццю сад заінелы.

Мова родная, мова дзядоў!
Іншай мовы мы сэрцам не чуем.
Мілагучнасцю любых нам слоў,
быццам музыкай душы чаруеш.

Алесь Разанаў[24]

**Мова**

Празрысты звон,
грымотны грукат,
скалісты свіст,
магутны гул —
усе
    разрозненыя гукі
цяклі,
каб зліцца
        у агул.
Хісталі
    ўздыбленыя далі,
глыбаста білі ў небасхіл.
І ў немату
        не прападалі,
а западалі
і раслі.
І ціш і гром,
і звон і шорах

[24] **Алесь Разанаў** (1947–2021), пісьменнік, перакладчык, паэт-наватар, аўтар новых паэтычных формаў.

спляліся
            ніткаю радства, —
калі з грудзей,
                        нямых і чорных,
аднойчы
мова прарасла.

Данута Бічэль-Загнетава[25]

**Роднае слова**

Пад казачным дубам
над Нёманам сінім
хлапец прызнаваўся ў каханні
дзяўчыне.

І рэхам той шэпт
адгукаўся між гаю:
…Кахаю, кахаю…

Я чула пяшчотнае,
шчырасці поўнае,
маё, беларускае, роднае, кроўнае,
такое раптоўнае,
такое чароўнае.

Такое ласкавае, цёплае, чыстае,
як сонца, агністае,
як Нёман, празрыстае,
як казка, быліна, як песня,
жаданае,
дагэтуль зусім у жыцці не спазнанае,
вясновае слова ад шчырага сэрца.

Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы.
Вятрыска шаптаў яго
з лісцем між гаю:
…Кахаю, кахаю…

[25] **Данута Бічэль-Загнетава** (нар. 1938), паэтка.

Шапталі яго сенажаць і дуброва,
людзьмі перачутае,
некаму нова,
адзінае, дзіўнае светлае слова —
кахаю… кахаю…

Кахаю…
Люблю…
Беларускаму краю
бясконца я слова «люблю» паўтараю.

Яўгенія Янішчыц[26]

## Мова

*Н. С. Гілевічу*

Чую тваю жаўруковую музыку
Ў скошаных травах мурожных,
Мова! Як сонца маё
                    беларускае,

Ты свецішся словам кожным.
Цябе і заворвалі, і закопвалі.
І ўсё ж нашы продкі праз гора
Данеслі да нас цябе,
                    родную, цёплую,

Жывую і непаўторную.
І калі ты мяне толькі паклічаш,
Памру за цябе без енку.
Нашу я любоў да цябе
                    вялікую
У сэрцы сваім маленькім.

[26] **Яўгенія Янішчыц** (1948–1988), паэтка.

Уладзімір Караткевіч[27]

## Беларуская песня

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.

Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель…
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.

Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.

Дзе мой край?
Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, — ударыш, і зломіцца меч.

Дзе мой край?
Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.

Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.

---

[27] **Уладзімір Караткевіч** (1930–1984), паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык.

Ты — наш край.
                        Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.

Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

Пімен Панчанка[28]

**Родная мова**

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ, —
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.

---

[28] **Пімен Панчанка** (1917–1995), паэт, перакладчык, публіцыст, народны паэт Беларусі.

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,

Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,

Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад —залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад…

Ці плачу я, ці пяю?..
Восень. На вуліцы цёмна…
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне!

## Мова эліты?

Сярод пытанняў, якія я ставіў перад рознымі людзьмі, збіраючы матэрыялы для гэтай кнігі, было наступнае: як Вы ацэньваеце меркаванне (якое даволі часта выказваецца), што з цягам часу большасць беларусаў пакіне сваю мову, а яе жывымі носьбітамі і захавальнікамі застануцца толькі вузкія колы дзеячоў нацыянальнай духоўнай культуры?

Вось тры адказы на пытанне, прыдатныя, на мой погляд, для пачатку глыбокага роздуму:

1. Считаю нормальным (30 гадоў, беларуска, філосаф-прыродазнаўца).

2. Но ведь это и сейчас уже так… К сожалению… (25 гадоў, беларус, журналіст).

3. Ёсць харошае польскае слова «бздура», г. зн. лухта, глупства, трызненне сівой кабылы. Пакуль наша баба стаіць з чапялой ля печкі або круціцца ў хаце каля газавай пліты — нічога такога быць не можа. Ясна, урбанізацыя. Але да таго часу людзі паразумнеюць. І вось адна з галоўных нашых задач — рабіць так, каб паразумнелі.

…Ёсць невялікая ў працэнтах, але досыць вялікая колькасна частка душ людскіх, якія вырашылі, што «жыццё кароткае», а таму адарваліся ад іншых, зашыліся ў свае маленькія «версалі», якіх нічога не цікавіць, акрамя накапіцельства, кішэні, калекцый, вілаў.

Такім глыбока напляваць на чалавека побач, на ўсё чалавецтва, на родную мову, на родны народ.

Яны — той бульён, у якім плодзіцца мікроб абыякавасці і да інтэрнацыянальнага, і да нацыянальнага, да сваёй мовы, да свайго народа, да яго бліскучай і слаўнай будучыні. Яны самі не чытаюць, самі не гавораць, самі нічым не цікавяцца, і таму гэта яны і «выказваюць меркаванне», якое вы закранулі…

Але не пра іх мова. У лепшым выпадку яны вартыя толькі нашай пагарды, пагарды работнікаў на роднай ніве, пагарды сапраўдных людзей.

Аб іх не можа быць ніякай размовы. Яны прыпаўзлі, яны і адпаўзуць, як чэрві.

А чалавек, чалавецтва, культура, мова, нацыя жылі і будуць жыць вечна. (46 гадоў, беларус, паэт.)

## Моўныя прыгоды складальніка ў «Рамонку»[29]

Вернемся, аднак, да нашай нізкі тэкстаў «Беларускія паэты пра родную мову».

Аднойчы я зайшоў у бар «Рамонак», сеў за столік, пачаў разглядаць людзей.

Недалёка ад мяне пілі кактэйль прыгожая маладая жанчына з мужчынам, відаць мужам. Жанчына не размаляваная, апранутая сціпла, але з высокім густам. Мне здалося, што яна беларуска і што родам яна з вёскі. Мужчына сядзеў да мяне спінай, яго я добра разгледзець не мог.

Калі я падышоў да іх, яны ўжо ўсталі, збіраючыся ісці.

— Прабачце, вы спяшаецеся? — звярнуўся я да мужчыны.

— Да, мы спяшым, — суха адказаў ён з выразным беларускім акцэнтам.

— Я з інстытута мовазнаўства. Можа, вы б згадзіліся даць мне невялічкае інтэрв'ю… Тут у мяне некалькі выказванняў і тры вершы пра беларускую мову, — я выцягнуў з кішэні свае лісткі. — Вы іх пагартайце, калі ласка, і скажыце мне сваё ўражанне.

— Нет, мы спяшым, — зноў сказаў ён, і яны пайшлі.

Крыху збянтэжана я вярнуўся да свайго століка. У гэты момант за суседні стол села даволі шумлівая кампанія зусім маладзенькіх дзяўчат і хлапцоў (відаць, школьнікаў-старшакласнікаў ці студэнтаў тэхнікума). Некаторыя з дзяўчат былі густа размаляваныя, трымаліся вельмі свабодна. Хлопцы, з лёгкім пушком над верхняй губой, здавалася, былі ўжо даволі «паддаўшымі». Адна дзяўчына, на выгляд — яўна вясковая, рэзка адрознівалася ад астатніх, сядзела збоку і маўчала. Гэта і падштурхнула мяне.

— Дзень добры, — сказаў я, падышоўшы да іхняга століка і злёгку пакланіўшыся спачатку ёй, а потым усім астатнім.

---

[29] Маецца на ўвазе **кактэйль-бар «Рамонак»**, які знаходзіўся на цяперашнім праспекце Пераможцаў, 7, дзе сёння знаходзіцца дысконтцэнтр над фірмовай крамай «Камунарка». Гэта было культавае месца мінскай моладзі канца 1970-х — 1980-х гг.

— Здравствуйте, — адказала яна і яшчэ некаторыя з дзяўчат. Хлопцы маўчалі.

— Я з інстытута мовазнаўства. Вы б не згадзіліся даць мне невялічкае інтэрв'ю?..

— А в чём дело? Какое интервью? — спытала другая дзяўчына. Усе глядзелі на мяне неяк здзіўлена.

— Вось, — я паклаў на стол свае ліcткі, — тут некалькі выказванняў і вершаў беларускіх паэтаў… Я запісваю першыя ўражанні людзей аб гэтых тэкстах. Пагартайце, калі ласка, і скажыце, што вы думаеце пра гэта…

— Извините, мы не изучали белорусского языка, — сказала дзяўчына, якая так спадабалася мне з самага пачатку.

— Вы, відаць, спяшаецеся, — сказаў я, крыху разгубіўшыся. Хлопец, які якраз у гэты момант падышоў да стала з кактэйлямі, холадна сказаў:

— Да, мы спешим.

— Чаму, я вучылася, — амаль адначасова з ім сказала дзяўчына з другога краю стала, вельмі прыгожая, размаляваная, у міні-спадніцы.

— Пагартайце, калі ласка…

…Узяла, пагартала…

— Нет, я плохо знаю… Мне трудно читать… — аддала мне тэксты…

— Извините, — сказала мне ўслед тая, што была так непадобная на ўсіх астатніх.

Далей мне, аднак, шанцавала ўжо крыху болей.

Я звярнуў увагу на двух маладых хлапцоў, што пілі праз саломку кактэйлі недалёка ад мяне. Адзін — з даўгімі ільнянымі валасамі, з вусамі, шэравокі. Вельмі ж ужо беларускі тып твару! Другі — вышэйшы, цямнейшы. Вусы яшчэ зусім пуховыя — як у тых, што весяліліся побач са мной. Я падышоў да першага — калі другі адышоў да стойкі ці ў касу…

Той згадзіўся ахвотна… Другі, калі вярнуўся, таксама ахвотна далучыўся да справы…

Яны пачыталі. Папрасілі руку і паперу і напісалі некалькі слоў. Я сачыў, як яны чыталі: твары адразу зрабіліся вельмі сур'ёзныя… Першы прынёс ліcткі да майго століка. Я падзякаваў.

— Ну что вы? Вам спасибо, — сказаў ён. І тут жа, крыху засаромеўшыся, дадаў: —Дзякуй…

Вось што яны мне напісалі:

*«Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы.*
*Вось, як цяпер, перада мною*
*Ўстае куточак той прыгожы…*

*Так как сам я музыкант, мне очень нравятся стихи Якуба Коласа. І я, як і ён, люблю сваю Беларусь!!!, очень люблю. В. К. Мінскае музычнае вучылішча ім. Глінкі. 1956 г. рождения.*

*Беларускую мову я ведаю, на жаль, дрэнна. Але я знаю, што беларускіх паэтаў у нас ёсць нямала. Я люблю паэтаў і таксама беларускую мову. П. К. 1960 г. рождения. ММУ им. Глинки.*

*P. S. Так как я музыкант (будущий), я очень люблю и уважаю “Песняроў” за их белорусские песни».*

Потым я даў свае падборкі тэкстаў двум маладым хлопцам з прыгожымі спартыўнымі сумкамі. Згадзіліся ахвотна, чыталі вельмі сур’ёзна.

— Сразу понятно, зачем вы дали нам почитать, — сказаў адзін. — Мы спортсмены. Мы объездили весь Советский Союз. Везде все между собой говорят на своём языке. Единственное исключение — это Белоруссия и Украина…

— Украина — нет, — перабіў яго другі.

— Некоторые считают, — працягваў першы, — что некрасиво говорить на своём языке. Я так не считаю. Очень приятный, музыкальный наш язык… С чем связана потеря родного языка?.. Не знаю.. Но это уже слишком далеко зашло, и возродить это, видимо, уже невозможно… Процесс зашёл уже слишком далеко… У нас считают за стыд говорить на своём родном белорусском языке… Скажи грузину что-нибудь плохое о его языке — за нож схватится. А у нас?… Скажи белорусу — и ничего, стерпит… Во многом мы ушли дальше других республик. Но забывать свой язык нельзя… Может быть, это от того, что у нас более высокое образование?.. И мы считаем пережитками традиции отцов, дедов… Вот у грузин — свадьбы!… Там традиции чтут…

— Сваякі твае па-руску гавораць?
— Да.
— Бабкі, дзяды?
— Все…
Другі: Сам я русский. Живу в Белоруссии уже лет 10. И как-то обидно за народ, за нацию. Началось с языка… Мне кажется, исчезает язык – исчезает нация… Нету национальной гордости…
Першы: У нас нет гордости за Республику…
Другі: Это уже никого не интересует — проблемы национальные…
Першы: Девушки вон сидят — пьют… Пойдут — покурят… Думают они совсем о другом…
Другі: Возможно, это связано с тем, что белорусский народ как-то к русским ближе. Вот литовцы — не любят русских. А белорусы — относятся хорошо… Украинцы, особенно западные, — там национализм сильный… Это и с войной связано. После войны много приехало…
Першы: Это связано и с цивилизацией. Стыдятся говорить по-белорусски, чтобы не выглядеть «нецивилизованными»… Про себя что можем сказать?.. Нам по 19 лет, занимаемся вольной борьбой… У нас есть гордость за Республику. Мы пóтом, трудом своим… травмы очень часто бывают… и кровью даже боремся за её честь… И в других республиках, и за рубежом… Но о себе мы не любим говорить…
Вельмі добразычліва (і канструктыўна) адгукнуліся на маю просьбу і дзве прыгожыя дзяўчыны, пра якіх першы з маіх субяседнікаў сказаў, што яны «думают о совсем другом». Вось які аўтограф, напісаны амаль дзіцячым почыркам, яны падарылі мне:
*«Беларускія лясы, вёскі, рэкі, блакітнае неба. Сапраўды, усё гэта найбольш прыгожа, поўна, шчыра можа перадаць толькі беларуская мова. Яна здаецца мне такой пяшчотнай, добрай. Я вельмі люблю беларускія песні. Але чамусьці зараз сустракаеш вельмі мала людзей, асабліва ў горадзе, якія б размаўлялі, спявалі на роднай, беларускай мове.*
*І гэта складалася гадамі. Мае бацькі размаўляюць на рускай мове, але бацька — з беларускай вёскі, з-пад Брэста.*

*Чаму так? Калі чалавек пападае ў горад — забываецца беларуская мова. А было б цудоўна чуць усюды: “калі ласка, дзень добры, дзякуй”.*

*Я поўнасцю падтрымліваю вашу падборку. Трэба помніць, любіць родную мову. Гэта любоў неадрыўна ад любові да роднай зямлі, да Мінска, сваёй вуліцы, дома.*

*Кожны дзень усё гэта — разам з табой, зусім блізка. А калі ты далёка ад дома, самая цудоўная ўзнагарода — пачуць беларускую мову або што-небудзь аб Беларусі, Мінску.*

*Давайце помніць аб беларускай мове, размаўляць на ёй. А калі не размаўляць — дык паважаць яе.*

*Студэнткі Мінскага радыётэхнічнага інстытута; год нараджэння — 1959».*

Калі я папрасіў другую дзяўчыну напісаць мне некалькі словаў, яна пачырванела і сказала: «*Я присоединяюсь к ней… мы вместе…*»

## …І пасля…

Па дарозе дадому я зайшоў у «Фота» — спытаць, ці гатовыя фотаздымкі маёй дачкі. Папрасіў прабачэння, што спазніўся…

— Ой, вы так хорошо говорите по-белорусски, — сказала мне маладзенькая дзяўчына, перабіраючы канверты са здымкамі. — Так приятно вас слушать!..

— Няўжо?..

— Правда… Вы, наверное, в театре работаете?..

— Да-а… Сапраўды — жывы тэатр на сцэне беларускай сталіцы!.. Вы беларуска?..

— Нет, я недавно приехала… Из Московской области…

— А калі б у вас у Маскве спыталі: чаму гэта вы па-руску гаворыце?.. Вы, часам, не ў Малым тэатры працуеце?.. Як бы вы рэагавалі на гэта?..

— А правда… Вот я в Киеве была… Остановки в автобусе объявляют по-украински. Я — ничего не понимаю. И пассажиры между собою как-то по-украински говорят…

— Няўжо?.. Што яны — звар’яцелі?..

(Смяецца.)

— Вы таксама здалёк да нас прыехалі? — спытаў я ў яе напарніцы.

— Нет, я белоруска, — сказала яна, крыху засаромеўшыся.

— Нешта я не чую вашай беларускасці… Толькі бачу — прыгажосць вашу…

(Пачырванела. Маўчыць.)

— Усяго вам добрага, дзяўчаты!

— Да пабачэння, — адказала з добрай усмешкай тая, што прыехала з Маскоўскай вобласці.

— Да пабачэння, — далучылася да яе прыгажунечка-беларусачка.

## З ліста былога беларуса…

Развітаўшыся з дзяўчатамі, я ізноў — каторы ўжо раз! — вярнуўся ў думках сваіх у студзень 1977 года, калі адна жанчына паказала мне ліст з Масквы — ад свайго роднага брата. Ён дзяліўся з ёю сваімі ўражаннямі аб кнізе ўспамінаў пра вядомага беларускага паэта. У лісце шасцідзесяцігадовага беларуса, інжынера па прафесіі, які ўжо некалькі дзесяцігоддзяў жыў і працаваў у Маскве і толькі зрэдку прыязджаў у Мінск да сястры, быў фрагмент, які мяне моцна ўразіў, і я, з дазволу гаспадыні, перапісаў яго. Відаць, менавіта з гэтых радкоў і пачала складацца кніга «Што мы думаем пра цябе — беларуская мова?».

Вось гэтыя радкі:

«…*Второе моё замечание по поводу перевода на белорусский язык. За такой перевод я поставил бы переводчикам двойку. Мне, белорусу, читать эту книжку, написанную на родном языке, довольно трудно. Воображаю, как могут её читать остальные. Ведь в наш век технического прогресса, массовой информации, укрепления международных связей, роста экономики, культуры, грамотности, социальных потрясений и, наконец, в силу географического положения Белоруссии сам по себе белорусский язык за последние годы сильно изменился, и значительно сузилась область его применения. Белоруссия является наглядным примером*

*сближения наций (русской и белорусской), о котором в своё время говорил Ленин. Сейчас всюду и везде, на конференциях, в деловой переписке, при издании научной, технической литературы и т. д. применяется русский, а не белорусский язык. Высокий уровень транспортных связей ликвидировал "медвежьи уголки", где сохранился белорусский язык, национальные традиции и т. д. Белорусский разговорный язык сейчас стал русско-белорусским. И вот в такой обстановке находятся мудрецы, которые выкапывают из глубины веков давно вышедшие шз употребления слова или просто выдумывают новые и преподносят нам как развитый современный настоящий язык, мало кому понятный. Ведь народ не хочет такого языка, он предпочитает своих детей посылать не в белорусские, а в русские школы, покупать не белорусские, а русские газеты и т. д. Зачем же навязывать такой язык людям, который не помогает, а мешает росту культуры? Мы сейчас живём в такое время, когда русский язык стал изучаться в 70 странах мира, когда неизмерно вырос авторитет этого языка, нашей страны. Спрашивается, зачем становиться поперёк жизни, чураться русского языка, тратить деньги, издавать книги, журналы на языке, мало известном широкому читателю?».*

Беглі дні, тыдні… Фрагмент гэты ўсё не выходзіў з мае галавы…

Нічога прынцыпова новага — у параўнанні з тым, што я чуў аб гэтым раней, — тут не было: паасобку і з меншым запалам падобныя меркаванні даволі часта выказваюцца нашымі сучаснікамі. Але па спрасаванасці аргументаў і своесаблівай глыбіннай эмацыянальнасці гэта было значна мацнейшым за ўсё папярэдняе…

Неяк сама сабой з'явілася думка — зрабіць невялічкую падборку тэкстаў: «Беларускія паэты — пра беларускую мову»…

Зрабіў. І з лістом «маскоўскага беларуса» пачаў паказваць яе людзям розных прафесій і пакаленняў, запытваць: што яны думаюць пра ўсё гэта? Іхныя ўражанні і думкі я запісваў. Некаторыя — самі мне нешта пісалі. І з гэтых запісаў атрымалася кніга, якая цяпер перад вамі.

Вашыя думкі аб гэтых тэкстах, паважаны чытач, аб тым, што ў іх, — я таксама буду чакаць з вялікай цікавасцю і ўдзячнасцю…

Я не буду далей апісваць свае прыгоды, звязаныя са збіраннем матэрыялаў для гэтай кнігі. Калі-нікалі мо і падкрэслю нешта характэрнае ці проста цікавае, на мой погляд. Бывала, мае субяседнікі адхіляліся крыху (а мо і болей) непасрэдна ад тэмы. Калі-нікалі іхны маналог пераходзіў у дыялог (са мной ці з тымі, хто далучаўся да нашай гутаркі). Сёе-тое з гэтага, цікавае, на мой погляд, для раскрыцця ці «падсветкі» галоўнага, я прывяду. Дарэчы, і асноўнае наша пытанне настолькі шырокае і глыбокае, настолькі неадрыўнае ад самых глыбінных плыняў чалавечай душы, што фактычна яно змяшчае ў сабе шмат якія моманты светаадчування чалавека, якія прама, вонкава мо і не звязаны з праблемай мовы, але якія мэтазгодна мець на ўвазе — для больш глыбокага разумення адказаў на асноўнае пытанне — для тых, што былі, ці нявымаўленых…

Дык вось, запрашаем Вас, паважаны чытач, за «круглы стол» чалавечай думкі, таго, што я, мо і крыху вольна, заву сучасным філасофскім фальклорам…

Я наўмысна не даю прозвішчаў, навуковых ці ганаровых званняў. Я хачу, каб гэта была не нарада канкрэтных асоб і чыноў, а сапраўдная сябрына жывой чалавечай думкі. Я адзначаю толькі ўзрост, нацыянальнасць і прафесію чалавека…

*Раздзел II*

# Што мы думаем пра цябе — беларуская мова?..

*(40 гадоў, беларус, філолаг з Віцебшчыны)*

Ёсць такая легенда. Раніцай беларуса павесілі. Увечары прыйшлі здымаць. Знялі. Ён толькі крэкнуў, памацаў шыю, крыху пакруціў галавой… і пайшоў… Каты вылупілі вочы, разявілі раты. Столькі вешалі! — а такога не бачылі… Потым адзін схамянуўся, крычыць: «Пачакай! Скажы ж, калі ласка, як гэта ты?.. Адвеку ж не было такога!..»

Той прыпыніўся і кажа: «Перш балела… А потым — прыцярпеўся».

І пайшоў прэч…

У гэтым сімвале — сітуацыя… нацыянальны характар… лёс культуры і мовы… лёс народа…

*(Каля 50 гадоў, беларус, гісторык з Гродзеншчыны)*

Гісторыя паставіла беларускі нацыянальны арганізм ва ўмовы бязлітаснага выпрабавання на жыццяздольнасць. Праграма адраджэння, сфармуляваная ў першай чвэрці XX стагоддзя, не была выканана. Вульгарная сацыялогія знішчыла большую частку беларускіх інтэлігентаў, рэштку — духоўна і творча знявечыла. Затым — нацысцкае нашэсце…

З другой паловы пяцідзясятых гадоў недзе ў самых глыбінных плынях культуры адчуваецца працяг перапыненага ў трыццатыя гады руху…

У цяперашні час лёс не толькі беларускай, але і ўсіх іншых нацыянальных культур і моў вырашаецца тут, на Беларусі.

«Мова — кроў народа» (Ядвігін Ш.). Гэта ісціна. Абяскроўлены народ — як носьбіт пэўнай духоўнай індывіду-

альнасці — знікае. А разам з гэтым страчваюць нешта істотнае і ўсе іншыя, бо арганізм чалавецтва складаюць народы, іхныя культуры і мовы злучаныя ў гармонію, сэнс існавання якой (як і прыроднай гармоніі) мы пакуль што не ўсведамляем.

Раней беларускую культуру касілі, але яна, быццам трава, зноў і зноў выроствала, ажывала. Цяпер знішчаюцца карані культуры — вёска… У прафесійнай жа нашай інтэлігенцыі, калі яе ўмоўна разглядаць як нешта цэлае, — нацыянальная лейкемія. Па сваіх адносінах да беларускай мовы наша інтэлігенцыя выразна дзеліцца на пяць груп:

1. «Балота»… Бяздумныя спажыўцы сучаснай масавай культуры. Яны абыякавыя не толькі да мовы, але і да ўсяго іншага, апрача спажывецтва… Іх болей за ўсіх астатніх…

2. Чарнасоценцы. Яны шчыра «за беларускую культуру» — але, па магчымасці, без беларускай мовы і духу.

3. Вульгарныя прагматыкі. Яны ўсё разумеюць, але робяць так, як ім выгадна. Сёння для кар'еры выгадна размаўляць і пісаць па-руску — яны так і робяць. Заўтра вецер зменіцца — яны пераарыентуюцца ўмомант. Іх крыху меней, чым чарнасоценцаў, але таксама багата.

4. Культурнікі. Іх няшмат. Яны добрасумленна распрацоўваюць на беларускай мове чыста культуралагічную праблематыку. Гавораць на мове. Палітыку, па магчымасці, абыходзяць.

5. Беларускія інтэлігенты — поўныя, як мае быць. Бескампрамісныя змагары за сапраўднае адраджэнне беларускай дзяржавы, культуры, мовы. На іх начэплены ярлыкі «нацыяналістаў». Тут іх адзінкі. У эміграцыі, можа, крыху болей.

…Ці здолеюць беларусы спыніць знішчэнне вёскі — каранёў сваёй культуры і мовы?.. Пераадолеюць нацыянальную кволасць сваёй прафесійнай інтэлігенцыі?..

Якія «намеры» тут пані гісторыі? Чаго яна «хоча» ў рэшце рэшт?..

Усе гэтыя пытанні — адкрытыя…

*(Паміж 20 і 30, беларуска, літаратар)*

Я могу говорить по-белорусски… Но барьера какого-то сломать не могу… неуверенность… Боюсь сказать не так… отсюда смущение…

…Белоруссия — колония России… Во всём, в том числе и в отношении языка и культуры… Проводится русификаторская политика — и москалями, и собственными колаборационистами. Люди воспитываются на языке господствуюшего класса политической бюрократии. Господствует чувство неполноценности собственного языка…

…До русского господства было два века польского… Так что интеллигенции белорусской — в смысле устойчивых, из поколения в поколение передаюшихся традиций культуры — фактически нет. Белорусов-интеллигентов выбили в восстаниях 1831, 1863, 1917-го… и, наконец, в 1930-е…

Через какой-то срок интеллигенция сломает барьер. И у народа отношение к языку изменится. Может быть, и через полвека — но это будет…

Люди, работаюшие в литературе, поворачивают этот процесс…

…Вредно ставить вопрос так, что культура связана только с деревней, с землёй. Деревня всегда была ориентирована на фольклор, на удержание языка — неосознанное…

Сознательная культура держится на интеллигенции и связана с памятью об истории…

…Почему латыши, эстонцы, грузины — менее колонизованы? Во-первых, алфавит. Во-вторых, православие (вместо униатства) — главный носитель русификации… И — вырубили интеллигентов…

Нет носителей культуры… Только сейчас начинается подъём. Город ещё не выдвинул крупных национальных деятелей, интеллигенцию… Следуюшее поколение — даст… Р.[30] — самое главное для меня свидетельство этого. Хоть родом он и не из города… Очень высокая у него культура — и стиха, и духа…

---

[30] Відаць, маецца на ўвазе Алесь Разанаў.

Человек должен, владея материалом мировой культуры, осмыслить историю и современность и написать всё это на белорусском языке…

…Огромные империи — они всегда вели к удушению человека. К духовной пустоте, озверению… И неминуемо разваливались… А на осколках начиналось возрождение…

Средоточие культуры — всегда человек, а не общество. В малом обществе меньшая вероятность большого гнёта. Культуры, как правило, расцветали в небольших очагах… Афины, Венеция…

(Але і цяпер працэс стварэння адзінай сусветнай дзяржавы развіваецца няўхільна. Гэта дыктуецца і экалогіяй, і НТР, і космасам…)

— Этого никогда не будет!.. Но если бы это и случилось — это была бы катастрофа невероятная… Это была бы казарма хуже, чем сейчас в Китае… Гибель всякой культуры, а не только белорусской, русской или китайской…

*(Каля 40 гадоў, беларус, філосаф)*

…Уменне пасмяяцца і нават паздзекавацца з самога сябе — сведчанне духоўнага здароўя любога народа. Экстравагантныя, экстрэмальныя фармуліроўкі — вельмі карысныя прыступкі для пошукаў аптымальных дзеянняў. У гэтым сэнсе — няхай жывуць экстрэмісты!..

Тыпалогія нашай інтэлігенцыі, якую дае гісторык з Гродзеншчыны, б'е не ў брыво, а ў вока!.. Праўда, пажадана, каб вока ўсё ж засталося — бо вызначэнні першых чатырох тыпаў могуць выбіць чалавеку не толькі вока, але і тое, што за ім. Пяты ж тып вызначае нейкіх анёлаў, якіх цяжка знайсці не толькі ў нас, але і ўва ўсім свеце…

«Мову, кроў культуры сваёй» народ павінен ахоўваць заўсёды, якой бы жорсткай ні была да яго маці (ці мачыха) — гісторыя. І характар гэтай маці-мачыхі трэба добра ведаць тым, хто нясе прафесійную адказнасць за лёс нацыянальнай духоўнай спадчыны.

Гістарычны працэс няўхільна развіваецца ў напрамку стварэння ўсё больш вялікіх сацыяльна-эканамічных і палітычных аб'яднанняў, а ў рэшце рэшт — у напрамку

глабальнай гаспадарчай, навуковай і палітычнай інтэграцыі чалавецтва. Спыніць гэты рух сацыяльных гігантаў наўрад ці хто здолее, бо гэта не мае рацыі — ні экалагічнай, ні эканамічнай, ні навуковай. Пажадана, каб дзеячы духоўнай культуры гэта разумелі і не раздражнялі палітыкаў-прафесіяналаў сваімі дылетанцкімі павучаннямі. На жаль, узровень палітычнай культуры сярод нашай інтэлігенцыі жахліва нізкі.

З другога боку, надышоў час і палітыкам пазбавіцца дзіцячай хваробы, якая завецца вульгарнай сацыялогіяй. Асноўныя сімптомы захворвання на вульгарную сацыялогію наступныя: 1. Экстрапаляцыя заканамернасцяў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага «макрасвету» на «мікрасвет» нацыянальнай духоўнай культуры. 2. Прымітыўны аўтарытарызм — замест творчага выкарыстання эўрыстычнай сілы вялікіх людзей. 3. Вырашэнне навуковых (шырэй — духоўных) спрэчак «большасцю галасоў».

У мікрасвеце духоўнай культуры працэсы нацыянальнай дыферэнцыяцыі паглыбляюцца. Змагацца з гэтым дарэмна — як і з працэсам інтэграцыі народаў у галіне матэрыяльнай культуры. І чым глыбей прафесійныя палітыкі зразумеюць гэта, тым больш сяброў сярод творчай інтэлігенцыі яны набудуць, тым эфектыўней (у спрыяльным псіхалагічна-духоўным клімаце) будзе ажыццяўляцца сацыяльна-эканамічная і палітычная інтэграцыя народаў, іх маральны і эстэтычны прагрэс.

«Кесару — кесарава, Богу — Богава». Трэба, каб гэты славуты старадаўні сімвал часцей успаміналі прадстаўнікі дзвюх дружалюбных прафесій: палітыкі і дзеячы духоўнай культуры. Тады іхнія творчыя ўзаемадачыненні будуць больш плённымі — для кожнага народа і чалавецтва.

З цягам часу будуць і ў нас (як у Канадзе, ЗША) велізарныя гаспадаркі — па некалькі тысяч гектараў, якія даглядаюць некалькі чалавек. Што ім — жыць на хутары?.. Да хутароў ужо ніхто не вернецца. Яны могуць жыць у гарадах. Селі на свае машыны і паехалі на працу…

…А чаму ўвогуле патрабаваць, каб культуру і мову захоўвалі толькі сяляне?.. (Селянін (*крестьянин*) — гэта ка-

тэгорыя не індустрыяльнай эпохі.) Трэба, каб працэс развіваўся і ў гарадах. Трэба, каб адукаваныя людзі — інтэлігенцыя, рабочыя — захоўвалі нацыянальныя традыцыі, каб не толькі вёска, але і горад бярог карані культуры і мовы, якія па ўсёй зямлі нашай…

*(Каля 40 гадоў, беларус, настаўнік з Магілёўшчыны)*

Дык каб жа ён развіваўся ў гарадах, гэты працэс — было б цудоўна!.. Але ж ён не развіваецца, вось у чым справа… Ці мала што я ведаю, як трэба рабіць, але нічога не раблю?..

…Праблема «вёска — горад» у нашай культуры… Той, хто бачыць у ёй толькі вонкавыя сучасныя прыкметы, той анічога не бачыць. Ён не разумее сутнасці справы…

Беларускія гарады былі ў XVI–XVII стагоддзях. А пазней гарады былі ўжо не беларускія, беларусаў там была абсалютная меншасць. Вазьмі 1930 год. Нацыянальная структура БССР: сяляне — 86,11 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва. А ў гарадах беларусаў толькі 39 працэнтаў. (Яўрэяў — 40,14 працэнта, рускіх — 15,6, палякаў — 2,32 і г. д.) А калі ўзяць Мінск на пачатку нашага стагоддзя, то беларусаў там было толькі каля 10 працэнтаў. Іншанацыянальныя пласты валодалі ўсёй гарадской культурай. І калі вёска пачала міграваць у горад, гэтыя людзі імкнуліся дапасоўвацца да гарадской культуры. Так што асновай беларускай культуры і мовы была вёска. А гарады калі і былі цэнтрамі культуры, дык культуры на тэрыторыі Беларусі, а не беларускай культуры.

Калі літоўцы ў 1920–1930-я гады жылі самастойнай дзяржавай, сталіцай яны зрабілі Каўнас, засялілі яго літоўцамі і зрабілі яго цэнтрам літоўскай культуры. Усе, хто не змог дапасавацца, — выехалі…

І далей. Калі прыняць логіку сучаснай вонкавасці («*кажимости*»), то, значыць, людзі з цягам часу зусім адздзеляцца ад зямлі, як той Антэй[31]?.. Усё ж праў быў стары

---

[31] **Антэй** — старажытнагрэцкі герой-волат, сын бога Пасейдона і багіні Геі, які атрымоўваў неперарможную сілу пры судакрананні з маці-зямлёй.

Талстой[32], і няма чаго рабіць з яго дурня: «Мастак быў вялікі, а мысліцель прымітыўны». Гэта ж глупства!.. Ці ж мастацтва магчыма без глыбокага мыслення?.. Не з горада ў вёску ездзяць працаваць, а наадварот — з вёскі, селі, як кажа той літаратар, на свае машыны і паехалі ў горад, папрацавалі — і назад…

Няправільна ўсё ж такі аддзяляць людзей ад зямлі: захацеў чалавек далучыцца — хай робіць. Дайце яму кавалачак — колькі здужае, — і хай вырабляе, што хоча — кветкі, бульбачку, і прадае дзяржаве… А жывёліна… яна ж і ласку любіць, і каб пагаварыў з ёй чалавек на сваёй мове… Гэта ж не аўтамат нейкі, які толькі «дае прадукцыю»…

…А вёска наша ўсё ж гаворыць на мове!.. Ёсць, праўда, несумяшчальнасць беларускай мовы з урбанізацыяй і механізацыяй вёскі. Гэта сапраўды адрыў ад каранёў… Як толькі механізатар вывучыцца, ён ужо прыязджае дадому і стараецца гаварыць па-руску… Атрымліваецца антыномія паміж урбанізацыяй вёскі і традыцыямі беларускай культуры… А выйсце простае: выкладаць бы гэтым механізатарам беларускую літаратуру, фальклор… і прадметы на мове. Вось і ўсё…

Літаратараў нашых папракаюць, што яны не засвоілі індустрыяльную тэму. Ёсць у нас «індустрыяльныя творы». Там ёсць індустрыялізацыя, але няма літаратуры. Адразу адчуваецца фальш. Каб пісаць праўду, трэба ўводзіць рускую мову… Каб там працэсы адбываліся на мове і каб яны вылучылі са свайго асяроддзя пісьменнікаў — вось тады б была літаратура!..

А памрэ вёска — знікнуць і беларускія пісьменнікі. Бо пакуль што вёска, якая «памірае», усё ж такі дае нам пісьменнікаў і паэтаў…

Карані гэтыя можна перасадзіць і ў горад. Але гэта занадта складаны працэс… Калі б пра гэта думалі пачынаючы з 1920-х гадоў — о!.. якія дубровы ўжо шумелі б у гарадах нашых…

---

[32] **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828–1910), рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

А пра знішчэнне каранёў нашай мовы можна сказаць і больш. Калі настаўнік прыходзіць у беларускую вясковую школу — усе дзеткі гавораць на мове і нават з дыялектамі. А настаўнік — на рускай. І падаўляе іх сваім аўтарытэтам. І дзіцянё пачынае лапатаць на дрэннай рускай мове: словы рускія, вымаўленне беларускае. І ўсё яго першараднае моўнае багацце разбураецца…

Можна сказаць: школа знішчае беларускую мову. Не было б школы — яна б квітнела яшчэ доўга!.. — як гэта ні парадаксальна…

*(Беларус, 41 год, адзінаццаць з іх аддаў журналістыцы, да гэтага ж быў рабочы і калгаснік, крыху настаўнічаў, некалькі гадоў жыў за межамі Беларусі)*

Мова заўсёды была і ёсць катэгорыя патрыятычная.

Наша мова пры яе арыгінальнасці і самабытнасці — рэч даволі ўнікальная. Яна — продак усіх славянскіх моў, таму і зразумелая ўсяму славянскаму свету. Зразумелая яна і кожнаму чалавеку, які размаўляе па-руску. І гэтым трэба ганарыцца!

Чалавецтва яшчэ не пазбавілася шмат якіх заганаў, сярод іх нямала злачынных, антычалавечых, якія забіраюць у народаў свету аграмадныя матэрыяльныя, духоўныя і фізічныя рэсурсы (войны, п’янства, курэнне, хцівасць, крывадушша, марнатраўства, маральная і грамадзянская спустошанасць). І з імі перш за ўсё трэба змагацца грамадству.

Родная мова ж — душа чалавека. Яна ўзвышае яго асобу, робіць яе высакароднай. Дык навошта высакародную з’яву кідаць пад ногі?!

Глыбока веру, што наша мова не будзе кінута на знішчэнне ні самім народам, ні нейкімі звышсіламі. Яна частка прыроды. Яна сутнасць нашай псіхікі, душы. Без яе мы, як казаў Багушэвіч, нямыя калекі. Ва ўсякім разе, на сучасным этапе развіцця грамадства і ўсяго чалавецтва.

Кажуць, што беларускую моўную пазіцыю паслабляе тая акалічнасць, што беларуская і руская мовы роднасныя, блізкія… Але ж блізкая, роднасная беларускай мове і ўкраінская. А гэтай з’явы з боку ўкраінскай мовы не назіраецца. Значыць, да роднаснасці дадаецца і яшчэ штосьці.

*(Паміж 20 і 30, беларуска, супрацоўніца мінскай культурнай установы)*

...Мова эліты?.. Гэта — толькі як пераход да нечага больш устойлівага. Бо калі толькі эліта — мова не захаваецца...

...Калі знікне вёска — што можа быць тады з мовай?..

...Зараз свядома захоўвае мову эліта... Павінна быць асяроддзе для існавання мовы, штодзённае... плынь такая... Ці будзе яна?.. Цяжка сказаць цяпер... Калі зможа гэтая эліта стварыць такое асяроддзе — тады нешта будзе...

Гэтая вялікая задача стаіць цяпер перад элітай...

І нават сярод эліты толькі адзінкі свядома робяць гэта... астатнія — па інерцыі нешта робяць, пішуць і г. д.

...Як праведнікі, як месіі — гэтыя людзі павінны рабіць сваю справу...

...Людзі глядзяць, хто гэта робіць, прыглядаюцца да тых, хто гэта робіць...

Гэта павінна было б рабіць бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў... Але яны толькі кампраметуюць гэтую справу...

...А пакуль што сярод людзей мастацтва такое ёсць... Маладыя мастакі, кампазітары... Прама на вачах такое адбываецца... Тады адразу ёсць пра што пагаварыць...

Тое, што ў вас... дакументальнай шчырасці такога плану — пра сучаснасць — да гэтага часу яшчэ не рабілася...

...Не тое што мы не падрыхтаваныя да такога... а непрывычна неяк: сёння так шчыра гаворыцца пра сёння, а мы прывыклі — толькі пра ўчора... Прыблізна так думае моладзь урбаністычнага тыпу...

...Наконт перспектыў развіцця?.. Не вельмі аптымістычна гляджу на гэта...

У вёсцы захавалася не культура слова... Там — несвядомая перадача... Псіхалагічныя з’явы павінны быць у комплексе — каб культура працягвала развівацца далей...

...Тыпалогія беларускай інтэлігенцыі?.. Мяне — да шостага тыпу... Што гэта такое?.. Чалавек... культурны, які дбае пра захаванне сваёй нейкай адметнасці... і нацыянальнай... Але на аснове таго, што было, не на аснове захавання вёскі, а на аснове сінтэзу нацыянальнага і сучаснага...

Што да прапанаваных пяці тыпаў[33], то, мне здаецца, там не ўсё вызначана дакладна. Першы тып: «балота». Сярод інтэлігенцыі якраз менш за ўсё абыякавых… «Чарнасоценцы» — гэта фармалісты, чыноўнікі… Прагматыкаў больш за ўсіх… «Культурнікі» і пяты тып — не зусім разумею…

…Інтэлігенцыя больш багатая на эмоцыі, на глыбокія адносіны да карэнных пытанняў… А прапанаваныя вызначэнні занадта схематычныя, жорсткія… Не ацэньвалі мы яшчэ глыбока ні тыпы, ні працэсы, таму ставіць нейкія штампы — ці маем мы права?..

У адносінах да мовы трэба размяжоўваць два тыпы адказаў: гараджанін — ці вясковы чалавек…

А знішчэнне вёскі адбываецца і адбудзецца… Трэба знайсці нешта іншае…

…Амерыканская культура амаль без усякіх традыцый: трошкі негрыцянскага, трошкі другога… А ў нас такога не адбываецца. Адраджэнне нацыянальных культур у нас — на аснове асэнсавання вопыту, больш глыбокага ўспрымання культур сусветных, цывілізацыі… Айтматаў[34], напрыклад…

На такой аснове адбываецца і ў афрыканскіх краінах працэс адраджэння нацыянальных культур… Адукаваныя людзі часта наадварот — імкнуцца ў джунглі… Імкненне да захавання каранёў — і ў той жа час неяк па-новаму…

Трэба, каб кожны чалавек запытаў сябе самога: хто ты, якія карані маеш?..

…Культура цяпер і сінтэтычная, і касмапалітычная… Адбываецца нейкі сінтэз — каранёў і сучаснай цывілізацыі…

Імкненне захаваць нацыянальныя карані, асаблівасць — у гэтым нешта ёсць… Масавая культура нівеліруе чалавека. І, можа, імкненне захаваць нацыянальныя карані — гэта ў той жа час і імкненне чалавека захаваць і сваю асаблівасць, індывідуальнасць…

---

[33] Гл. другі тэкст у гэтым раздзеле.

[34] **Чынгіз Айтматаў** (кырг. *Чыңгыз Төрөкул уулу Айтматов,* 1928–2008), кыргызскі празаік, які пісаў па-кыргызску і па-руску, акадэмік АН Кыргызскай ССР.

*(Каля 40 гадоў, беларуска, мастацтвазнаўца)*

…Будзе мова ці не будзе?… Патрэбна яна ці не?.. — гэта ж зусім штучныя, глупейшыя пытанні. І тым не менш мы вымушаны гаварыць пра гэта…

Калі чалавек развіваецца ў кірунку найбольшай рацыянальнасці, калі ў людзей будуць простыя думкі, простыя справы, простыя адносіны, тады будзе і адна мова. А калі людзі будуць рабіцца больш культурнымі, больш складанымі, чуйнымі да бясконцых адценкаў маральнага і прыгожага — ім спатрэбіцца аформіць усё гэта. І каб узнавіць гэтыя адценні пачуццяў, інтуіцый, камунікацый, гукавой бясконцасці свету ўнутранога і вонкавага, для гэтага спатрэбіцца мноства моў. Своесаблівасці кожнай мовы будуць удасканальвацца…

Да адной мовы імкнецца толькі чалавек, які ідзе да прымітыву: купіць падзешавей… Няўжо ж у чалавецтва такі незайздросны духоўны лёс?.. Ці думаюць пра гэта прыхільнікі «моўнага рэдукцыянізму»?..

*(Паміж 40 і 50, беларус, гісторык філасофіі)*

…Справа не ў гэтым. Культура да нас створана. Наш час — цывілізацыя, тэхналогія, вынаходніцтва, распрацоўкі…

Усе прынцыпы, фундаментальныя асновы культуры ідуць да нас з вякоў мінулых, з Антычнасці і Сярэднявечча. Усе з'явы культуры слова створаны на нацыянальных мовах. Калі мы гэта адкінем, знікне ўся культурная спадчына.

Складанасць духоўнага жыцца трымаецца на традыцыях культуры. Калі чалавек не ведае гэтых традыцый, папярэдніх здабыткаў культуры — які ж ён «складаны»?.. Ён прымітыўны, бездухоўны…

Таму страціць моўнае багацце чалавецтва — гэта адначасова страціць і духоўныя культуры, духоўнасць, набытую народамі ў шматвяковых пакутах…

Прыведзены ў прадмове складальніка фрагмент пісьма «шасцідзесяцігадовага беларуса» пра беларускую мову мне, даследчыку гісторыі беларускай культуры, здаўся вельмі ў нечым знаёмым як па кірунку і духу, так і па аргументах.

Прыпомнілася, як сустрэла беларускае літаратурнае слова мясцовая рэакцыйная прэса — акцябрысцкага і чарнасоценнага толку ў 1905—1914 гг. Вось толькі некалькі прыкладаў. Газета «*Могилёвский вестник*»[35] 18 жніўня 1906 г. адразу ж пасля з'яўлення першых твораў Ф. Багушэвіча[36], Янкі Лучыны[37], Якуба Коласа і Цёткі надрукавала рэцэнзію «*Брошюры на белорусском языке*», дзе, між іншага, пісала: «*Читать книги белорусского наречия очень трудно. Грамотный крестьянин со школьной скамьи привык читать книги, написанные правильным литературным языком; правда, при чтении он часто искажает слова на белорусский лад, но это ещё не значит, что ему нужны книги именно на белорусском наречии… Для чего же, спрашивается, нужны эти брошюры?.. Для того разве, чтобы затормозить грамотность в народе. Если пичкать его такими книжками, то никогда он не научится написать простой прописи общепринятым языком. Это какая-то фантазия удержать старину, преграда к постепенному совершенствованию языка белоруса, а потому не заслуживающая никакой симпатии. Для науки книжки эти также не нужны*».

А вось што пісала ў 1907 годзе газета «*Минское слово*»[38], якую выдаваў лідар мясцовых акцябрыстаў Г. К. Шмід[39], які адначасова ўзначальваў мінскую групу чарнасоценцаў, вялікадзяржаўных шавіністаў: «*Беларуская мова — штучны прадукт польскіх езуітаў*», у той час як «*Белоруссия есть неотделимая часть русского государства, у которго она должна заимствовать язык вместе с литературой*».

---

[35] ***«Могилевский вестник»*** — штодзённая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выходзіла на рускай мове ў Магілёве ў 1906–1917 гг.

[36] **Францішак Багушэвіч** (псеўд. **Мацей Бурачок**, 1840–1900), грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[37] **Янка Лучына** (сапр. **Іван Неслухоўскі**, 1851–1897), паэт.

[38] ***«Минское слово»*** — штодзённая грамадска-палітычная газета вялікадзяржаўнай скіраванасці, якая выходзіла ў Мінску ў 1906–1912 гг.

[39] **Густаў Шмід** (1852–1909), дзеяч манархічнага руху, выдавец. У 1907 г. быў абраны ў III Дзяржаўную думу ад Мінскай губерні.

Адносна першай легальнай беларускай газеты і зборнікаў вершаў: «*Хотя белорус не имеет письменности, они (польские иезуиты) преподносят ему выдуманную самими литературу в виде разнообразных листовок, газеток и жалких брошюр… Читать подобную белорусскую газету по меньшей мере противно. Грубый деревенский говор, который можно услышать только на белорусской ярмарке с его "гэный", "гэтый", с его "браў", "взяў", "даваў" целиком воспроизводится в печати. Какая громадная разница между сильным, эластичным языком Гоголя*[40]*, Тургенева*[41]*, Достоевского*[42]*, Толстого и этой жалкой пародией на литературу, созданной белорусскими грамотеями! Дайте ему возможность впитать в себя богатую по мысли и по слогу литературу старшего брата — великоруса и увидите, с каким презрением отбросит он варварский язык польского холопа (г. зн. "беларускую мову")… Когда белорус станет русским в полном смысле этого слова, тогда незачем будет издавать "Першыя газеты". Заниматься же белорусским языком будут только ученые*». («Минское слово», 1907, № 193). А 18 красавіка 1908 г. тая ж газета пісала, што беларуская мова — гэта выдумка… «*польскай партыі сацыялістычнай у Літве*[43]»: «*Деятельность свою партия начала в Лондоне — очаге русской революции, где издавала "агітацыйныя брошуркі для білорусів та деякі прокламациі", затем продолжала во Львове и Кракове, где появились белорусские "Смыки"*[44],

---

[40] **Мікалай Гогаль** (рус. *Николай Гоголь*, 1809–1852), рускі і ўкраінскі пісьменнік.

[41] **Іван Тургенеў** (рус. *Иван Тургенев*, 1818–1883), рускі празаік і паэт.

[42] **Фёдар Дастаеўскі** (рус. *Фёдор Достоевский*, 1821–1881), рускі пісьменнік і філосаф.

[43] **Польская сацыялістычная партыя** (**ППС, *Polska Socjalistyczna Partia — PPS***) — левая палітычная партыя ў Польшчы, заснаваная ў 1893 г. Да 1918 г. дзейнічала пераважна на тэрыторыі Каралеўства Польскага. Адным з яе лідараў быў Юзаф Пілсудскі. У міжваенны час дзейнічала на ўсёй тэрыторыі міжваеннай Польшчы і заўсёды мела даволі значны ўплыў.

[44] **«Смык беларускі»** — паэтычны зборнік Францішка Багушэвіча, выдадзены ў Познані ў 1894 г. пад псеўданімам «Сымон Рэўка з-пад Барысава».

*“Дудки”*[45], *“Скрипки”*[46] *и т. п. издания… “Лемэнтары”*[47], *“Доли”*[48], *“Нивы”*[49] *и т. п. хлам с общелитературной точки зрения»*. Газета пісала далей, што польскія дырыжоры *«завлекали в партию исключенных гимназистов и разных недоучек из народа, органистов, “акономов”, сельских акушерок, учителей и т. п. “сельскую интеллигенцию” — Якубов, Януков…»* (газета мела на ўвазе Якуба Коласа і Янку Купалу). Артыкул у чарнасоценнай газеце канчаўся заклікам да паліцыі *«не ограничиваться обысками в редакциях “Нив” и арестами отдельных номеров»*, а накіраваць усе сілы на тое, *«чтобы вырвать зло в самом корне»* — забараніць беларускую мову.

Чым кончылася вялікая бітва за беларускую мову — вядома ўсім. Народ і ўсе дэмакратычныя сілы Расіі падтрымалі дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры.

Цяпер у сацыялістычным грамадстве беларуская мова расквітнела, яна дасягнула ўсебаковай распрацаванасці. Літаратура беларуская — адна з лепшых у свеце. Аднак нашчадкі яе былых ворагаў яшчэ ёсць, і іх нямала.

Калі ж гаварыць аб далёкай перспектыве, то, мне здаецца, ісціну тут бачылі Купала і Колас, бачаць Р. Барадулін, Ул. Караткевіч, Ніл Гілевіч і ўсе, хто шчыра працуе на ніве народнай культуры.

---

[45] **«Дудка беларуская» (*«Dudka białaruskaja»*)** — паэтычны зборнік Францішка Багушэвіча, выдадзены ў Кракаве ў 1891 г. пад псеўданімам Мацей Бурачок.

[46] **«Скрыпка беларуская»** — паэтычны зборнік Алаізы Пашкевіч (Цёткі), выдадзены ў 1906 г. пад псеўданімам «Гаўрыла з Полацка».

[47] Маецца на ўвазе **«Беларускі лемантар, або Першая навука чытання»** (у арыгінале *«Biełaruski lementar abo pierszaja nawuka czytańnia»*, «Беларускі лемэнтар або першая навука чытаньня») — першы беларускі лемантар, выдадзены ў 1906 г. у Санкт-Пецярбургу. Сярод аўтараў згадваюцца Цётка (Алаіза Пашкевіч), Карусь Каганец, Вацлаў Іваноўскі.

[48] «**Наша Доля**» — штотыднёвая легальная газета на беларускай мове, якая выдавалася ў 1906 г. Выйшла 6 нумароў, 4 з іх былі канфіскаваны. 7-ы нумар быў знішчаны ў наборы, пасля чаго выданне забаранілі.

[49] **«Наша Ніва»** — штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета нацыяльна-адраджэнскага кірунку, што выдавалася ў Вільні ў 1906–1915 гг.

Пазіцыя «маскоўскага беларуса» па форме і па сутнасці амаль поўнасцю супадае з пазіцыяй чарнасоценцаў.

Ёсць праблема нацыянальных моў 1. увогуле і 2. беларускай мовы ў прыватнасці.

1. Будучае спрабавалі вывесці з мінулага. Шумеры, старажытныя егіпцяне, рымляне і г. д. зніклі — зніклі і іхнія мовы. Тое ж будзе і з сучаснымі мовамі. Мінулае прама экстрапаліруецца на будучыню. І не ўлічваецца пры гэтым, што на працягу многіх стагоддзяў ішоў працэс фармавання народаў, нацый, нацыянальных моў. Таму нельга поўнасцю і прама экстрапаліраваць далёкае мінулае на будучыню і праводзіць прамыя аналогіі паміж сучаснымі нацыянальнымі мовамі і старажытнай егіпецкай, лацінскай і г. д. У гэтым плане наглядаецца яўная ненавуковасць мыслення.

Гэта — да лёсу нацыянальных моваў увогуле.

2. Беларуская мова.

Тут трэба глядзець не з пазіцый «плоскага эвалюцыянізму», а дыялектычна. Любая сацыяльная і духоўная з'ява можа мець перыяды заняпаду і адраджэння. Плоскія аналогіі з прыроднымі з'явамі (расліна, жывёліна) тут нельга ўжываць.

Беларуская мова мае значныя патэнцыі — таму што пасля свайго новага адраджэння ў XIX стагоддзі яна яшчэ толькі набірае сілу. Так што нават пры ўжыванні найпрасцейшых эвалюцыйных формул — яна на пад'ёме. Але ў духоўнай сферы ўжыванне прасцейшых формул вельмі абмежаванае.

У беларускай мове (і ўвогуле — духоўнай культуры) адбываецца вялікае назапашванне каштоўнасцей. Пры гэтым — адраджэнне можа адбыцца вельмі моцнае — пры пэўных умовах. Гэта адносіцца і да фальклору, і асабліва да мовы… Гісторыя культуры ведае багата прыкладаў такога роду…

XVI стагоддзе… Узлёт… Потым крыніца нібы заглыбілася ў зямлю…

А потым — крыштальна чыстае адраджэнне XIX стагоддзя…

І тое, што функцыі сучаснай беларускай мовы абмежаваныя, гэта не значыць, што яны не могуць быць пашы-

раны… У адпаведных сацыяльных умовах яны могуць быць пашыраны вельмі значна…

Праблема суб'ектыўнага моўнага выбару — гэта праблема больш маральная, чым навуковая. Маральна вырачэнне бацькоўскай мовы — гэта безумоўны адрыў ад народа…

Што ж тычыцца футурыстых праблем, то, на мой погляд, у рамках інтэграцыі ва ўмовах аднатыпнага сацыяльна-палітычнага ладу будуць мовы-пасрэднікі (руская, англійская, іспанская, французская), а потым і сусветныя… Руская — рэгіянальная мова для народаў Савецкага Саюза, а ў перспектыве, магчыма, для лагера сацыялізму. Англійская, французская, іспанская — рэгіянальныя мовы для былых калоній…

Але мова-пасрэднік не адмаўляе, а мае на ўвазе і мовы нацыянальныя…

Культурныя каштоўнасці будуць і далей стварацца пераважна на нацыянальных мовах. Функцыі моў-пасрэднікаў будуць абмежаваныя (галоўным чынам — інфарматыўныя). Яны ніколі не будуць мовамі літаратуры і паэзіі…

*(35 гадоў, беларуска, літаратуразнаўца)*

Я не адчуваю вялікага песімізму адносна лёсу беларускай мовы. Мы маем багатую і прыгожую ў лексічным і фанетычным планах, поўнафункцыянальную літаратурную мову. Маем добрую літаратурную спадчыну і сучасную мастацкую літаратуру. Калі да гэтага прыбавіць той факт, што агульны культурны ўзровень і самасвядомасць чалавека нязменна ўзрастаюць з пакалення ў пакаленне, то нельга дапусціць, што ўсё гэта згіне.

*(Каля 50 гадоў, супрацоўнік статыстычнага ўпраўлення)*

Кожны чарговы перапіс насельніцтва фіксуе факт практычнага знікнення некалькіх моў…

*(32 гады, беларус, музыкант)*

…Ці можна зараз весці размову пра роднае слова, калі яго ўжо не існуе?.. Так, так — не існуе болей у сапраўдным паняцці беларускае мовы. Хіба можна назваць жывой

мову, на якой ніхто не мовіць? Больш за тое, якую не любіць нават шмат хто з беларусаў? *«Беларускій ізык пара ужэ давно атмініць. Да зачем он нужен, этат біларускій ізык?»* — колькі чуў я такіх слоў ці да іх падобных! Вядома, можна запярэчыць, што выдаецца шмат часопісаў і кніг па-беларуску, але зноў жа — што можна чуць у кнігарні або ля кіёска: *«Мне, пажалста, кнішку, о нет, нет — не эту, ана на беларускам»*. А колькі намаганняў прыкладаюць іншыя бацькі, каб вызваліць сваіх дзетак ад *«беларускава езыка»* ў школе!.. Горка гэта ўсведамляць, але гарчэй стане, як памысліш аб нашай будучыні. Без жаднага паняверу можна сцвярджаць, што без нацыянальнае мовы мы тае будучыні не маем. І, мабыць, наспеў ужо час вызначыць: ці ісці далей пад сцягам нігілізму, ці мо адумацца?

Вось сяджу зараз і ўзгадваю, як колькі разоў, едучы па Беларусі, глядзіш, як за шклом мінаюць родныя краявіды: беларускія вёсачкі, шляхі і палі. Глядзіш, як яны прыгожыя і ў сонечны дзень улетку, і ў імжысты восеньскі. І міжволі стаешся ахоплены невыказным пачуццём Радзімы. Але куды знікае тое пачуццё — варта толькі выйсці з аўтобуса?.. Кветка аказваецца папяровай. Прыгожа, але без водару. Не ведаю, як каму, а мне аніяк немагчыма зніταваць Беларусь з рускай мовай, дакладней — з адсутнасцю беларускае. Беларусь, беларускае — пусты гук без беларускае мовы. Праз доўгі час я не мог зразумець, чым так розніцца побыт у вёсцы і ў горадзе. Ці тым толькі, што то вёска, а то горад?.. Але ж не толькі ў гэтым справа. Мова, тое самае «матчына слова» рабілі вёску тым нейкім іншым, непаўторным светам, які, на вялікі жаль, знікае таксама і знікае, напэўна, непаўторна. Дый на самай справе, паспрабуйце ўявіць сабе нешырокі вясковы шлях, разлеглыя паабапал ліпы за плотам, хаты з высокімі стрэхамі, бусла, што стаіць на адной назе на даху суседскае хаціны ў мякка-чырвоным святле — зніжэлага да чорных на фоне барвовага неба вершалін дрэў — сонца, у перакладзе на якую іншую мову. Згубіцца штосьці неадчувальнае, тонкае — але такі згубіцца. І як бы не згубіць нам і ўсяго астатняга…

*(Каля 30 гадоў, беларус, мастацтвазнаўца)*

…Самае небяспечнае — праблема школы. Па сутнасці, у школе і прадшколлі закладваюцца прынцыпова адмоўныя адносіны да мовы. Там фармуецца пэўны маральна-этычны комплекс адносін да мовы: «Гэта — добра, гэта — дрэнна», — сістэма ацэнак, за якую ён не можа выйсці да канца жыцця. Фармуецца комплекс непаўнацэннасці, другараднасці чалавека, які гаворыць на мове. Адсутнасць роднай моўнай стыхіі прыводзіць да тармажэння ў развіцці стыхіі духоўнай, магутна ўплывае на псіхіку. Бязвер'е ва ўласныя сілы — калі спраецыраваць на асобу. Бязвер'е ў сілы свайго народа, сваёй нацыі, сваёй культуры.

Праклён гэты настолькі глыбока западае ў душу, што сапраўды цяжка выкарабкацца, пазбавіцца ў сэрцы сваім такога падыходу. Калі чалавек высокаадукаваны, інтэлектуальна развіты — і то так!.. А калі ўзяць сярэдні і ніжэйшы ўзровень — тым больш не гуманітарны (няхай сабе і інтэлігента), — то практычна неверагодна цяжка пазбавіцца гэтага комплексу, гэтых шор, якія былі навязаны ў такім стане, калі чалавек не можа нават разважаць.

І асяроддзе, традыцыя адыгрываюць вялікую ролю. Адмоўныя адносіны да мовы ад гэтага: *«Не будзем браць гэтую кніжку — яна на беларускай мове… гэта — кепска, гэта — бяка…»*.

Калі даваць ацэнку ў сацыяльна-псіхалагічным аспекце адмоўных адносін да мовы, то трэба заўсёды памятаць пра людзей, якія вельмі многа здзекаў цярпелі — з-за няведання рускай мовы. Гэта звязана з такімі маральнымі пакутамі, што чалавек пачынае ненавідзець сваю родную мову…

Учарашнія сяляне — сярод іх часта самая лютая нянавісць да мовы. Бо яны на ўласным вопыце ўсё гэта перанеслі. Яны не аналізуюць прычыны і вынік, і ненавідзяць тое, што пад носам — мову!..

Інтэлігенты першага пакалення ці калі кампактным пластом жывуць — там да мовы прыхільныя. А вось у асяроддзі псеўдаінтэлігенцкім, асабліва шматнацыянальным, жорстка «караюць» нават цвёрдае «г» — запісваючы ў склад інтэлектуальна непаўнацэнных асоб. У нас, у культурна-

нацыянальнай сферы, дамінуе мяшчанская іерархія каштоўнасцей. «Гарадскі» ты чалавек — або «дзеравенскі». Калі ты «вясковы» — ты атрымліваеш кляймо непаўнацэннасці, другараднасці, другагатункавасці на ўсё жыццё… Калі замаскіравацца знешне, пазбавіцца вонкавых прыкмет вясковасці яшчэ можна, то пазбавіцца акцэнту беларускага чалавек ніколі не зможа. І пры іерархіі каштоўнасцей — ён заўсёды будзе чалавекам другога гатунку.

Праз такія стадыі развіцця адносін да сваёй культуры і мовы прайшлі ўсе народы, якія не мелі раней сваёй дзяржаўнасці ці на доўгія часы былі яе пазбаўлены. У чэхаў, славакаў, фінаў, эстонцаў, латышоў, літоўцаў, югаслаўскіх народаў, балгар і г. д. — такая праблема паўставала перад імі ўсімі. Зараз перад шэрагам народаў трэцяга свету яна стаіць, звязана з іхняй «моўнай непаўнацэннасцю»…

Стаяла яна на пачатку стагоддзя і перад нашай нацыяй. Аднак з-за шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын гэтая праблема засталася актуальнай і па сённяшні дзень, і па сутнасці яна не вырашана. Пры царызме нас імкнуліся русіфікаваць (XIX ст.). У 1920–1930-я гады Заходнюю Беларусь — паланізаваць. Адзін буйны польскі гісторык сказаў аднойчы (адносна лёсу беларускай культуры і мовы ў складзе Польшчы): *«Праз 10 год мы ўсіх беларусаў пасадзім на адну канапу»*. Тым не менш з гэтага нічога не атрымалася…

Адносна перспектываў: ці магчыма адрадзіць беларускую мову практычна?..

У свой час нямецкія фашысты хацелі нас германізаваць — накінуць абсалютна чужую мову, якая для простага чалавека не мае ніякіх аналагаў з роднай мовай. І, калі верыць фактам, за невялікі час шэраг гараджан (прычым — не з ліку здраднікаў) па прычынах вытворчых, службовых, асабістых сутыкаліся з немцамі і за невялікі тэрмін засвоілі нямецкую мову (маглі гаварыць). Мне думаецца, пры такіх тэмпах і пры такіх жорсткіх сродках, якія ўжывалі фашысты, калі б запанавалі надоўга, пасляваеннае пакаленне практычна дрэнна ведала б родную мову (або зусім не ведала б)…

І наша інтэлігенцыя, якая цяпер лічыць рускую мову лепшай на свеце, цудоўна размаўляла б на нямецкай — і лічыла б яе самай лепшай!..

Чэхі ў перыяд свайго нацыянальнага адраджэння былі ў такой ступені германізаваны, анямечаны, што яшчэ доўга пасля заваявання незалежнасці выкладанне ва ўніверсітэце ішло на нямецкай мове. І па сённяшні дзень існуе дзве мовы: чэшская літаратурная мова і своеасаблівы ўжытачны жаргон, які ў такой меры засмечаны чыста нямецкімі альбо крыху толькі аславяненымі (ачэшанымі) выразамі, што мовазнавец, які вывучае чэшскую мову толькі па падручніках, амаль не разумее яе (альбо зусім).

Дарэчы, адурачаны беларускі абывацель не ўяўляе сабе, што моўная барацьба ідзе не толькі ў нашых межах. Ёсць шэраг краін — Бельгія, напрыклад, і інш., дзе ўжываецца некалькі моў, між якімі ідзе барацьба за прыярытэт. У іншых формах — у Канадзе, Фінляндыі (дзе існуюць дзве дзяржаўныя мовы — шведская і фінская)… І зусім, здавалася б, неверагодная з'ява адбываецца ў Англіі, дакладней, у Вялікабрытаніі, дзе магутна расце свядомасць шатландскага насельніцтва, імкненне адрадзіць шатландскі фальклор і мову, якія разбураны не толькі да руін, але і да падмурку. Там ідзе працэс аднаўлення і поўнай рэканструкцыі мовы… Яшчэ больш фантастычная з'ява — адраджэнне мовы Уэльса, на якой размаўляюць практычна адзінкі…

Так што ў параўнанні з імі ў нас моўная праблема — нягледзячы на ўсю катастрафічнасць сённяшняй сітуацыі — можа быць вырашана станоўча. Ва ўсякім разе, мы можам дабіцца такога стану, калі кожны чалавек рэальна (не на ўзроўні анкеты) будзе валодаць дзвюма мовамі. Я вось нават часта не памятаю, на якой мове я прачытаў кнігу — на беларускай, рускай ці польскай…

Нягледзячы на адсутнасць шырокага ўжывання літаратурнай мовы, колькі яшчэ функцыянуе ў нас жывой гутарковай мовы!.. Калі б увогуле не існавала нашай літаратуры, напісанай за апошнія сто гадоў, калі б не было фальклорных запісаў і фанатэк, калі б спатрэбілася раптам ізноў пачынаць з нуля, на пустым месцы, мы б і пры такой сітуацыі маглі аднавіць, рэканструяваць і захаваць мову.

Ёсць і такая прычынна-выніковая ўзаемасувязь: на якой мове вучаць у ВНУ, на такой мове будзе гаварыць інтэлігенцыя. На якой інтэлігенцыя (у тым ліку тэхнічная) будзе гаварыць — на такой будзе гаварыць і горад. На якой горад — на той і ўвесь народ…

Выснаву рабіць не варта…

Нармальныя ўмовы для моўнага развіцця — гэта нацыянальнае выхаванне ў дзіцячым садзе, школе, інстытуце, аспірантуры… Пасля вельмі важны фактар — на якой мове падаецца справаводства, візуальная інфармацыя, тэлебачанне, кіно, эстрада, тэатр… І, вядома, кніга. У шырокім сэнсе. Па ўсіх праблемах, а не толькі мастацкая літаратура і публіцыстыка. Практычна нічога з гэтага ў нас не існуе…

Што можа прачытаць на беларускай мове чалавек, якога не цікавіць тэматыка, уласцівая беларускай літаратуры (тэма вёскі)?.. Караткевіча, Быкава[50], Шамякіна[51]?.. А калі не падабаецца?.. А ўся сусветная класіка?.. Заходнееўрапейская?.. Рускую мы можам чытаць у арыгінале (дарэчы, гэта не ўсякі народ сабе можа дазволіць). Трэба арыентавацца на ўсе ўзроўні: і на высокае мастацтва, і на кітч (дэтэктывы і іншыя «нізкія» жанры). Практычна ў беларускай літаратуры не існуе дэтэктыўнага жанру. Калі б мы не выдавалі вар'яцкімі тыражамі (800 тыс.), скажам, «Айвенга»[52] і інш. на рускай мове, а выдалі на беларускай тысяч 30–40, паступова разбурыўся б псіхалагічны бар'ер… Бо масавы беларус лічыць, што нічога цікавага на беларускай мове прачытаць нельга…

Я сам прайшоў праз усё гэта. Я гараджанін у трэцім пакаленні. Прайшоў усе тыя стадыі, якія праходзіць тыповы «мінчук» — з усімі вынікамі такога «выхавання». І тым не менш неяк сам зразумеў неабходнасць нацыянальнага. І на пэўным этапе з мовай было цяжка. І не год, і не два.

---

[50] **Васіль Быкаў** (1924–2003), пісьменнік, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі.

[51] **Іван Шамякін** (1921–2004), народны пісьменнік Беларусі.

[52] **«Айвенга»** (англ. «*Ivanhoe*») — гістарычны раман шатландскага пісьменніка Вальтара Скота, выдадзены ў 1819 г.

Але з цягам часу ўсё ліквідавалася. Усё стала настолькі арганічна, лёгка… Здзіўляюся нават, што для некага існуе такая праблема…

…Мы настолькі прывыклі маніць сабе ў плане мовы, што нам вельмі патрэбна шчырая размова пра гэта… Такая кніга мела б вялікі грамадскі рэзананс… «Папярэднія супярэчнасці» чытаецца як дэтэктыў, захоплівае нечаканасцю… Няма зададзенасці, калі аўтар адразу пачынае гуляць у паддаўкі. Раскрыццё тэмы ідзе праўдзіва, бачыш сапраўдную сітуацыю, у якую трапляе аўтар радкоў…

Упэўнены, што рэабілітацыя беларускай мовы ў вачах нацыі адыграла б вялікую выхаваўчую ролю. Быў бы вялікі маральны, агульны духоўны ўздым. Адна з прычын татальнай бездухоўнасці, узаконенасці ваяўнічага мяшчанства ў нашым побыце, у службовых адносінах — адчужанасць ад роднай мовы, культуры, несфармаванасць нацыянальнай свядомасці. Адсюль — знявечанасць індывідуальнасці, дэградацыя асобы ў рэшце рэшт…

У чалавека нацыянальна свядомага адразу ўзнікае цікавасць да гісторыі культуры, да суседскіх культур і моў. Прычым не з вакна турысцкага аўтобуса, а сапраўдная цікавасць. Узнікае жаданне паглыбіцца ў памяць свайго народа… У гісторыю мастацтва.

Узнікае жаданне вызначыць сваё месца сярод іншых народаў і падняцца да ўзроўню лідараў. Гэта магутны штуршок да развіцця, да прагрэсу. Нацыянальная свядомасць — гэта перш за ўсё адносіны да сваёй мовы, захапленне сваёй мовай, культурай, гісторыяй. І яшчэ — уменне бачыць хібы свае, уменне жадаць другім народам таго ж, што і свайму ўласнаму. Нацыянальная свядомасць — гэта вышэйшая ступень развіцця і адначасна пачатак сапраўднага духоўнага станаўлення народа. Тут адкрываецца бязмежнае поле развіцця. Праз культуру народа развіваецца і індывідуум, асоба. А нацыянальнае пачуццё, нацыянальная гордасць — магутны стымул, які памнажае імкненне да прагрэсу, да развіцця — у любой сферы чалавечай дзейнасці. І наадварот, народ, пазбаўлены нацыянальнай свядомасці, паступова дэградуе і страчвае нават раней заваяваныя пазіцыі…

А што да думкі, быццам беларуская мова «непрыгожая», «неарыгінальная», — гэта ізноў вынік ацэнак, навязаных нам у такім узросце, калі мы яшчэ не маглі разважаць самастойна. Навязаных нам людзьмі, вельмі далёкімі ад сапраўднай духоўнасці, ад сапраўднай культуры. Абывацель, які любіць падкрэсліваць, што беларуская мова — гэта «сумесь уплываў», не ведае пра сапраўдны стан рэчаў. Гэта дзіўнае невуцтва людзей, сярод якіх ёсць і тыя, хто мае дыплом філолага…

Глыбока перакананы — і таму ёсць мноства сведчанняў, — што беларуская мова з'яўляецца адной з найбольш чыстых славянскіх моў, найбольш блізкіх да праславянскіх крыніц… Найменш засмечаных іншымі моўнымі стыхіямі…

Кожны народ павінен мець свайго Хрыста, сваіх апосталаў, сваіх пакутнікаў. У іншым выпадку — гэта не народ. Гэта — натоўп, перакаці-поле… «насельніцтва»…

З народа можна зрабіць насельніцтва — шляхам ліквідацыі духоўнай сувязі, якая існуе паміж асобным індывідумам і нацыянальнымі героямі гісторыі…

*(32 гады, беларус, мастак)*

…Думка такая пра мову, наогул пра мой лёс…

Вучыўся слаба. І самы цяжкі прадмет — руская мова… Пакідалі пасля ўрокаў: цэлую старонку адно слова — «пошёл»… *«Цяжка з такімі вучнямі — "простолюдье"…»* — казала настаўніца. І гэта мне запомнілася… *«Комплекс непаўнацэннасці»*… А не хацелася быць непаўнацэнным!..

І такім шляхам я прыйшоў да свядомасці.

Чалавек можа падняцца да культуры толькі праз нацыянальную культуру. А мова — самы вялікі кампанент культуры..

Што такое мова?.. Гэта сувязь з асяроддзем… Нараджаецца чалавек — і толькі праз мову ён звязваецца са светам. А на чужой мове парушаецца гэтая паслядоўнасць, гарманічнае развіццё…

Тое самае атрымліваецца цяпер з маім дзіцём: кожны дзень з садзіка прыходзіць маленькі вораг нацыянальнай культуры…

Адбываецца падмена канцэпцый эстэтычных. Генетычна ў беларусаў свой характар, рытм жыцця. А расейская мова вырвана з другога асяроддзя. І тым жа дзецям беларускім — ім штучна ўводзіцца абсалютна чужая структура. І атрымліваецца духоўна хворы чалавек.

У друку актуальнай тэмай становіцца тэма духоўнага жабрацтва. Своечасова, бо не ўвесь жа час дэградаваць, трэба цягнуцца да духоўнага жыцця, а значыць, і да мовы. У духоўным жыцці ёсць свае заняпады і свае ўздымы… Мо мы жывём у перыяд, калі будзе вяртанне да мовы на Беларусі?..

Ёсць добрая думка: характар людзей, музыка, якая вакол чалавека, павінны быць гарманічнымі, спалучацца. А са знікненнем мовы ўзнікае заўсёды дысананс паміж характарам чалавека і гукавым асяроддзем, бо мова — гэта форма выяўлення гукамі духоўнага жыцця, і калі форма выяўлення навязваецца неадпаведная, нявечыцца і сам строй унутранага жыцця, перш за ўсё эстэтычнага і маральнага.

А ўвогуле я лічу, што за беларускай мовай будучыня ёсць… Яна сучасная… З пункту погляду «маскоўскага беларуса» *«медвежьи уголки»*, дзе яшчэ захаваліся жывыя традыцыі і мова, трэба выкараняць. Я ж сустракаў мноства беларусаў, для якіх, калі яны трапляюць у гэтыя куточкі, калі чуюць мову, бачаць чалавека, які гаворыць на ёй, — гэта для іх адкрыццё вельмі, вельмі прыемнае… Упэўнены, што абсалютная большасць народа нашага ў сэрцы сваім жадае захавання мовы, сваёй духоўнай спадчыны… Іншая справа, што ледавік індустрыялізацыі, урбанізацыі, НТР настолькі прыціснуў душу ягоную, што ён і падумаць пра гэта глыбока не мае магчымасці. І яшчэ. У многіх беларусаў у сілу гістарычных абставін выпрацавалася рабская псіхалогія. І чалавек, які саромецца сваёй мовы, — гэта раб. У сэнсе духоўным… Чалавек, які з комплексам непаўнацэннасці згадзіўся, вырашыў сам, што ён нешта другараднае…

І калі ў беларусаў ёсць гордасць нейкая, яны павінны выкарабкацца з гэтага становішча. І яны выкарабкаюцца. Гэта паказала вайна…

…З чаго пачынаць у канкрэтных абставінах?.. Трэба неяк школу хоць адну арганізаваць у Мінску. Грамадскімі сіламі. Я думаю, што з боку ўлад перашкод не будзе. Трэба толькі мець канкрэтных людзей — вучняў, настаўнікаў і г. д. І калі гэта школа будзе лепшай — справа пойдзе… Абывацель адразу скеміць, што гэта лепей…

Мы хадзілі на высокія ўзроўні па гэтым пытанні, і я зразумеў, што ўсё ад нас залежыць. Можа, я і не праў, але такія вось аптымістычныя думкі ёсць…

Тое, што я не вучыўся ў беларускай школе… я лічу, што для мяне гэта трагедыя. Прыходзіцца ў сталым узросце наганяць тое, што трэ было ўвабраць з малаком маці…

«Чым горш, тым лепш» — ёсць і такая думка… Хто яго ведае… У мастацтве, каб стварыць шэдэўр, трэба мастака паставіць у жорсткія рамкі. Ці каб ён сам сябе ў іх паставіў… Мо і ў нас так: уздым — калі ёсць з чым змагацца. А калі ўсё добра — ідзе дэградацыя, разлажэнне…

…Я не згодзен з думкай, што народ ужо амаль пакінуў сваю мову, што сапраўдная мова ўжо не гучыць. Быў я на Палессі — якая ж там цудоўная мова!.. Не школьная, нават не літаратурная… Дыхае ад яе прасторамі Беларусі, гісторыяй нашай… Мова наша літаратурная, і тое, што па радыё, тэлебачанні, — словы там, здаецца, і беларускія, а структура расейская… А там — мадальная пабудова, па-другому зусім… Там людзі і радыё слухаюць, і тэлевізар глядзяць расейскі, але між сабой — толькі на сваёй мове. І песні гучаць свае. І яны не думаюць мяняць іх на гэтую траскучую музыку…

…Гэта незвычайна важна — у пытанні мовы знайсці, адчуць будучыню… *«Знамение»*… выпрацаваць думкі, якія б выкарчавалі з чалавека абывацеля…

*(Каля 25 гадоў, беларуска, тэхнік-архітэктар)*

…Калі ў чалавека не выхавалі нацыянальную свядомасць змалку, гэта можна набыць і самому, сэрцам. А калі будзе свядомасць — будзе і мова. Каб беларус ведаў сваю сапраўдную гісторыю, была б гэта свядомасць. І не існавала б такой праблемы — моўнай і многіх іншых…

Свядомасць, гісторыя… Тады будзе і мова…

Сама прайшла праз гэта… І лічу гэта галоўным…

…Паэты пра мову — гэта кранае… А потым уздымаецца праблема. І ўжо праз гэта глядзіш на ўсё астатняе, больш крытычна глядзіш.

…Абстрактна мова не ўспрымаецца як частка душы, як нешта блізкае, роднае… А вось праз музыку, словы, праз успаміны дзяцінства… гісторыі…

*(30 гадоў, беларус, мастак)*

Чалавек ёсць носьбіт культуры. Чалавек жа і прадукатар, і спажывец культуры. А мова — асноўны элемент любой культуры, хаця, вядома, і не адзіны.

Мова — крыніца культуры, пачатак усіх пачаткаў, і тут лепш за Ядвігіна Ш. не скажаш. І гэта скарб народны, гэтую даніну спрадвечную мы павінны несці з гонарам, з вялікай гордасцю, бо ў гэтым наша моц, наша апора, наш гонар і сцяг. Мы нясём багатую тысячагадовую ношу, але ад гэтага наша спіна не гнецца, а хада ўперад набірае большай упэўненасці.

Што ж да вядомых фактаў цурання народа роднай мовы, то гэта не зусім так. Увесь народ проста не ведае пра гэтую праблему, бо правадыры, пастыры так захацелі. Яны першыя адмовіліся — ці то дзеля кар'еры, ці то па непісьменнасці, што сведчыць пра крайне нізкую духоўнасць, маральную і духоўную дэградацыю. Гэты пласт, хаця, магчыма, і большасці, але яшчэ не народ. Гэта проста насельніцтва. А народ — гэта князь Усяслаў[53] і князь Вітаўт[54], народ — гэта Фр. Скарына[55], гэта Кастусь Каліноўскі[56],

---

[53] **Усяслаў Брачыславіч** (**Усяслаў Чарадзей**, 1029–1101), найбольш вядомы полацкі князь (1044–1068 і 1071–1101), а таксама князь кіеўскі (1068–1069).

[54] **Вітаўт** (каля 1350 — 1430), вялікі князь літоўскі (1392–1430), адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага.

[55] **Францішак Скарына** (каля 1490 — каля 1551), гуманіст, асветнік, першадрукар.

[56] **Кастусь Каліноўскі** (1838–1864), палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на землях Беларусі і Літвы.

Ф. Багушэвіч, Янка Купала, Цётка, М. Багдановіч[57], Адам Міцкевіч, М. Глінка, Міхаіл Агінскі[58], Браніслаў Тарашкевіч[59], Мікола Гастэла[60]. Славутых імёнаў беларусаў не пералічыш. Многія з іх прынеслі славу не толькі свайму народу, упісалі залатымі літарамі свае імёны ў гісторыю і культуру іншых народаў.

І тым не менш тэма нашых размоў зусім не дыскусійная. У такім разрэзе пытанне абмеркаванню не падлягае, бо па праблеме мовы дзвюх думак і быць не павінна. Усім жа вядома, што чалавек без крыві жыць не можа, гэта ў фізічных адносінах. Без роднай мовы чалавек — труп духоўны. Калі ж чалавек наўмысна цураецца роднай мовы, гэты чалавек не проста дзікун, амаральны тып, ён здраднік свайму народу. Бо такія разуменні, як Мова, Маці, Радзіма, — непадзельны. Яны існуюць разам і вечна.

*(Паміж 40 і 50, беларуска, настаўніца мінскай школы)*

…Письму «московского белоруса» цены нет… Потому что он высказал святую правду!.. Её все знают, но почему-то стыдятся говорить о ней…

*(14 гадоў, беларуска, вучаніца 8 класа сярэдняй школы г. Мінска. Ліст складальніку гэтай кнігі)*

Здравствуйте, Олег Андреевич!

Совсем недавно Вы проводили беседу с учениками восьмых классов в 34 школе. Вы очень интересно рассказывали о своей книге, и меня заинтересовал, даже можно сказать, взволновал вопрос о будущем белорусского языка.

---

[57] **Максім Багдановіч** (1891–1917), паэт, публіцыст, перакладчык, класік беларускай літаратуры.

[58] **Міхал Клеафас Агінскі** (1765–1833), кампазітар, дыпламат і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай. Найбольш вядомы яго твор — паланэз «Развітанне з Радзімай».

[59] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадска-палітычны дзеяч, мовазнаўца, перакладчык. Акадэмік Беларускай акадэміі навук.

[60] **Мікалай Гастэла** (1907–1941), савецкі вайсковы лётчык, здзейсніў таран нямецкай механізаванай калоны на дарозе Радашковічы — Маладзечна. Герой Савецкага Саюза.

Над этим вопросом я задумывалась и раньше, но как-то не так серьёзно. В Минск мы перехали совсем недавно из небольшого белорусского городка. Училась я в русской школе, но общались мы между собой наполовину на белорусском языке. Когда же мы приехали в Минск, дома мне постоянно стали делать замечания: «*Привыкай говорить только на русском языке. Не забывай, что мы живём в Минске*». И мне приходится отвыкать, но почему — я так и до сих пор не поняла. Ведь Минск — столица Белоруссии, но, к сожалению, трудно найти здесь человека, говорящего на родном белорусском языке. Наоборот, люди, по-моему, даже стали стесняться своего языка. Попробуй вставь при разговоре белорусское слово, так на тебя посмотрят такими удивлёнными глазами, что становится неудобно.

Когда я слушала Ваш рассказ, мне вспомнились тяжёлые дореволюционные годы, когда белорусский народ боролся за свой язык, говорить на котором запрещалось. Но почему так люди изменились сейчас?! Объяснить, понять я этого не могу. Меня просто всё возмущает. Но, по-моему, придёт время, когда люди вспомнят о родном языке и, возможно, вернутся к нему. Ведь правду говорят: «Ценят, когда теряют».

А я полностью, обеими руками за белорусский язык.

Ученица 8 кл. СШ № 34.

(На канверце, там, дзе зваротны адрас, напісана: белорус, 14 лет. Адрас напісаны на беларускай мове!)

*(16 гадоў, беларуска, вучаніца 10 класа СШ г. Мінска)*

У асноўным у нашай рэспубліцы ўсе гаворац на рускай мове, а не на беларускай. Напэўна, гэта таму, што мы проста з маленства не прывыклі чуць яе.

Наша нацыянальная мова паступова гасне. Я, напрыклад, даволі свабодна магу гаварыць на беларускай мове, але ніколі не гутару на ёй ні дома, ні ў кампаніі — толькі на ўроках у школе. Калі іншы раз вырываецца якая-небудзь фраза або слова на беларускай мове, то часта чуеш смех. А што тут смешнага? Гаворац жа ў Грузіі, Латвіі, Літве на сваіх мовах! Там таксама рэдка ўчуеш рускую мову, як у нас, напэўна, беларускую. Мы проста трацім сваё нацыянальнае характво. І наўрад ці яго магчыма вярнуць.

*(16 гадоў, руская, вучаніца 10 класа СШ г. Мінска)*

Чудесные синеокие озёра, окаймлённые тонкими стеблями тростника, бескрайние и бездонные болота, заросшие мягким и влажным мхом, таинственные леса, пахнущие свежестью хвои и грибов, спокойные, ровные холмы, цветущие весной нежными пролесками, необычайная мягкость и певучесть природы Белой Руси — всё это оставило след в белорусском языке, в белорусских народных песнях. Очень люблю белорусские народные песни за их мелодичность, нежность и красоту. Они — как неиссякающие криницы с живой водой.

По национальности я русская, но живу в Белоруссии тринадцать лет, почти всю мою жизнь, прожитую на земле. И за эти годы полюбила белорусский край, его обычаи, язык. Считаю, что каждый человек, живущий в Белоруссии, должен знать, понимать и ценить культуру белорусского народа.

*(16 гадоў, беларуска, вучаніца 10 класа СШ г. Мінска)*

Культура народа, мова народа павінны заставацца, пакуль існуе нацыянальнасць. Цяпер век тэхнікі, прагрэсу. Вядома, што патрэбна мова, якую б ведалі ўсе нацыянальнасці і народнасці. Такой мовай стала руская.

А беларуская мова патрэбная беларускаму народу, яна не згіне. Хай на ёй не будзе выпускацца навукова-палітычная літаратура. Але застаюцца шэдэўры класічнай літаратуры, развіваецца сучасная літаратура, для беларускіх тэатраў пішуць п'есы на беларускай мове.

Цяпер ясна, што я думаю.

Няхай беларускія вучоныя пішуць на рускай мове, няхай беларусы размаўляюць на рускай мове, але беларуская мова павінна служыць беларускай культуры, развіваць духоўнае багацце народа. Народ не дасць ёй загінуць. Мова народа загіне толькі з народам.

*(16 гадоў, беларус, вучань 10 класа СШ г. Мінска)*

Беларуская мова. Пачуеш беларускае слова на вуліцы і адразу звернеш увагу на гэтага чалавека, бо цяпер можна пачуць у горадзе больш англійскіх слоў, чым беларускіх.

Вельмі падобная да рускай, беларуская мова паступова перастала ўжывацца, здаўшы свае пазіцыі нават у вёсках. Магчыма, гэта адбылося ў сувязі з узнікненнем новых слоў і са зменамі ў жыцці людзей, калі старажытныя беларускія словы сталі непрыгоднымі. Перастала ўжывацца мова, але нельга адмаўляць усю векавую культуру, створаную народам.

У жыцці бывае момант, калі чалавек адчувае сваю еднасць з народам і сваю гордасць за яго. Гэта адбываецца толькі тады, калі ты адчуў усю мілагучнасць роднай мовы, усю яе прыгажосць. Для мяне спатканне з роднай культурай адбылося нечакана: тое, што я чуў ужо колькі разоў, раптам стала нечым родным і блізкім. Нечакана я адчуў у беларускіх песнях тое, што жыло ў маёй душы, што гаварыла: «Я — твой сын, Беларусь!». Мова можа не ўжывацца, але яна павінна жыць у сэрцах людзей, і толькі тады будзе жыць беларускі народ.

*(17 гадоў, беларуска, вучаніца 11 класа*
*Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы*
*і выяўленчым мастацтве імя І. В. Ахрэмчыка)*

Земля, её люди, их язык и культура — вот что родина и жизнь наша. Мучительно долго растёт в человеке любовь, любовь к земле родной, к народу своему, к искусству. Это — великая боль, но всё же боль. И маленькие человечки, не знающие, зачем родились на эту землю, обходят боль стороной, не принимают её.

О! Если бы люди знали, что они равнодушны к тому, что сделает их сильными, мужественными и счастливыми.

Человек, не понимающий родного языка, не любит свою землю.

Язык изменился. Не знаю, каким был древний белорусский, но, думаю, он был таким же красивым, как русский древний. Пока я знаю одного белоруса, говорящего на истинном белорусском языке. Это Владимир Короткевич. Может быть, благодаря его искусству я люблю Белорусь и язык белорусский.

Мне стыдно. Живу на этой земле 17 лет, а пишу Вам по-русски. Русский я лучше знаю, больше могу сказать.

А сказать надо много, но лучше говорить языком искусства.

*(17 гадоў, беларуска, вучаніца 11 класа Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. В. Ахрэмчыка)*

Вярталася аднойчы з падарожжа
У пракураным вагоне цягніковым
З Масквы альбо з Урала, нават, можа,
Уражаная наваколлем новым.
Там фарбы не такія, а на ўлонні
Інакш там нават лісце шамацела.
У тым наскрозь пракураным вагоне
Салдата-беларуса я сустрэла.
Ён сябру гаварыў: «Схаваем в мае…»
Збянтэжыўся: «Вот, путаюсь я снова».
А мне вось гэта самае «схаваем»
Здалося самым родным, лепшым словам.
*28.II.1979*

*(Паміж 20 і 30, беларуска, прыродазнаўца)*

Пэўна, у кожнага чалавека ёсць свой любімы твор, музычны, жывапісны, літаратурны, любімы афарызм, фарба, слова… У мяне гэта слова — Белая Русь! Мая зямля, мая радзіма, у ёй мае карані, у ёй мая сучаснасць і мая будучыня. А ўсё гэта неразлучна звязана мовай — мовай маіх родных, блізкіх людзей, маіх землякоў.

Вось я лічу сябе адукаваным чалавекам, займаюся навукова-даследчай дзейнасцю. Часта з сорамам прызнаюся, што дрэнна ведаю англійскую мову, зусім не ведаю іншыя замежныя мовы. Мне і сорамна, і крыўдна. Але ж які вялікі сорам, якая бескультурнасць, якое невуцтва, якая непавага да сваёй зямлі і перш за ўсё да сябе — яе дачкі — прызнацца, што дрэнна ведаеш сваю родную мову (падкрэсліваю слова — родную), тую, «*што па жылах маіх цячэ*» (Р. Барадулін). Я люблю сваю мову, свой народ, буду шчыра шчаслівая і задаволеная, калі буду мець магчымасць больш, часцей размаўляць на ёй з маімі землякамі. Я звяртаюся да іх, маладых і старых, вясёлых і сумных — маіх

сучаснікаў: давайце размаўляць адзін з другім дома, на вуліцы, на сустрэчах на сваёй роднай беларускай мове, якая да паэзіі падобна.

Упэўнена, што кожны з чытаючых гэтыя радкі згодзіцца са мной, што калі мы разнявольваемся, робімся шчырымі, «адчыняем дзверы сваёй душы», уваходзім у душы і адчыняем душы другіх людзей, наогул, калі мы робімся самімі сабой, гэта ў лесе ля кастра, калі збіраемся, каб пасядзець разам за сталом, калі разам з сябрамі едзем падарожнічаць — мы спяваем. Што?! З рэпэртуару «Боні М»[61] ці «АББА»[62], аб якіх мы можам гаварыць часамі?! Не!!! Мы спяваем свае родныя беларускія песні, на роднай мове. Чаму? Бо інакш мы не можам, інакш нельга, бо яны жывуць у нас кожны дзень, кожную гадзіну. Аднойчы ім робіцца цесна, душы сумна без іх, вось тады мы спяваем, жартуем, размаўляем на роднай мове, і ніхто нават не заўважае — бо гэта так натуральна, так высока і ідзе ад нашых сэрцаў, пачуццяў, думак…

*(1925 г. нараджэння, беларуска, выкладчыца матэматыкі, Крупскі раён Мінскай вобласці)*

…Што я думаю пра сваю родную беларускую мову?..

Сваё меркаванне па гэтым пытанні я выкажу так: *«Такой каларытнай, прыгожай, мяккай, як наша беларуская мова, няма»*. А выказаць што-небудзь гумарыстычнае на беларускай мове — так не зробіш ні на адной другой…

Калі хто скажа, што беларуская мова — штосьці незразумелае, непатрэбнае, — такіх людзей для сябе я лічу нават ворагамі. Гэта вельмі рэзка, але інакш я не магу.

Хочацца выказаць яшчэ адну думку. Той, хто лічыць нашу мову незразумелай, «мужыцкай», непатрэбнай, вельмі дрэнна ведае гісторыю Беларусі ды і наогул нашай Радзімы…

Калі б ён ведаў гісторыю Беларусі, ён ніколі не спаквапіўся б так сказаць. Многія ведаюць (і я таксама), што вынесла наша родная Беларусь у гады Вялікай Айчыннай

---

[61] ***Boney M.*** — папулярны дыска-гурт, заснаваны ў Германіі ў 1975 г.

[62] ***ABBA*** — папулярны шведскі музычны квартэт, створаны ў 1972 г.

вайны. Добра ведаюць гэта і тыя, каго воляй лёсу занесла на нашу тэрыторыю ў гэты час. Але ўсе мы — і казах, і грузін, і паляк, і чэх, і француз, і многія, многія іншыя — разумелі гэтую «мужыцкую» мову, загады камандзіраў-беларусаў, разам гpамілі ворага.

Па сваёй неадукаванасці ў справе мовы я не магу выказаць усіх сваіх пачуццяў да сваёй мовы, усяго таго, што ў мяне на сэрцы, але ў некалькіх словах выкажу сваё меркаванне пра адносіны да беларускай мовы ў некаторых школах.

На мой погляд, здаецца, не зусім правільна (не ведаю, як лепш сказаць) робяць тыя настаўнікі, якія вядуць выкладанне такім шляхам: падручнікі ў вучняў на беларускай мове, сам настаўнік вучыўся ў педінстытуце ў Беларусі, а вось выкладанне вядзе на рускай мове. Школа лічыцца беларускай. І вось няхай бы ён пабыў у ролі чацвёртакласніка або пяцікласніка, які 1–3 кл. закончыў на беларускай мове. (Вучням старэйшых класаў гэта лягчэй.)

Здаецца, што гэтае пытанне патрабуе прадуманага рашэння ў вышэйшых інстанцыях, бо такое руска-беларускае выкладанне, як я ведаю, паўсюднае ў Мінскай вобласці. Пра іншыя вобласці нашай рэспублікі не ведаю.

*(15 гадоў, беларуска, вучаніца 9 класа беларускай СШ, Пінскі раён)*

…Праўда напісана, што баяцца размаўляць на беларускай мове. Прыедуць у горад і стараюцца на рускай мове гаварыць…

Амаль усе настаўнікі тлумачаць на рускай мове. А адказваць дазваляюць — хто на якой хоча. Усе класныя, піянерскія і камсамольскія сходы, уся пазакласная работа вядзецца на рускай мове…

У жніўні 1979 г. я была ў лагеры камсамольскага актыву абкама камсамола «Вярба» ў Камянецкім раёне (3 атрад). Сястра напісала мне пісьмо на беларускай мове. Я сказала аб гэтым сяброўкам. Дык з усіх пакояў пазбіраліся дзяўчаты з пытаннем: «Каму прыйшло пісьмо на беларускай мове?»… А яны былі, у асноўным, з вясковых школ…

*(Паміж 20 і 30, беларуска, медык)*

Мова? Лично моё мнение — что она не удержится... Потому что везде говорят по-русски... Даже в деревнях по-белорусски не говорят. Говор там смешанный — одновременно и польский, и русский, и белорусский.

(— Моўнае асарці?)

Вот именно!

(Чытае падборку.)

Вы знаете, трудно читать... хоть я и минчанка. Родители военные, поэтому язык в школе можно было и не изучать... С литературой нас немного знакомили, но это было давно...

...Я вам ещё скажу. Только это не для ваших записей. Это я скажу для вас. Чтобы живая речь у нас была белорусской — всё это нужно начинать с пелёнок... В школе этот язык не должен быть на одном уровне с иностранным. Много у нас школ белорусских в Минске?.. Скажите мне — я вас спрашиваю?..

(—Здаецца, ніводнай...)

Вот так-то! Украинцы, прибалтийцы — все говорят на своих языках. Это только у нас такая проблема существует. Видимо, поэтому вам и дали такую тему?.. Или вы сами её выбрали?..

(— Сам.)

А вы кто по национальности?

(— Я ведаю, што вы думаеце... Шмат хто так думае...)

Я ничего не думаю. Я просто спрашиваю.

(— Маці мая з гомельскіх сялян. Бацька — з Полаччыны. Магчыма, па бацькавай лініі ёсць выхад у Латвію, а мо і яшчэ далей.)

Но пишитесь белорусом?..

(— Так... Вы — руская. Вы ўсе гэтыя праблемы ўспрымаеце звонку. «*Что они, мол, там барахтаются?*»)

Почему?.. Я — белоруска.

(— О!.. Тады ўсё мяняецца!..)

Моя мать — учительница белорусского языка.

(— Дрэнна яна выхоўвала дачку...)

Как ей было выхоўваць? Ей даже работать по специальности было негде. Отец военный. Жили сначала на

Севере, потом в Ленинграде. В Минск приехали всего несколько лет назад… Да что здесь говорить? Моя подруга, дочка X (вядомы беларускі пісьменнік), говорит только по-русски… Скажите, а что вы сами думаете обо всём этом?..

(— Я думаю, следам за Купалам, што чалавецтва жахліва, непапраўна многа страціць прыгожага, калі знікнуць усе мовы, акрамя адной. Яно збяднее, як лес, які б страціў бярозы, дубы, пальмы… усе дрэвы, акрамя, скажам, елак ці асін…)

Мы и любим… и гордимся белорусской культурой. И с удовольствием воспринимаем её… Но всё-таки культура проходит мимо нас… Или мы мимо неё… Послушав, получив удовольствие, мы всё же снова говорим по-русски, думаем по-русски…

(— А кім вы сябе ўсведамляеце, у сэрцы сваім — рускай ці беларускай?)

Белорускои. Я никогда не отказывалась от своей национальности.

(— А не адчуваеце нейкага ўнутранага дысанансу, незадаволенасці — ад таго, што ваша нацыянальная мова быццам падчарка?)

Нет. Языки и народы наши — очень близкие, родные братья… Никакого национализма у меня нет…

(— А калі б, скажам, усе пачалі гаварыць па-кітайску, вы б адчулі ўнутранае супраціўленне, незадаволенасць?)

Конечно. Но это уже совсем другое дело.

(— Што ж, дзякуй вам і за гэта…)

*(Паміж 20 і 30, беларуска, сфера сэрвісу, Валожынскі раён)*

…Што гаварыць пра беларускую мову? Калі мільёны адказваюцца — што тут адзінкі зробяць?..

*(За 70 гадоў, беларус, гісторык)*

…Гэта мая родная мова. Але я ўсё ж не вельмі разумею, што ад мяне патрабуецца…

(Узяў з сабой мае фрагменты, і мы дамовіліся сустрэцца праз некалькі дзён… раніцай…

…Я чакаў яго некалькі гадзін. Пасля абеду званю яму па тэлефоне.)

…Я прачытаў вашы матэрыялы, але ўсё ж так і не зразумеў, што ад мяне патрабуецца… Тут не сфармулявана праблема…

(— Праблема — гістарычны лёс беларускай мовы, яе сучасны стан, перспектывы… Ваша ўспрыманне пададзеных мной фрагментаў… Можа б, вы напісалі мне некалькі слоў, ці я б вас з аловачкам паслухаў…)

Я к этой проблеме не хочу иметь никакого отношения!.. Я не хочу быть к этому делу причастен ни в какой мере…

То, что здесь делается упор на национальные чувства, — это попахивает национализмом…

То, что *«мова вечная»*, — это попахивает антимарксизмом…

Это — надуманная проблема!..

Вот, скажем, особенности белорускай мовы — это проблема. Проблема словарного состава… Сколько, например, общих слов в белорусском и русском языках — это проблема…

Считайте, что я ничего не читал и мы с вами ни о чём не говорили…

Кому передать ваши материалы?

*(Паміж 40 і 50, беларус, вясковы настаўнік з Мядзельшчыны)*

Выказванні пра беларускую мову ў падборках і бытуючыя пагляды прагматыкаў канфліктуюць. Прагматык кажа: навошта беларуская мова, толькі час на яе вывучэнне траціць?

Дзяржаўнай яна не стала — заменена рускай.

У навучальных установах яе не ўчуеш; карыстаюцца ёю толькі на вёсцы, ды і там моладзь па-руску спрабуе размаўляць. З адукаваных людзей толькі моваведы і літаратары ёю карыстаюцца, бо гэта іх хлеб, а радыё, часопісы і газеты — па палітычных меркаваннях, каб БССР членам ААН засталася. Прагматык кажа: не трэба мовы, бо няма з яе выгады.

Тут варта, мне здаецца, прыгадаць біблейскую прытчу, дзе сказана, што «не хлебам адзіным жывы чалавек». Да мовы, як і да культуры наогул, нельга ставіцца з меркай мешчаніна: выгадна ці не. Мова — гэта душа народа, і тут шукаць выгады — гэта блюзнерства над самым запаветным.

Вышэйшая форма грамадства — камунізм — можа быць пабудавана толькі высокакультурнымі, усебакова адукаванымі і выхаванымі, інтэлігентнымі ў шырокім плане, працавітымі людзьмі, уся дзейнасць якіх будзе характарызавацца высокім гуманізмам і эстэтычнасцю. Апорай душы чалавека камуністычнага заўтра будзе прыгожае. Эмацыянальны бок людзей павінен бесперапынна расці, шліфавацца.

Усё развіваецца ў выніку барацьбы. Такой барацьбой, на маю думку, павінна быць не выцясненне і падаўленне адной мовы ці культуры другой, носьбіт якой больш шматлікі ці займае зручнае становішча… а ўсебаковае <u>развіццё</u>, <u>росквіт</u> кожнае мовы і культуры. І гэты працэс трэба не тармазіць ці пакідаць самацёк, а падтрымліваць. Высокаінтэлігентныя нашчадкі змогуць з усяго моўнага і культурнага багацця народаў узяць самае істотнае, адпавядаючае іх запатрабаванням.

Часта, калі заходзіць гутарка аб адзінай мове Зямлі, гавораць, што такой мовай будзе руская ці англійская. А ці ўсё дасканала ў гэтых мовах? Я не спецыяліст, сцвярджаць штосьці акрэсленае ў карысць аднае ці другой не буду, але ў адным перакананы, што мова Зямлі павінна ўзяць ад <u>кожнай</u> мовы свету яе самае адшліфаванае, прыстасаванае, удасканаленае… З тае далечыні, з «лесу» агульначалавечае мовы і духа будзе добра відаць каштоўнасць, сацыяльна-духовы сэнс кожнага нацыянальнага моўнага «дрэва»…

А зараз… Цяпер, калі гэты этап не наступіў, людзі, якія забыліся на сваё мінулае, сваю культуру, сваю мову, ператвараюцца ў табун, які жадае толькі аднаго — набіць бруха або кішэню.

На голым, забруджаным, вытаптаным месцы не вырасце замілаванне да прыроды. Хто не палюбіў дрэва каля ха-

ты — не зразумее прыгажосці прыроды ў цэлым. Хто не любіць бацькоў, блізкіх — не зможа быць гуманістам. Без ведання свайго нацыянальнага гераічнага мінулага хіба магчыма воінская мужнасць і грамадзянская доблесць? Хто кінуў сваю мову і культуру — не зможа ўсёабдымна і глыбока зразумець душу другіх народаў.

Усё лепш відаць у параўнанні. Возьмем літоўцаў, латышоў. Яны цвёрда трымаюцца сваёй мовы і культуры. Да другіх моў і культур яны ставяцца з разуменнем, паважаюць іх, бяруць з саюзнае і сусветнае скарбонкі ўсё лепшае, перакладаюць на сваю мову, надаюць яму нацыянальны каларыт і карыстаюцца. Гэтак жа робяць і другія народы. Чаму беларусы павінны быць белай варонай?

Іншы раз кажуць, што цяпер раздарожжа, беларусы пацерпяць без роднае мовы. Затое ў будучым выйграюць беларусы, калі запануе руская мова… Тут вее рэлігійным містыцызмам… цяпер пацерпім — а ў раі *«воздастся»*. Я лічу, што <u>цяпер</u> трэба даць чалавеку ўсё, што яму <u>зараз</u> патрэбна, не адкладаючы на будучае.

*(Паміж 30 і 40, беларуска, мовазнаўца)*

Беларуская мова… родная мова… Яе не трэба абараняць, але шанаваць трэба. Яна, як і кожная з'ява прыроды — дрэва, кветка, — мае права на жыццё і жыве. Мы яе чуем на вуснах старых дзядоў і бабуль, на вуснах малалетак і маладзіц. Гэта — сакаўная, магутная і мілагучная мова. Слова яе перадае ўсё, што трывожыць і радуе чалавека, усё, чым жывіцца і чаго прагне яго душа. Але яна здатная і да навукі, да высокіх матэрыяў розуму. Яна добра паслужыць і адукаванаму чалавеку, калі ў яго чуйнае вуха…

Адукаваны чалавек не можа забыцца на родную мову. Але і не вялікі грэх атрымліваць адукацыю на рускай мове. Думаецца, навука будзе развівацца на больш агульнай, не вузка нацыянальнай аснове. І нашы дзеці, калі мы іх навучым паважаць сваіх дзядоў і прадзедаў, вывучыўшыся на рускай мове, не будуць мярзотнікамі. Трэба значна, праўда, паляпшаць выкладанне беларускай мовы ў школах. Трэба, каб жывая, не казённая мова гучала часцей,

*«трэба дома* (на вёсцы) *бываць часцей, трэба дома бываць не госцем»*[63]. Трэба, каб ішлі ў свет творы Я. Брыля[64] і У. Караткевіча, В. Быкава… Нам трэба больш нацыянальных талентаў, твораў мастацтва на нацыянальнай глебе. Жывая мова тысяч людзей не загіне, яна будзе жыць і нават квітнець. Калі высокакультурныя, высокаадукаваныя, прыгожыя людзі будуць карыстацца беларускай мовай, будуць спяваць (і цяпер спяваюць) беларускія песні, то і зялёная моладзь не будзе цурацца матчынай мовы.

Беларус па прыродзе чалавек сарамлівы і надта гасцінны, ён усё аддасць другому, нават залішне схіляецца перад іншымі, часамі нізавошта прыніжае сябе. Адсюль — *«мая мова горшая, а іхняя — лепшая, культурнейшая»*. Трэба, каб таленты паказалі, на што годная наша мова. А каб яшчэ і падтрымка зверху… Завядзі канцылярыю на беларускай мове — і калі ласка — і мы так гаворым і ўсё разумеем. Які беларус не спявае ў застоллі «Пасылала мяне маці яравое жыта жаці…», «Ой хацела мяне маці…», «Касіў Ясь канюшыну…» і г. д.? Хто не стараецца ўпрыгожыць сваю абруселую мову сакавітым або трапным беларускім словам?

А мовазнаўцы сваю справу так-сяк робяць. Выводзяць мову на міжнародную арэну этымалагічнымі, тлумачальнымі, перакладнымі слоўнікамі, слоўнікамі жывога народнага слова…

*(Каля 40 гадоў, беларуска, прадавец кнігарні)*

Размову аб тым, што беларуская мова знікае, а праз колькі гадоў знікне наогул, я пачула, калі пачала працаваць у аддзеле «Беларуская літаратура». Многія з тых, што траплялі ў аддзел, даведаўшыся, што тут кнігі толькі на беларускай мове, адразу ж пыталіся: *«А где на русской?»* — і адразу выходзілі з аддзела.

Некаторым з іх я пачала задаваць пытанне: *«А вы хто? Беларус?»* ці *«Беларуска?»* *«Так, беларус(ка)»*, — чула звычайна ў адказ.

---

[63] Першыя радкі з верша Рыгора Барадуліна, напісанага ў 1960 г.

[64] **Янка Брыль** (1917–2006), народны пісьменнік Беларусі.

— Тады чаму ж вы не жадаеце набыць кнігу на роднай мове?
— А мы яе не ведаем.
— Чаму? — маё запытанне.
— Бо не вучылі ў школе.
— А дома як размаўлялі вашы бацькі, на якой мове?
— На нейкай змешанай.
— Дык чаму вы не жадаеце цяпер вывучыць сваю мову?
— А хто ж яе ведае правільна? Мы такіх людзей яшчэ не сустракалі.
Іншыя казалі так:
— Этот язык белорусский тяжёлый.
— Няўжо вам лягчэй вывучаць нейкую замежную мову? Мне здаецца — наадварот: калі вы беларус(ка) не ведаеце сваёй мовы, як жа вы зможаце ведаць чужую мову?
— Да выучить иностранный язык легче, чем белорусский.
— А ці не лічыце вы, што той, хто вывучае і рускую, і беларускую мову, багацейшы ўдвая, больш культурны, больш эрудыраваны чалавек? — былі мае запытанні да многіх. І тут амаль усе пагаджаліся са мною. Мяне вельмі цікавіў сам факт: а што ўяўляе з сябе чалавек, які іншым разам саромецца назваць сябе беларусам і настойліва сцвярджае, што *«мне легче читать книги на русском языке».*
— Добра, — казала я, — тады давайце з вамі пагаворым пра рускую літаратуру. Мне б хацелася ведаць ваш густ. Хто ваш любімы пісьменнік з сучасных, а таксама з класічнай скарбонкі, хто ваш любімы паэт?
Чалавек называў Пушкіна, Лермантава[65], Некрасава[66]. Два-тры імёны, не болей. І хуценька выходзіў з аддзела ці стараўся перавесці гаворку на нешта іншае. І такіх было вельмі шмат, большасць.
Калі я некаторым з іх паспявала сказаць: *«Дык вы ж і рускай мовы не ведаеце! Навошта тады гэта гаворка,*

[65] **Міхаіл Лермантаў** (рус. *Михаил Лермонтов*, 1814–1841), рускі паэт, празаік, драматург, класік рускай літаратуры.
[66] **Мікалай Някрасаў** (рус. *Николай Некрасов*, 1821–1878), рускі паэт, публіцыст.

*гэта хлусня пра беларускую? Вы самі, пэўна, дадумаліся да такога, што мова гэтая цяжкая і грубая, як вы сцвярджаеце?»* — людзі злосна паглядалі на мяне, і заўсёды ім не было чаго сказаць у адказ. Бо быў перада мной яўна выражаны тып мешчаніна — з усёю яго нахабнасцю, злосцю на ўсіх і на ўсё, тып чалавека, які не разважае самастойна, а цытуе недзе пачутыя словы, фразы.

Людзі гэтыя амаль не ведаюць гісторыю, зусім не ведаюць мастацтва (ні рускага, ні беларускага — ніякага), не ведаюць і літаратуры. Але многія з іх закончылі вузы. Многія з іх маюць дзяцей, сям'ю. Хочуць мець дома бібліятэку.

А для чаго? Для каго?

Дзяцей сваіх яны выхоўваюць у такім жа мяшчанскім духу, размову аб мове і наогул аб усім вядуць у прысутнасці сваіх дзяцей. Апрануты гэтыя людзі па апошняй модзе. На кожнай руцэ (калі гэта жанчына альбо дзяўчына) па некалькі залатых пярсцёнкаў, кольцаў, бранзалетаў. І, вядома, вольны час свой яны аддаюць, як высветлілася, не чытанню кніг, а, хутчэй за ўсё, іх набыццю. Але на першым плане ў іх усё роўна не кніга, бо трэба ж у сваё мяшчанскае гняздо набыць вельмі многа іншых рэчаў. Кілімы, крышталь, золата — вось што іх цікавіць у першую чаргу. І яны набываюць, і яны ведаюць, дзе знайсці і праз каго гэтыя «*дыфецыты*». Тут яны ў сваёй стыхіі. Ды і размовы іх штодзённыя не пра мову, не пра літаратуру, а пра тое, што набыць, напяліць на сваё цела, каб іншым было зайздросна. Хто дзе каго ўзяў, хто каго кінуў (маецца на ўвазе сям'я ці каханне). Вось і ўсё. Такія людзі вельмі абмежаваныя, вельмі нахабныя. Ім здаецца, што калі начапілі на сябе модных анучак ды пакрылі зверху ўсё гэта золатам, дык у гэтым уся сутнасць чалавечых якасцей. Яны гаспадары, і ім вырашаць — быць там нейкай беларускай мове ці не быць. Бо акрамя таго, што самі яны яе не ведаюць, дык і дзяцей сваіх стараюцца аберагчы ад яе.

Калі мне сустракаліся людзі з вышэйшай адукацыяй, якія выказваліся таксама непрыязна да беларускай мовы, я пыталася ў іх: «*Няўжо ў вас у інстытуце (нархоз, педінстытут і інш.) не вучылі любіць, паважаць мову родную — калі вы не засвоілі гэтага ў школе?*»

*«А мы і кніг ніякіх не мелі магчымасці чытаць за час вучобы ў вузе. Бо не было часу. Трэба было вучыць па сваёй будучай спецыяльнасці»* — так адказвалі многія. І яны не хлусілі, бо веды іх па літаратуры ці чым-небудзь іншым, не звязаным з іх сучаснай прафесіяй, былі, як выяўлялася ў размове, вельмі і вельмі абмежаваныя, смехатворныя. Але людзі вельмі ганарыліся тым, што скончылі вуз і займаюць недзе нейкую пасаду. Ім не сорамна за тое, што чалавеку не іхняга круга, чалавеку іншай прафесіі з імі размаўляць па сутнасці няма аб чым, бо нецікава і сумна.

Многія людзі звычайна казалі: *«А дзе яе вучыш, тую мову? Хто правільна на ёй размаўляе? І дзе? Мы яе нідзе не чуем, дык ад каго ж нам вучыцца?»*

— А для гэтага вось вам і трэба пачаць размаўляць на беларускай мове, няхай сабе і не зусім літаратурнай. Калі вы будзеце звяртацца да субяседніка на беларускай мове, няўжо ж ніхто вам не адкажа таксама на беларускай? Вось так, паступова, і вывучыце яе. Толькі так — размаўляючы. Бо пры размове і ўспамінаецца нешта забытае, а чаго граха таіць, мы ж усе амаль тут з вёскі. Такім быў мой адказ.

Многія пагаджаліся са мною, дзякавалі і, усміхаючыся, пакідалі нашую кнігарню з завярэннем, што яны будуць сюды прыходзіць, будуць чытаць кнігі і размаўляць на беларускай мове, бо сапраўды яна прыгожая, родная.

Заходзяць у нашу кнігарню, а менавіта ў аддзел беларускай літаратуры, і іншыя людзі. Людзі, якія добра ведаюць беларускую мову, добра і цікава на ёй размаўляюць. Амаль усе яны пастаянныя пакупнікі, пастаянныя наведвальнікі. Многіх з іх я ведаю дзясяткі гадоў. Людзі розных прафесій, розных узростаў, але яднае іх адно — любоў да сваёй мовы, да кнігі, да чалавека.

Гэтыя людзі — вельмі цікавыя субяседнікі. Яны многа ведаюць, бо не абмежавалі веды свае толькі рамкамі вузкай сваёй спецыяльнасці. Не. Яны многа чыталі, многа вандравалі, многа людзей, дзякуючы сваёй эрудыцыі, культуры, дзякуючы ведам сваім і, галоўнае, веданню роднай мовы, яны сустрэлі і сустракаюць у жыцці.

А таму вывад з усяго гэтага адзіны: мова нашая — гэта наша культура, нашы веды, нашы сустрэчы з цікавымі

людзьмі, нашы сябры ў жыцці паўсядзённым. Нашы мары, нашы надзеі. Ёсць мова — ёсць сонца, ёсць радасць.

Няма мовы — і няма чалавека. Бо не чалавек той, хто не мае сябра, не мае мары, не мае песні…

Тое, што многія беларусы добра ведаюць рускую мову — чытаюць, размаўляюць на ёй, — лічу добрай справай. Дрэнна тут толькі тое, што беларускую яны ведаюць альбо вельмі слаба, альбо не ведаюць зусім.

У нас вельмі гасцінная краіна. І прыязджаюць да нас часта на пастаяннае ці часовае жыхарства людзі, якія выказваюць жаданне ведаць здабыткі нашай беларускай літаратуры ў арыгінале, а не ў перакладзе — ведаць так, як мы ведаем рускую. Таму, мабыць, трэба было б стварыць нейкія гурткі, курсы па вывучэнні беларускай мовы (ёсць жа такія па вывучэнні замежных моў). Туды пайшлі б і беларусы, якія ў сталым узросце жадаюць вывучыць мову, і іншыя, якіх яна цікавіць.

Памыляюцца аўтары кніг (ці то проза, ці паэзія), якія мяркуюць, што вось калі б яны выдалі свой твор на рускай мове, яго чыталі б усе. Таленавітыя, цікавыя кнігі людзі заўсёды пытаюцца на той мове, на якой піша аўтар, і калі ён беларус, то яны і хочуць ведаць яго як беларуса. Слабыя ў мастацкім сэнсе творы і на рускай не карыстаюцца попытам. Вывад з гэтага той, што трэба ўзбагачаць літаратуру не толькі моваю, але і зместам даннага твора. Ад гэтага будзе карысць мове і чалавеку, які гэты твор набудзе і прачытае. І калі кніга цікавая, то ён і сябру дасць яе прачытаць, і суседзям, і таварышам на працы. Гэтым і выкажа падзяку аўтару — папулярызуючы яго.

*(Паміж 30 і 40, беларус, мовазнавец)*

…У сілу розных сацыяльных фактараў грамадскія функцыі беларускай мовы звузіліся. Больш дакладней было б сказаць: адбылося пераразмеркаванне грамадскіх функцый паміж рускай і беларускай мовамі, якія ўжываюцца на тэрыторыі Беларусі на роўных правах. Тое, што многія беларусы размаўляюць на рускай мове, не сведчыць аб тым, што беларуская мова горшая: дрэнных моў наогул няма. Гэта, відаць, адбываецца таму, што беларуская мова з усіх

моў народаў СССР найбольш блізкая да рускай. А пераход на рускую абумоўлены ўсеагульнасцю апошняй як сродку зносін на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. І таму на ёй можна ва ўмовах шматнацыянальнага горада звяртацца да кожнага чалавека, не ведаючы яго нацыянальнай прыналежнасці. І таму заканамерна, што беларус у горадзе з незнаёмым чалавекам гаворыць па-руску. Я назіраў масу выпадкаў у Мінску, калі прадстаўнікі адной і той жа сацыяльнай групы гаварылі паміж сабой па-беларуску ці на той гаворцы, якую яны ведалі з дзяцінства. Значыць, выбар мовы для зносін залежыць ад сітуацыі. Дарэчы, няведанне беларускай мовы вельмі часта не спалучаецца з веданнем на неабходным узроўні рускай мовы. І чалавеку, які адкрыта выракаецца роднай мовы, лепшым контрдовадам будзе ўказаць на такія «шэдэўры» ў яго «рускай» гаворцы, як *«учара»*, *«приехал у чацьверг»*, *«трэбует»*, *«на этой улицы»* і інш. (лексіка ў ягонай гаворцы — руская, а фанетыка — беларуская)… Ён не хоча ведаць беларускую мову не таму, што яна дрэнная, а таму, што ён наогул мала што хоча ведаць…

Сацыяльны прэстыж мовы ў многім залежыць ад якасці культуры, сродкам матэрыяльнага выяўлення якой з'яўляецца гэта мова. З гэтага і вынікае асноўная загана дзеячаў нацыянальнай беларускай культуры. Нам трэба больш «Песняроў»[67], «Харошак»[68], «Верасоў»[69], тады і мова наша набудзе пашану і павагу. Трэба паклапаціцца, каб і многае іншае — наша адзенне, меню ў сталоўках і рэстаранах, архітэктура нашых гарадоў мелі нацыянальнае аблічча, узноўленае з улікам сучасных эстэтычных патрабаванняў. Гэта будзе садзейнічаць абуджэнню цікавасці да роднай мовы.

Перспектывы?.. Калі падняць агульны ўзровень культуры народа, людзі будуць больш цікавіцца і праблемамі

---

[67] **«Песняры»** — вакальна-інструментальны ансамбль, створаны Уладзімірам Мулявіным у Мінску ў 1969 г.

[68] **«Харошкі»** — харэаграфічны ансамбль, заснаваны ў 1974 г. пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

[69] **«Верасы»** — вакальна-інструментальны ансамбль, створаны ў Мінску ў 1971 г.

И никто его не кідае без особых причин. Это — подмена понятий. Нельзя естественные причины жизни вымерять масштабами пинской шляхты[153]…

Я чаще всего говорю по-русски. Для меня оскорбительно, когда за это берутся люди, не знающие этого языка. Для меня как для белоруса оскорбительно, когда говорят: *«Кінуў мову»*…

Когда я приезжаю в Вильнюс и слышу беларускую мову — я испытываю почти физическую радость. Но невыносимо, когда человек демонстративно говорит по-белорусски, несёт ахинею — языком ужасным, не зная и тысячи слов по-белорусски, и всех этих высказываний о мове не знает. Он использует своё убогое знание мовы для того, чтобы приобрести какую-то позицию в национальной культуре…

Хуже всего для народа, когда он плюёт на всё человечество.

…Существует ли потребность у национального интеллигента пользоваться родным языком?.. Интеллигент ли он, если он не знает национальной литературы, а следовательно, и языка? А если он физик — и читает в переводах Купалу, Быкова, Мележа? Всё хорошее — переводят. А дерьмо и читать не нужно… Другое дело, можно ли физика считать белорусским интеллигентом?

Пусть бы раз в 10 меньше людей говорило на этой мове и писалось бы раз в 10 меньше — но хорошо говорилось и хорошо писалось!..

Работает ли на *«родной ніве»* Гуринович[154] — министр иностранных дел? Или наш человек, сидящий в ООН? Или врач, ковыряющий в носу или в … какого-нибудь туземца? Всякое увлечение *«родной нівай»* приведёт в конце концов к тому, что придёт китаец — и все мы будем говорить «мяо»…

Этически нясмачна гучыць — *«як чэрві»*…

Чем виновата наша баба, вздохнувшая наконец после всех этих лихолетий? Кругозор у неё узок — но она ли

---

[153] **«Пінская шляхта»** — фарс-вадэвіль Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, напісаны ў 1866 г.

[154] **Анатоль Гурыновіч** (1924–1999), беларускі савецкі дыпламат, у 1966–1990 гг. — міністр замежных спраў БССР.

виновата в этом? Он, этот культуртрегер, не знает, в чём виноват и в чём не виноват этот народ…

«…*А чалавецтва, чалавецтва, культура, мова, нацыя жылі і будуць жыць вечна*»… Это же ломиться в открытую дверь. Это совсем не то, о чём ты спрашиваешь. Человечество — это ещё проблематчно, будет ли оно жить вечно. А культура и нация — тут просто нужно элементарно знать историю…

Мы живём почти в XXI веке. И каждый из своего кармана достаёт мудрость. Надо знать, а не просто трепать языком. Может быть, он и хороший человек, но мыслит очень плоско. Он ушёл, по существу, от ответа, отделался эмоциональными всхлипами…

Конечно, мог бы и я тебе ответить в таком примерно духе: «*Вы ведаеце… Гэта — пачвара, хто выракаецца роднай мовы. Шкада, што не вывучалі ўсе прадметы на гэтай мове. Наша мова дасягнула нябачных вышынь! — нават "Фаўста" пераклалі!.. У нас такія магутныя дыялекты. Пачытайце раманы Мележа, вершы Барадуліна — як гэта чароўна, мілагучна гучыць!.. Я нават кінуў па-руску чытаць… Трэба ўсю класічную літаратуру вывучаць толькі на беларускай мове… А далей — Інстытут хіміі, школы, ВНУ — толькі на беларускай мове… І ўвогуле — чаго гэтыя рускія папрыязджалі, каркі панажыралі?*».

Так тебе мог бы я ответить, а возможно, кое-кто ещё и ответит.

Плохо пахнет от этих разговоров. «*Откуда он приехал? Белорус он или нет?*». Ты послушай, с какими интонациями об этом говорят молодые. Кто понаезжал? 17-й год, фронты… Шла большая революция, огромные миграции. А что творилось на Украине?.. Я не знаю историю нашего национализма, но, слава Богу, у нас здесь народ серьёзный. Может быть, это немцами или поляками принесено?

…Можно понять писателя, который пишет на умирающем языке… Или, чтобы не так оскорбительно, на языке, который перестаёт быть средством широкомасштабного общения… Но молодые? Любите свой язык, развивайте его, делайте на нём хорошую литературу — но не понуждайте другого любить!

Я очень люблю литовскую литературу. Я всячески проникаю в неё, но они меня не заставляют делать это…

…Они превратили себя в элиту — мовалюбаў… Я имею в виду людей, узко смотрящих на эти вещи. У них просто действует трансформированный инстинкт самосохранения.

Лёс мовы… Это не зависит от желания людей. История этого пожелает — будет развиваться мова. Это — проблема социологическая, социальная, политическая, идеологическая. А в конечном счёте проблема экономической целесообразности…

Вот тебе лекция. Если бы я прочитал её в кружке аматараў беларускай кнігі — я бы живым оттуда не вышел. И ни одна моя статья не была бы напечатана.

А вазьмі мастацтва… Пэн[155], Кругер[156], Керзін[157] — не беларускія мастакі. Беларускі — толькі Філіповіч[158]. Талантливый человек, но из него делают единственного человека на *«родной ніве»*… А кто эту ниву пахал?.. От кого они всё получили — сеть школ, библиотек и т. д.? Они были и поляками, и литовцами, и русскими, и евреями, и белорусами, конечно, — всё это плоды общих усилий. Благодаря этому мы имеем то, что теперь называем Белоруссией — со всеми её бедами и радостями…

Так, по анкетному признаку надо и Левитана[159] гнать с Третьяковки… А начнёшь с Левитана — неизвестно, чем кончишь…

Бялыніцкі-Біруля[160]… Уехал… Был там преуспевающий молодой человек… Барин — не барин, трудно понять. Но

---

[155] **Іегуда (Юдаль) Пэн** (1854–1937), беларускі мастак-жывапісец габрэйскага паходжання, педагог, выбітны дзеяч «габрэйскага рэнесансу» ў беларускім мастацтве пачатку XX ст., настаўнік Марка Шагала.

[156] **Янкель (Якаў) Кругер** (1869–1940), беларускі савецкі мастак-жывапісец габрэйскага паходжання, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

[157] **Міхаіл Керзін** (1883–1979), беларускі савецкі скульптар рускага паходжання, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

[158] **Міхась Філіповіч** (1896–1947), мастак-жывапісец, графік, педагог.

[159] **Ісак Левітан** (рус. *Исаак Левитан*, 1860–1900), рускі мастак яўрэйскага паходжання.

[160] **Вітольд Бялыніцкі-Біруля** (1872–1957), мастак-жывапісец, майстра краявідаў.

явленим белорусского художественного сознания он стал только после войны… Вроде для белорусского искусства больше сделали евреи Кругер и Пэн, чем белорус Бялыніцкі-Біруля… Русский человек Керзин гораздо больше сделал для белорусской культуры, чем чистый белорус Селиханов[161].

Это тебе не в печать, а для своего собственного пользования… и размышления.

Эта книга может быть полезной для культуры, если ты каждого сможешь разговорить, как меня… Но, к сожалению, приспособленцев и трусов много… и просто людей, уходящих от проблемы…

Вот бумаги нет — это проблема! А мовы — на ўсіх хопіць!

(Тут зазваніў тэлефон, і мой субяседнік хвілін пяць з кімсьці гаварыў — я ажно рот разявіў — на цудоўнай беларускай мове.)

Моя бабушка — полонизированная западная белоруска — из-под Белостока. Вымаўленне ў мяне от неё…

Поскольку мы уже во втором поколении интеллигенты, мы многого для себя не открывали. А они — первого поколения, они, кроме того, што трэба любіць мову, они больше ничего не знают и знать не хотят…

А то, что на всей границе с Китаем нужно поставить танки и не только танки — иначе такое ахнет, что все будут говорить по-китайски, — это им даже в голову не приходит… Во что это обходится — их это тоже не волнует.

Польша создала великую культуру не благодаря языку, а благодаря действию на этом языке.

Конрад[162] — англичанин. Но его не отлучают от польской культуры. А у нас — я хутчэй сваю кніжку ў план уцісну, чым ягоную…

Псіхалогія аднаасобніка. Вясковы хлопец прыехаў у горад, крануўся культуры… Хозяйский глаз — он и тут видит, где что лежит… Как этот поэт 46 лет — это всё несерьёзно…

---

[161] **Сяргей Селіханаў** (1917–1976), скульптар, народны мастак БССР.

[162] **Джозэф Конрад** (сапр. пол. *Teodor Józef Konrad Korzeniowski*, 1857–1924), брытанскі пісьменнік і публіцыст польскага паходжання.

«ЛіМ» — небрежно редактируется стилистически. Потому что адепты белорусского языка его не знают. Они не знают стилистики…

Хороший поэт К.[163]. Но какого чёрта он эту реформу письменности изобрёл? Он относится к разряду псевдоучёных. Нет у него филологически и языковедчески грамотного мышления…

Доктор К… Бр. – академик! Сельский учитель Ш. готов стать президентом Академии… Или ваш Бу…

Если хотите укреплять язык — нужно законсервировать синтаксис и грамматику!

Англичане: читают по-старому, говорят по-новому. Так что вот где диверсия против роднай мовы…

Потому что вышли труды Сталина по языковедению… Язык, в котором возможен произвол, — это ненаучно. Вкусовщина в языкознании — то же, что вкусовщина в политике…

Если поэт лямантуе пра мову, вообще рассыпает эмоциональные глупости — ему можно простить. Но учёный должен подходить к делу серьёзно…

*(Каля 30 гадоў, спецыяліст па метадалогіі навукі, беларус)*

Па-першае, наконт агульнай мовы. Такая спроба ўжо была — у неапазітывістаў. Вітгенштэйн[164], часткова — Расел[165]. Нават для людзей навукі, занятых у адной вузкай сферы дзейнасці, яны не здолелі стварыць такую адзіную мову. Што ж тады казаць пра агульную мову для ўсяго чалавецтва?

Ідэя неажыццявімая. Гэта навукова даказана і нашай, і замежнай крытыкай неапазітывістаў.

«Мовазнаўцы», «гісторыкі», пра якіх гаворыць Барадулін… У іх тут элементарнае няведанне некаторых

---

[163] Відаць, маецца на ўвазе Кандрат Крапіва.

[164] **Людвіг Ёзаф Ёган Вітгенштэйн** (ням. *Ludwig Josef Johann Wittgenstein,* 1889–1951), аўстрыйскі філосаф і логік, прадстаўнік аналітычнай філасофіі.

[165] **Бертран Артур Уільям Расел** (англ. *Bertrand Arthur William Russell,* 1872–1970), брытанскі матэматык, філосаф і грамадскі дзеяч.

філасофскіх момантаў. Адсюль і скараспелыя вывады — пра *«сціранне граняў»*…

Мо не кожная нацыянальная мова з аднолькавай практычнай эфектыўнасцю можа быць мовай для сучаснай навукі. Але самая дасканалая ўніверсальная мова ў жыцці — гэта родная мова.

Уражанне… Алаіза Цётка, яна змыкаецца з Купалам і з Багушэвічам, удакладніла Багушэвічава *«Не пакідайце роднай мовы, каб не ўмёрлі»*: для свайго народа. Мо яна трошкі дакладней выказала думку Багушэвіча…

(— Памрэ духоўна?)

Чалавек духоўна мо і не саўсім памрэ… Ён памрэ для свайго народа…

(— Як беларус — ён памрэ і для сябе самога…)

…Аб моладзі, аб яе вялікай павіннасці… Гэта другая дэталь, на якой я спыню ўвагу.

На мой погляд, гэта павінны рабіць людзі з чыстымі рукамі. У якім сэнсе? Людзі высокай культуры, у якіх гэта прайшло праз усведамленне, што беларуская культура — неад'емная частка светавой культуры, у якіх гэта стала арганічнай патрэбай, а не толькі сродкам зарабляць на кавалак хлеба…

Гэта зробяць высокакультурныя людзі. Яны не будуць шарахацца ў крайнасці нацыяналізму, не будуць распыляць, заквашваць свой інтэлект на нацыянальным эгаізме. Яны будуць выступаць з пазіцый агульначалавечай культуры. І гэта дасць ім магчымасць найбольш поўна ацаніць беларускую культуру, яе месца і значэнне, неабходнасць яе далейшага развіцця…

І трэцяе, на што трэба звярнуць увагу. Беларуская мова і літаратура… Літаратура найбольш поўна ўвасабляе нацыянальную мову, у найбольш дасканалай форме. Беларуская ж літаратура мае багатыя традыцыі.

Думка Гілевіча і палымяныя радкі Танка даказваюць, што, нягледзячы на ўсе хістанні — і тэарэтычныя, і жыццёвыя, развіваць далей родную мову — справа і неабходная, і пачэсная, і перспектыўная…

У любым выпадку гэтая справа будзе працягвацца.

Уражанне наконт агульнай мовы ў мяне не на першым месцы. На першым — другое і трэцяе. Адбілася прафесійная вывучка…

*(20 гадоў, беларуска, сялянка з Брэстчыны, з абітурыентаў БДУ)*

…Матчына мова. Гэта, відаць, не толькі — а мо нават і не столькі — мова маці як асобнага чалавека. Матчына мова — гэта мова маці-радзімы, зямлі, якая нарадзіла і ўзгадавала цябе. Гэта крыніца, зямля, з якой выраствае культура…

*(42 гады, беларус, настаўнік з Койданаўшчыны)*

…Мова — чысціцелька душы. Яна — святая засцярога ад здрады. Мова — міранка. Яна не ваяўнічая. Яна не абараняе сябе. Яе мусім абараняць мы…

*(Паміж 20 і 30, рускі, настаўнік)*

Вся будучыня беларускай мовы — и это идеал не только мой — ствараць культуру не створанаю… яна проста не рэалізаваная.

Вось Л. её реализует в полной мере. Хотя сказать, что это белорусское, нельзя: он вышел уже на бязмежжа, на культуры Востока.

Застаўся нейкі адзін параметр, які нас аб'ядноўвае, — мова. Сохраните мову! Это единственное и самое важное.

Если мы всё можем передавать русской мовай, то наступает этический момент: нация и мова — неотделимы, и для будучыні решающим будет мова. В этом есть какая-то асаблівая тайна: преломление думкі праз язык. И в этой тайне живёт поэзия.

Мова захоўвае дух народа, яго будучыню, яго лёс. Язык бытия где-то уже был… и мы обо всём знаем… только вспоминаем… (Платоновская[166] идея предсуществования.)

---

[166] **Платон** (427–347 да н. э.), старажытнагрэцкі філосаф, вучань Сакрата, настаўнік Арыстоцеля.

Моўнае поле в том и выражается… И когда мы теряем язык нации, мы теряем эту тайну…

Это не только лицо нации, но и цельность космического масштаба. Мы теряем тайну Вселенскую…

Ближе всего к этому стоял Хайдеггер[167]. Но он не связал это с нацией…

Мы стражи не только этого бытия, потому что нам доверен язык. Язык нации, народа. В нём — вселенская тайна, которую несёт народ…

Нация говорит им, а не он нацией. Если он не умеет слушать — это уже не то. Когда она говорит им как некая первооснова бытийная, которая, как мать, нас сохраняет, — в этом вся суть белорусского языка…

Поэтому не надо бояться авангарда, не надо бояться внешней ломки языка. Это доказывает Л. Мы можем говорить, что его мова непонятная, что нарушены традиции, что это осколки сосуда или зеркала… Но в них мы все можем найти свои отражения.

Л. доверился своему началу… первооснове своей национальной… В этом его сила, его глубина, его будущее. Это и есть язык.

Мы не должны бояться того, что мы не сможем это выполнить, что это нереально — для горстки людей.

Л. говорит о внутренней Белоруссии. В самом этом понятии он отбросил страх — страх не сказать, страх быть не понятым… Здесь не самопожертвование — а вещи, которые уходят за пределы личной судьбы…

Если это поймёт тот, кто рядом, это будет то, что их объединит.

Сложная ломка: личностный момент в поэтах наших присутствует — и они боятся, что не смогут утвердиться, сказать, как они любят Родину. А на самом деле в этой гонке иллюзорной они потеряли не только себя, но и своё назначение как поэта…

---

[167] **Марцін Хайдэгер** (ням. *Martin Heidegger*, 1889–1976), нямецкі філосаф, адзін з заснавальнікаў і галоўны прадстаўнік экзістэнцыялізму.

Л. проникся идеями всего человечества, доверяя своему национальному преломлению. Он понимает, что, сказав это по-белорусски, он творит именно белорусскую культуру. Сучасную… Магчыма, он откроет её в каких-то параметрах новых…

*(35 гадоў, беларус, журналіст)*

Мова звязвае нас у адно, паміж сабою, і звязвае сабою — абавязвае. Мы пазнаем адзін аднаго па мове.

Яна тое вонкавае, што стала ўнутраным.

Ад яе нельга адмовіцца, як ад вопраткі. Хто адмаўляецца, той адымаецца, і ніхто староннi не пакажа яму дарогі дамоў.

Зойдзеш у мінскую краму, скажаш па-беларуску, а прадавачкі здзівяцца: адкуль вы?

Неадпаведнасць заўважаюць.

Адпаведна было б, каб ты гаварыў незаўважна — як усе — або выглядаў па-іншаму — як дзед вясковы.

Дарэчы, не ўяўляю гарадскіх дзядоў, у горадзе — пенсіянеры.

І тады ты адказваеш: з Беларусі…

Наша мова — гэта боская далонь, якая не дае нам згубіцца ў сусвеце.

Унутраная радзіма.

Беларусь — ужо таксама ўнутраная радзіма.

Мова ні ад каго не адмаўляецца — адмаўляюцца ад яе.

Яна нішто не траціць — трацяцца ад яе.

Беларусь — краіна небасхілаў: сонца на захадзе і сонца на ўсходзе.

На захадзе і на ўсходзе беларуская мова: ужо скончылася і яшчэ не настала.

Так доўга ты настаеш, так доўга ты адыходзіш, мова: прысмакам страты насычана стагоддзе.

Але страта мае перажыцца дарэшты. Усход магчымы пасля гэтага, уваскрошанне — пасля гэтага.

Далонь Бога ля майго чала.

*(40 гадоў, беларус, гісторык філасофіі. Аўтаінтэрв'ю складальніка)*

Мова кожнага народа (акрамя інфарматыўнай, прадметна-сэнсавай, паняццевай) змяшчае ўнікальную, неперакладальную, «чыста гукавую» — музычную плынь, маральна і эстэтычна вельмі глыбокую і напружаную. Чалавек з развітым духоўным слыхам знаходзіць вялікую асалоду, чуе непасрэдны рух існага ў гэтай музыцы, у якой — рэха гісторыі, прыроды і духу яго народа…

Але… Жыццё бязлітасна ставіць пытанне: быць ці не быць у далейшым жывой стыхіі беларускага слова?

А беларус, які ўсведамляе сябе беларусам, любы чалавек, не глухі да прыгажосці, думае: як захаваць моўную Нарач, Палессе мовы — ад НТР атрутных страў? Ад сытай апатыі мяшчанства? Што я магу зрабіць для гэтага?

Перш за ўсё трэба ўсведаміць, што працэсы разбурэння прыроднага і духоўнага асяроддзя чалавечага жыцця, «нацыянальнага эйкасу» і нацыянальнай культуры ідуць паралельна і знітаваны глыбей, чым здаецца на першы погляд. Што сацыяльная небяспека духоўнага разбурэння недаацэньваецца, а часцей за ўсё нават і не заўважаецца — ва ўсеагульнай сытасці, у грукаце «масавай культуры», у самагіпнозе чыста колькаснага, фармальнага «культурнага росту». Што берагчы «духоўны эйкас» народа, «кроў культуры — мову» трэба не тады, калі ўжо будзе позна, а цяпер, калі яўных, незваротных адзнак катастрофы, «моўнай лейкеміі» быццам яшчэ няма.

Трэба пераадолець вульгарна-сацыялагічнае, прамое (для прыстойнасці, праўда, аздобленае невялічкімі, чыста колькаснымі папраўкамі) перанясенне заканамернасцей развіцця сацыяльна-эканамічнага і палітычнага «макрасвету» на «мікрасвет» нацыянальнай духоўнай культуры.

Кожны чалавек павінен глыбока адчуваць і разумець, што паўнакроўнае існаванне, развіццё і ўзаемадзеянне духоўных культур усіх народаў свету безумоўна з'яўляецца магутным фактарам, істотным момантам станаўлення чалавецтва. Што любыя спробы штучнай, фарсіраванай дэфармацыі (ці здушэння ў абдымках) той ці іншай з гэтых унікальных цэласнасцяў, якія стварaліся кожным народам на

працягу многіх стагоддзяў і безліччу нерваў зНітаваныя з усімі іншымі, закранаюць істотныя моманты станаўлення ўсяго чалавецтва, робяць шкоду яго сапраўдным жыццёвым інтарэсам і іхныя стратэгічныя вынікі не могуць быць нават прыблізна ацэнены. Іх можна параўнаць толькі з экалагічным шкодніцтвам. Бо, відаць, немагчыма прадказаць ці разлічыць, якому менавіта народу — «вялікаму» ці «маломму», «перадавому» ці «адсталаму» — і менавіта калі суджана будзе —на новым вітку прыродна-гістарычнай спіралі, на новым узроўні — зрабіцца «новым Усходам», «новай Антычнай Грэцыяй», калыскай новага Адраджэння…

Глыбокі філасофскі аналіз праблем нацыянальнай мовы ажыццявімы толькі ў кантэксце агульнай культуралагічнай праблемы — праблемы нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай культуры асобнага народа як часткі больш шырокага сацыяльнага цэлага. Адпаведныя паняцці — перш за ўсё катэгорыю «нацыянальнага» як інструмент даследавання культуры — мы разгледзім ніжэй. Спачатку, у якасці папярэдніх заўваг, я паспрабую аспрэчыць некаторыя меркаванні футуралагічнага характару, якія, нягледзячы на іхны быццам «чыста тэарэтычны» і нават «фантастычны» характар, маюць самае прамое дачыненне да нашай моўнай практыкі.

Амаль у кожнай сучаснай манаграфіі, прысвечанай разгляду тэарэтычных пытанняў нацыянальнага развіцця і міжнацыянальных адносін, перш за ўсё ў галіне культуры, мы знаходзім раздзелы, у якіх аўтары імкнуцца зазірнуць у далёкую будучыню, у тыя часы, якія наступяць за этапам усебаковага росквіту народаў свету і іх нацыянальных культур ва ўмовах сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі[168]. Многія з іх, у той ці іншай форме, згодны лічыць, што хаця этнічныя і культурныя (у прыватнасці, моўныя) адрозненні (якія яны разглядаюць як рэшткавыя

[168] Гл., у прыв.: Куличенко, М. Н. Национальные отношения в СССР и тенденции их развития. М., 1972, с. 515–558; Калтахчян, С. Т. Ленинизм о сущности нации и пути образования интернациональной общности людей. М., 1976, с. 151, 177, 401–407 і інш.; Рогачев, П. М.; Свердлин, М. А. Нации, народ, человечество. М., 1967 і інш. — *Заўв. А. Б.*

з’явы — у тых, будучых умовах) будуць існаваць яшчэ доўга і ў эпоху сталага сусветнага камунізму, але ж з цягам часу і яны растануць ва ўсеагульнай безнацыянальнай цэласці чалавецтва. Наконт гэтага таксама дазволю сабе выказаць некаторыя меркаванні.

Людзям заўсёды было ўласціва палкае жаданне ўявіць сабе, што будзе «*там, за гарызонтам*» (у дадзеным выпадку — за «часавым гарызонтам»), нават калі гэта і не выклікалася непасрэднай практычнай неабходнасцю. На мой погляд, думкі па гэтых далёкіх у часе пытаннях карысны нават і тады, калі меркаванні, якія пры гэтым выказваюцца, не ва ўсіх аспектах з’яўляюцца дастаткова абгрунтаванымі і пераканальнымі. Так, на наш погляд, канцэпцыя поўнага этнічнага і культурнага (у прыватнасці, моўнага) «зліцця» народаў ва ўмовах сусветнага камунізму не змяшчае ў сабе нават патэнцыяльнага адказу на шэраг важных агульнафіласофскіх і прыватных пытанняў. Напрыклад, незразумела, як людзі будуць успрымаць шматвяковую творчую спадчыну нацыянальных паэтаў, калі знікнуць жывыя мовы, ад якіх яны неадрыўныя? Няўжо толькі ў перакладах на адну вялікую сусветную мову? У плане агульнафіласофскім, калі ўявіць сабе ў будучым поўную этнічную і культурную (у прыватнасці, моўную) аднароднасць чалавецтва, то ў трыядзе непарыўна звязаных катэгорый «агульнага» (чалавецтва як пэўная цэласць), «асаблівага» (этнасы і нацыянальныя культуры) і «адзінкавага» (асобны чалавек) знікае найважнейшая катэгорыя «асаблівага».

Урэшце, узнікае і такое пытанне: а навошта наогул імкненне ў тэорыі (практыка такога пытання ніколі не ставіла) да поўнага этнічнага і культурнага «зліцця» чалавецтва, калі росквіт народаў і нацыянальных культур ва ўмовах сацыяльнай гармоніі і сацыяльнага адзінства чалавецтва ў сусветнай камуністычнай цывілізацыі адкрывае бязмежныя перспектывы творчага развіцця чалавецтва, пружынай якога якраз і з’явіцца канструктыўнае творчае ўзаеманапружанне, узаемаўплыў высокаразвітых, высокаіндывідуалізаваных нацыянальных духоўных культур, — у той час як *«узрастанне нацыянальнай энтрапіі»* (поўнае этнічнае і культурнае «зліццё» народаў)

лагічна і эмацыянальна ўспрымаецца як пачатак творчага і прыроднага заняпаду чалавецтва? Каму спатрэбіцца — нават у самым далёкім часе — і навошта *«поўнае сціранне адрозненняў»*, скажам, у знешнім выглядзе грузін і эстонцаў (кожны народ мае свае ўяўленні і аб чыста прыродным хараство чалавека), у іх характарах, «манеры разумець рэчы» і, адпаведна, у іх духоўных культурах, якія адлюстроўваюць усё гэта? Рускім? Палякам? Французам? Справе пабудове камунізму? Сапраўднаму сяброўству паміж народамі? Гэта нікому не патрэбна ў наш час. Тым больш не зразумела, каму і навошта гэта спатрэбіцца, калі ўсе класавыя антаганізмы разам з самімі класамі адыдуць у далёкае гістарычнае мінулае, а сусветная камуністычная цывілізацыя будзе трывалай эканамічнай і сацыяльнай асновай росквіту творчай індывідуальнасці ўсіх народаў, міжнацыянальнай прыроднай і духоўнай гармоніі (як і росквіту творчай індывідуальнасці кожнага асобнага чалавека і гармоніі міжіндывідуальнай)? У тэарэтычным імкненні да, так сказаць, *«татальнага зліцця»*, на наш погляд, практычна не ўлічваецца якасная спецыфіка, унутраныя прыродна-гістарычныя рытмы развіцця этнічных і духоўна-культурных цэласнасцей. Фактычна заканамернасці развіцця сацыяльна-эканамічных арганізмаў (у дадзеным выпадку неабходнасць і непазбежнасць іх глабальнага «зліцця» ў сусветным камуністычным грамадстве) механічна пераносіцца на сферы этнічнага і духоўнага станаўлення чалавецтва — з той толькі розніцай, што працэсы «зліцця» ў гэтых сферах уяўляюцца ў гістарычным плане крыху больш павольнымі. У палітычнай практыцы гэтыя ўяўленні не могуць прынесці ніякай карысці камуністычнаму руху. Насупраць, яны даюць добрыя казыры нашым палітычным апанентам у іх палеміцы супраць нас па пытаннях нацыянальнага развіцця і міжнацыянальных адносін, могуць прывесці да памылак у нацыянальнай палітыцы і адштурхнуць ад актыўнага ўдзелу ў стварэнні камуністычнага грамадства многіх дзеячаў нацыянальнай творчай інтэлігенцыі.

«…*Калі гаворка заходзіць аб прагназаванні мастацкай культуры будучыні,* — піша вядомы даследчык беларускай

культуры Ул. М. Конан[169], — *наглядаецца некрытычны падыход да ўстойлівых стандартных ўяўленняў аб безнацыянальнай адзінай агульначалавечай культуры бяскласавага грамадства, у якім нібыта будзе ліквідавана сама праблема нацыянальнага ў мастацтве. Але ж будучая агульначалавечая культура, згодна закону спадчыннасці, успрыме лепшыя дасягненні шматвяковай мастацкай культуры, створанай у нацыянальных формах, якія патрабуюць для свайго адэкватнага засваення ўспрыімлівасці да нацыянальнай своеасаблівасці, напрыклад, ведання нацыянальных моў і г. д.»*[170].

*«Такім чынам,* — працягвае Ул. М. Конан, — *праблема нацыянальнага ў мастацтве ўсё ж застанецца, калі не рабіць дапушчэння, што "адзіная агульначалавечая культура" будучыні адмовіцца ад сваіх шматвяковых традыцый. Дыялектычна супярэчлівыя суадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, бясспрэчна "двухмерныя", пашыраюцца не толькі на мінулае, але і на будучыню. Можна выказаць меркаванне, што эмпірычна яны рэалізуюцца праз безупыннае ўдасканаленне "каналаў сувязі" паміж нацыянальна дыферэнцыяванымі культурамі, якія ўзаемна збліжаюцца. Стандартнае ўяўленне аб поўнай элімінацыі нацыянальнай своеасаблівасці ў будучай аульначалавечай культуры ўзнікла з лагічна памылковай прадумовы, быццам культура кожнага пэўнага адрэзку часу з'яўляецца не складанай у структурных адносінах сістэмай, якая ўключае ў сябе ў якасці падсістэм "гарызантальныя" (прасторавыя) і "вертыкальныя" (часавыя) плыні культуры, а нечым абсалютна аднародным, недыферэнцыяваным, толькі што створаным, а таму — дазваляючы сабе "ліквідаваць" праблему нацыянальных традыцый»*[171].

На наш погляд, пры абмеркаванні гэтых далёкіх у часе пытанняў, якія будуць звязаны з пошукамі аптымальных шляхоў развіцця нацыянальных духоўных культур і эт-

---

[169] **Уладзімір Конан** (1934–2011), філосаф, гісторык, літаратуразнаўца, доктар філасофскіх навук.

[170] Конон, В. М. Эстетическая мысль Советской Белоруссии. Минск, 1978, с. 71. — *Заўв. А. Б.*

[171] Тамсама, с. 71–72. — *Заўв. А. Б.*

насаў на этапе сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі і якія прыйдзецца вырашаць далёкім ад нас у часе і значна больш развітым за нас пакаленням народаў свету, вельмі дарэчы будуць словы Энгельса, якія ўсёй сваёй логікай і гумарам заклікаюць нас да пэўнай стрыманасці і асцярожнасці ў суджэннях па ўсіх пытаннях, што знаходзяцца па-за «часавым гарызонтам» любой эпохі, і ў роўнай меры могуць быць дастасаваны да кожнага з гэтых пытанняў (у Энгельса гаворка ідзе пра сямейна-шлюбныя адносіны ў камуністычным грамадстве): «*Тыя меркаванні, што мы можам цяпер выказаць пра формы адносін між паламі пасля знішчэння капіталістычнай вытворчасці, якое павінна адбыцца, маюць пераважна негатыўны характар, абмяжоўваюцца ў пераважнай большасці выпадкаў тым, што будзе адкінута. Але што прыйдзе на змену? Гэта вызначыцца, калі вырасце новае пакаленне. Калі гэтыя людзі з'явяцца, яны адкінуць да д'ябла тое, што, згодна з цяперашнімі ўяўленнямі, ім трэба рабіць: яны будуць ведаць самі, як ім дзейнічаць*»[172]. Усё гэта цалкам можна сказаць і пра тыя пакаленні народаў свету, якія будуць вырашаць праблемы этнакультурнага развіцця ў камуністычнай будучыні. Яны, безумоўна, адкінуць усе негатыўныя моманты міжнацыянальных адносін, якія былі выкліканы класавымі антаганізмамі папярэдніх эпох. А далейшы напрамак этнічнага і духоўнага развіцця народаў свету (ва ўмовах глабальнай сацыяльнай цэласнасці чалавецтва), агульны характар якога, здаецца, можна азначыць у цяперашні час як творча напружаную шматнацыянальную гармонію сусветнай камуністычнай цывілізацыі, далейшую канкрэтызацыю форм і шляхоў гэтага развіцця вызначаць пакаленні, якія вырастуць і сфармуюцца ў тых умовах. Нашы сучасныя меркаванні ў гэтым плане, натуральна, абмежаваны толькі ўзроўнем лагічнага ці інтуітыўнага прадчування ці, урэшце, сферай пошукаў пэўных зародкавых момантаў будучага ў сучасных працэсах этнічнага і духоўнага развіцця народаў у нашу пераходную ад капіталізму да камунізму эпоху.

---

[172] Маркс, К.; Энгельс, Ф. Соч. Т. 21. С. 109–110. — *Заўв. А. Б.*

Ёсць, аднак, даследчыкі, якія ўжо цяпер у якасці «ісціны ў апошняй інстанцыі» выказваюць «катэгарычны імператыў» — для тых далёкіх пакаленняў: татальнае (у тым ліку этнічнае, культурнае, моўнае і г. д.) «зліццё» народаў свету ў нейкую «пазанацыянальную» аднародную масу (якую менавіта — яны, вядома, растлумачыць не могуць). Мы ні ў якім разе не будзем прыклейваць ім ярлыкі, як яны гэта любяць рабіць самі (хоць і добра вядома, як завецца такое «лінейнае», «эўклідава» праецыраванне сацыяльна-эканамічных і палітычных заканамернасцей на сферу чалавечага генафонду і духоўнай культуры). Мы ім прапануем лепей абвергнуць наступную антыномію іхным катэгарычным сцвярджэнням.

Яны любяць выказваць думку: няма аднаго з істотных прызнакаў нацыі — любога! — няма і нацыі. Глабальнае сацыяльна-эканамічнае і арганізацыйна-палітычнае зліццё непазбежна прывядзе праз некаторы (няхай сабе і вельмі працяглы) час да поўнага этнічнага (у цяперашні час расце колькасць змешаных шлюбаў)[173], культурнага (духоўныя культуры народаў ужо цяпер інтэнсіўна і глыбока ўзаемадзейнічаюць, уплываюць адна на адну — што ж будзе тады, калі аніякіх «бар’ераў» паміж імі не будзе!), моўнага (мовы таксама ўсё больш інтэнсіўна ўзаемадзейнічаюць, «узаемапранікаюць») і г. д. «зліцця» народаў свету.

Зразумела, думка аб тым, што сацыяльна-эканамічнае і палітычнае «зліццё» адымае асноўны, фундаментальны прызнак (момант) паняцця «нацыі», і таму «нацыі» знікаюць, «зліваюцца» ў сацыяльнай цэласнасці сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі, — гэтая думка правільная і нават належыць да ліку прапісных ісцін. Аднак што да астатніх аб’ектыўна рэальных прызнакаў сучасных нацый (этнічных, культурных, моўных і г. д.), якія прайшлі

---

[173] Дарэчы, расце і колькасць насельніцтва Зямлі (так званы дэмаграфічны выбух). Але на гэтай падставе мала хто сцвярджае, што праз якую сотню ці дзве гадоў на Зямлі будзе людзей, як у аўтобусе ў часы пік. Хоць калі сучасныя дэмаграфічныя працэсы праецыраваць у будучыню «па эўклідавай прамой», гэтая перспектыва выглядае значна больш верагоднай, чым татальнае этнічнае «зліццё» чалавецтва — на аснове сучаснага ўзрастання колькасці змешаных шлюбаў. — *Заўв. А. Б.*

жорсткія гістарычныя выпрабаванні на працягу многіх стагоддзяў і нават тысячагоддзяў і не зніклі, не сцерліся — нягледзячы на часам надзвычай цяжкія ўмовы для іх захавання, на шматлікія наўмысныя спробы знішчыць іх назаўсёды, — то як можна катэгарычна сцвярджаць, што яны знікнуць, што народы самі выракуцца таго, што стварылі, баранілі і перанеслі скрозь бездань часоў і пакаленняў, — у аптымальных сацыяльных умовах сталага сусветнага камунізму, ва ўмовах творчай гармоніі, вялікай сусветнай сябрыны народаў? Гэтае сцвярджэнне і лагічна, і эстэтычна, і маральна ўспрымаецца як вельмі слаба абгрунтаванае. А галоўнае — як бяссэнсавае, жудаснае і амаральнае.

Сталы камунізм будзе мяжой якаснага скачка ў развіцці этнасаў (народаў), мяжой з'яўлення новых гістарычных форм «этнасацыяльных арганізмаў», у адносінах да якіх іхняя сучасная найвышэйшая форма («нацыя») будзе такой самай папярэдняй гістарычнай ступенню, якой «народнасці» і «рода-племянныя супольнасці» былі ў адносінах да самой «нацыі».

Палымяныя прыхільнікі татальнага культурнага і моўнага «зліцця» народаў, калі іх спытаеш, а навошта ж вам патрэбна гэтае «зліццё», чаму вам ужо так абрыдлі нацыянальныя мовы, што самае мілае вашаму сэрцу — гэта як мага хутчэй адкінуць іх у нябыт (няхай сабе яшчэ толькі ў тэорыі), адказваюць прыблізна так: «*Каб бачыць перспектыву! Каб правільна накіроўваць культурнае будаўніцтва і духоўнае развіццё народаў. Каб не аддаляць народы адзін ад аднаго, а збліжаць іх. Мноства моў у наш век НТР перашкаджае свабодным кантактам паміж народамі, адгароджвае кожны народ ад усіх астатніх, робіць шкоду ўзаемаразуменню і дружбе паміж народамі, справе камунізму*» і г. д.

Мне здаецца, наадварот: найбольшую прапагандысцкую шкоду справе камунізму і сапраўднаму сяброўству народаў робіць якраз катэгарычнае сцвярджэнне, што неацэнныя скарбы народаў — іхныя культуры і мовы — пры сталым сусветным камунізме будуць адкінуты, як нешта нікому непатрэбнае, і забыты. Якраз менавіта падобныя сцвярджэнні, спробы зрабіць «катэгарычна імператыўнай» адну з антыномій, якую ні лагічна, ні маральна, ні

эстэтычна яны абгрунтаваць не могуць, робяць найвялікшую шкоду той справе, якую іх аўтары быццам абараняюць. Антыкамуністычная, антысавецкая прапаганда якраз ловіць і актыўна выкарыстоўвае гэтыя сцвярджэнні ў псіхалагічнай вайне. «*Глядзіце,* — зноў і зноў паўтарае іхная прапагандысцкая машына, звяртаючыся асабліва да раней прыгнечаных народаў, але не толькі да іх (гэта яна падкідае і немцам, і французам, і італьянцам, і іспанцам), — *калі вы пойдзеце за камуністамі, за Саветамі, вашы культуры і мовы будуць знішчаны. Не адразу, вядома. Некаторы час вам дадуць яшчэ пагуляць з гэтымі цацкамі. Але потым іх выкінуць назаўсёды. Іхныя тэарэтыкі і не ўтойваюць гэтага…*»

Пры наяўнасці мовы міжнародных зносін (а ў нас такая мова ёсць, і гэта — вялікае дабро для ўсіх братніх народаў СССР; у перспектыве, зразумела, будзе і сусветная мова міжнацыянальных зносін (ці 2–3 з сучасных «вялікіх» моў) народы свабодна развіваюць і паглыбляюць кантакты і ўзаемадзеянні ў галіне духоўнай культуры. І толькі гэта спрыяе ўсё больш поўнаму раскрыццю арыгінальных творчых патэнцый культуры і мовы кожнага асобнага народа. Гэта ўсё настолькі натуральна і відавочна, што нават няёмка даводзіць, здавалася б, «прапісныя ісціны». Але, на жаль, прыходзіцца.

Выказваецца і такая думка: пытанне аб «зліцці» (ці «адміранні») нацыянальных моў такое далёкае ў часе, што цяпер няма аніякай патрэбы яго ставіць і абмяркоўваць.

Гэта далёка не так. Абапіраючыся на тэзіс неабходнага і немінучага «моўнага зліцця» ў будучым як на стратэгічны арыенцір (прыхільнікі гэтага тэзісу не адрозніваюць мову як сродак зносін (у прыватнасці, міжнацыянальных) і мову як форму існавання пэўнай культуры), іншыя жвавыя адміністратары, якія не разумеюць ні свайго прафесійнага і маральнага, ні нават свайго канстытуцыйнага[174] аба-

---

[174] «*Клопат аб захаванні гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей — доўг і абавязак грамадзян Беларускай ССР*» (артыкул 66). А ці не найважнейшая з «іншых культурных каштоўнасцей» — нацыянальная мова, з якой выраблены ўсе помнікі слоўнай культуры народа і на якой разгортваецца жывое нацыянальнае духоў-

вязку, ужо цяпер ствараюць вакол моў, якія, на іхны погляд, у першую чаргу «аджываюць свой век» і праз некаторы час цалкам адыдуць у нябыт, псіхалагічны і арганізацыйны клімат, вельмі далёкі ад спрыяльнага. Яны мяркуюць прыкладна так (і не лічаць нават патрэбным хаваць свае думкі): «*Калі мовы немінуча сальюцца ў будучым – дык навошта іх цяпер развіваць? Навошта рабіць дарэмную справу – ствараць на “другарадных” мовах тэксты (паэмы, раманы, дысертацыі, філасофскія трактаты), якія ўсё роўна ніхто не чытае, праводзіць навуковыя канферэнцыі, семінары, на якіх усё роўна “ніхто нічога не разумее”. Давайце лепей гэтых кволых старых паціху, дзе магчыма, падштурхнем у труну, давайце ўжо цяпер актыўна рабіць тое, што гістарычна прагрэсіўна і немінуча!*» І робяць.

Так што, здавалася б, «*вельмі далёкае ў часе*» пытанне мае самае прамое дачыненне да нашых сённяшніх спраў. І тое ці іншае «чыста тэарэтычнае» яго вырашэнне робіць непасрэдны ўплыў на практыку — перш за ўсё на практыку слоўнай творчасці, на стварэнне адпаведнага псіхалагічнага і арганізацыйнага клімату вакол развіцця пэўных плыняў прафесійнай творчай дзейнасці (напрыклад, культуралагічнай плыні філасофскага працэсу) у адэкватнай моўнай форме.

Да гэтага пытання мы яшчэ вернемся крыху ніжэй і спынімся больш падрабязна на яго індывідуальна-творчых — перш за ўсё маральных — аспектах. Канкрэтна — на праблеме «моўнага выбару», якая няўхільна паўстае перад прафесійнымі дзеячамі культуры слова ва ўмовах «перажывання культур». Але спачатку ў самых агульных рысах акрэслім некаторыя паняццевыя структуры. Не як самамэту, а каб праз іх панарамную цэласнасць больш аптымальна разглядаць праблемы, пра якія ідзе гаворка.

Усебаковы разгляд праблем нацыянальнай мовы немагчымы без дакладнага вызначэння катэгорыі «нацыянальнае» як інструмента даследавання культуры, без выяўлення яе структуры і суадносін з некаторымі іншымі паняццямі.

---

нае жыццё? (Гл.: Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мінск, 1978. С. 22). — *Заўв. А. Б.*

Катэгорыя «нацыянальнае», у сваю чаргу, не можа разглядацца ў адрыве ад сваёй заўсёднай спадарожніцы — катэгорыі «інтэрнацыянальнае».

Асноўнымі паняццевымі інструментамі, якія мэтазгодна ўжываць пры цэласным даследаванні духоўных культур сучасных народаў у абраным намі аспекце, з'яўляюцца катэгорыі «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» і паняцце «сістэма нацыянальнай духоўнай культуры».

«Нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» ў якасці інструментаў даследавання культуры можна вызначыць як катэгорыі, якія, па-першае, фіксуюць сам факт «поліфанічнай» (г. зн. шматнацыянальнай) структуры духоўнага жыцця чалавецтва і, па-другое, выступаюць у якасці цэнтральных элементаў метаду выяўлення своеасаблівасці, арыгінальнасці духоўнай культуры кожнага народа[175].

Катэгорыя «нацыянальнае» 1) адлюстроўвае той факт, што асяроддзем, улоннем, дзе нараджаюцца духоўныя скарбы чалавецтва, з'яўляюцца духоўныя культуры асобных народаў (нацыянальныя духоўныя культуры); 2) адлюстроўвае, з аднаго боку, момант патэнцыяльнай роўнамагутнасці народаў у сферы духоўнай творчасці, з другога — момант нязводзімасці іх творчых індывідуальнасцей адна за адной, іх незаменнасці; 3) дае агульны кірунак для выяўлення сукупнасці адлюстраваных у культуры спецыфічных рыс, уласцівых усім галінам жыцця пэўнага народа, дынамікі іх гістарычнага развіцця ва ўсіх асноўных узроўнях: прыродным, сацыяльным і індывідуальна-творчым[176].

---

[175] Сваім аб'ёмам катэгорыі «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» (як і аб'екты, што даследуюцца з іх дапамогай, г. зн. духоўныя культуры народаў) далёка выходзяць за часавыя межы адной ці шэрагу грамадска-эканамічных фармацый, таму дыялектыка агульнагістарычнага і фармацыйнага павінна адлюстроўвацца ў самой структуры гэтых катэгорый. — *Заўв. А. Б.*

[176] Трэба дакладна размяжоўваць гісторыка-эканамічнае паняцце «нацыя» і катэгорыю «нацыянальнае» як інструмент даследавання культуры. Гэта блізкія, але далёка не тоесныя паняцці. Тыя аб'ектыўныя рэальныя фактары, адлюстраванне якіх у паняцці «нацыя» з'ўляецца яго асноўным зместам (сацыяльна-эканамічная і палітычная праблематыка эпохі, пераходнай ад капіталізму да камунізму), у катэгорыі «нацыянальнае» адлюстроўваецца «ў знятым выглядзе» толькі як

адзін з момантаў яе сацыяльнага ўзроўню; і наадварот, тое, што выступае як адзін з момантаў паняцця «нацыя» (праблематыка духоўнай культуры), з'яўляецца асноўным зместам катэгорыі «нацыянальнае». З гэтым звязана, у прыватнасці, і пашырэнне часавых рамак і ўзроўневай «аб'ёмнасці» катэгорыі «нацыянальнае» ў адносінах да паняцця «нацыя», а таксама больш канкрэтнае разуменне сэнсу паняцця «зліццё нацый» як навукова-эканамічнага і класава-палітычнага аб'яднання народаў у працэсе пераадолення класава антаганістычных форм прагрэсу.

Катэгорыя «нацыянальнае» трохузроўневая. Усе тры ўзроўні (прыродны, сацыяльны і індывідуальна-творчы) арганічна ўзаемазвязаныя, узаемапранікаюць, утвараючы яе шматпланавасць, што ізаморфная рэальнаму працэсу гістарычнага станаўлення і функцыянавання духоўных культур.

Прыродны ўзровень катэгорыі «нацыянальнае» мае шэраг аспектаў. Асноўныя з іх наступныя: 1) нацыянальнае як матэрыяльная аснова існавання духоўнай культуры пэўнага народа, г. зн. сам народ (этнас) — у непарыўным адзінстве, гармоніі з «прыроднай хацінай», «нацыянальным эйкасам» — у якасці яе носьбіта, захавальніка, творцы, у прыватнасці ў якасці асноўнага цэнтра жывога функцыянавання нацыянальнай мовы (у гэтым аспекце акцэнтуецца функцыя нацыянальнай мовы як аднаго з найважнейшых кампанентаў духоўнай культуры народа — у адрозненне ад функцыі мовы як сродку зносін, у прыватнасці міжнацыянальных); 2) аспект узнаўлення ў з'явах мастацкай культуры роднай прыроды, «нацыянальнага эйкасу» — у яго непасрэднай сувязі з маральнай і эстэтычнай сферай жыцця народа; 3) аспект аб'ектывацыі ў мастацтве пэўна-нацыянальнага ідэалу фізічнага (прыроднага) хараства чалавека — таксама ў адзінстве з маральнымі момантамі.

Сацыяльны ўзровень катэгорыі «нацыянальнае» (як інструмента даследавання культуры) выяўляецца ў канкрэтна-гістарычным пераламленні (у адносінах да пэўнага народа ў пэўны перыяд яго гісторыі) шэрагу ўзаемадзеючых паняццяў: «этнасацыяльны арганізм» (Ю. В. Брамлей) (і, у прыватнасці, «нацыя», «народнасць»), «нацыянальная культура» — у іх узаемасувязі з паняццямі «грамадска-эканамічная фармацыя», «класы», «класавая барацьба», «пралетарскі і сацыялістычны інтэрнацыяналізм», «гістарычная місія пралетарыяту», «працэс станаўлення сусветнай камуністычнай цывілізацыі», «зліццё нацый». Цэнтральным звяном сацыяльнага ўзроўню катэгорыі «нацыянальнае», вузлавым паняццем у гэтай групе ўзаемадзеючых паняццяў, што ўтвараюць яго структуру, з'яўляецца паняцце «зліццё нацый». У ім выяўляецца дыялектычная тоеснасць, узаемапераход нацыянальнага і інтэрнацыянальнага на сацыяльным узроўні.

Паняцце «індывідуальна-творчы ўзровень» катэгорыі «нацыянальнае» ахоплівае ўсе моманты, што звязаны з суб'ектыўным бокам творчага жыцця ў сістэме той ці іншай нацыянальнай духоўнай культуры,

з індывідуальным разуменнем стваральнікамі духоўных каштоўнасцей нацыянальнага моманту станаўлення чалавецтва, сэнсу (прыроднага, сацыяльнага і індывідуальна-творчага) яго падзеленасці на асобныя народы і іх узаемадзеянняў; з асаблівасцямі (формамі, тэмпам) гістарычнага працэсу інтэграцыі аб'ектываваных вынікаў індывідуальнай творчасці сістэмамі нацыянальных духоўных культур. Індывідуальна-творчы ўзровень (ці, інакш кажучы, узровень індывідуальна-творчых працэсаў) заўсёды існуе і разгортваецца на пэўнай прыродна-сацыяльнай ці, у больш вузкім сэнсе, этнасацыяльнай глебе. Гэты ўзровень з'яўляецца найбольш глыбіннай плынню кожнай канкрэтнай эпохі ў жыцці пэўнага народа, плынню, у якой выспяваюць з'явы яго будучай духоўнай культуры. Гэта — улонне будучага ў сучаснасці. Яно, гэтае творчае ўлонне, і працэсы, што ў ім разгортваюцца і выспяваюць, існуюць рэальна ў кожную пэўную эпоху, хоць шмат якія вынікі гэтых працэсаў, прычым часта найбольш істотныя, яшчэ не інтэграваныя гэтай эпохай у сістэму сваёй духоўнай культуры, не дасягнулі наяўна-сацыяльнага ўзроўню, бо з-за звычных стандартаў мыслення і ўспрымання іх адразу цяжка асэнсаваць і глыбока ацаніць. Аднак менавіта ад іх у значнай меры залежыць духоўнае аблічча наступных пакаленняў таго ці іншага народа. Індывідуальна-творчы ўзровень можна вызначыць як субстанцыяльную аснову сферы суб'ектыўнага — у адрозненне ад узроўню сукупнасці наяўных этнасацыяльных адносін. Дыялектычныя ўзаемадзеянні сфер індывідуальна-творчай і наяўна-сацыяльнай з'яўляюцца адной з найважнейшых унутраных пружын развіцця сістэм нацыянальных духоўных культур.

Для распрацоўкі структуры катэгорыі «нацыянальнае» на індывідуальна-творчым узроўні адзначым неабходнасць выкарыстання канструктыўных момантаў паняцця «асоба на мяжы культур». Гэтае паняцце, як адзначае С. А. Артаноўскі, «*напаўняецца канкрэтна гістарычным зместам, калі яно ўжываецца як сродак даследавання ўплыву міжнародных культурных сувязей на фармаванне асобы сучаснага чалавека. Менавіта ў гэтым аспекце данае паняцце з'яўляецца новым і актуальным*» (Артановский, С. А. Проблема личности на рубеже культур. «Вопросы философии», 1967, № 7; яго ж: Историческое единство человечества и взаимное влияние культур. Л., 1967). Сітуацыя «асобы на мяжы культур» — аб'ектыўна рэальная, і яна існуе не толькі ва ўмовах класава-антаганістычных форм прагрэсу. Ва ўмовах класава-антаганістычных сацыяльных сістэм гэтыя сітуацыі часта звязаны з праблемай пэўнага сацыяльна-палітычнага выбару. Ва ўмовах жа шматнацыянальнага сацыялістычнага грамадства сітуацыя «асобы на мяжы культур» існуе часцей за ўсё, так сказаць, у чыстым выглядзе. Тут, у прыватнасці, можна сказаць пра вельмі важную праблему моўнага выбару, якая паўстае перад дзеячамі культуры нешматлікіх народаў шматнацыянальных дзяржаў. Вырашэнне гэтай праблемы закранае самыя глыбінныя плыні чалавечай душы: сумленне, адказнасць і абавязак перад мінулымі і будучымі пакаленнямі свайго народа.

Катэгорыя «інтэрнацыянальнае» як інструмент даследавання культуры ахоплівае адлюстраваную ў культуры кожнага народа сукупнасць творчых вынікаў яго ўзаемадзеянняў з іншымі народамі, разуменне ім сэнсу гэтых узаемадзеянняў, а таксама свайго месца сярод іншых народаў у агульным працэсе гістарычнага развіцця чалавецтва, усю сукупнасць вынікаў і ўсе сацыяльныя механізмы рэгулявання міжнацыянальных узаемадзеянняў у сферы духоўнай культуры.

Дыялектычнае адзінства катэгорый «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» ажыццяўляецца ў паняцці «сістэма нацыянальнай духоўнай культуры». У гэтым паняцці адлюстроўваецца працэс узаемадзеяння асноўных кампанентаў духоўнай культуры кожнага народа — уласна нацыянальнага, наяўна-сацыяльнага і інтэрнацыянальнага. Усе яны арганічна ўзаемазвязаны, але кожны існуе, «гучыць» аўтаномна, мае сваю спецыфіку, свае гістарычныя рытмы росквіту, заняпаду і абнаўлення. Спецыфічнымі, складанымі, далікатнымі з'яўляюцца механізмы іх узаемадзеянняў, ад характару якіх залежыць эфектыўнасць, росквіт ці заняпад усёй сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры.

Паняцце «ўласна нацыянальны кампанент» ахоплівае мову, фальклор, звычаі і традыцыі пэўнага народа (этнасу) — у жывым адзінстве з быццём яго рэальных носьбітаў, а таксама ўзрослую на іх аснове сістэму прафесійнай духоўнай творчасці (нацыянальную літаратуру, філасофію, музыку, выяўленчае мастацтва і г. д.)[177].

---

Праблему «моўнага выбару» можна разглядаць і ў больш шырокім (семіятычным) плане — як праблему выбару адэкватных сродкаў, з дапамогай якіх ажыццяўляецца працэс мастацкага ці філасофскага асэнсавання пэўным народам свайго гістарычнага лёсу. На ўзроўні індывідуальнай творчасці гэтая праблема пераламляецца ў форме праблемы выбару мастаком свайго «творчага эйкасу», «творчай Радзімы», у форме раскрыцця свайго таленту ў сістэме той ці іншай нацыянальнай культуры. (Ці, наадварот, у спробе выйсці ў творчасці за межы нацыянальнага як такога, пераадолець яго як тое, што ўжо адыграла сваю ролю ў чалавечай гісторыі (Шонбэрг, Адорна).) — *Заўв. А. Б.*

[177] Мова нацыянальнай духоўнай культуры разумеецца ў шырокім (семіятычным) сэнсе як сукупнасць спецыфічных знакавых сістэм (у тым ліку слоўная — самая значная сярод іншых), з дапамогай якіх

Паняцце «наяўна-сацыяльны кампанент» сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры ахоплівае сукупнасць якасна пэўных сацыяльна арганізаваных імпульсаў, механізмаў іх рэалізацыі і аб'ектыўных вынікаў іх функцыянавання — з боку пэўнай сацыяльна-палітычнай структуры (у рамках аднаго этнасу ці дзяржаўнай структуры, што аб'ядноўвае некалькі этнасаў) у адносінах да іншых кампанентаў духоўнай культуры[178].

«Інтэрнацыянальны кампанент» сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры можна вызначыць як дынаміку і сукупнасць творчых вынікаў усіх іншанацыянальных уплываў на культуру пэўнага народа, пераломленых у сістэме гэтай культуры ў адпаведнасці з яе спецыфічнымі ўнутранымі заканамернасцямі. Інтэрнацыянальны кампанент з'яўляецца неад'емным, арганічным момантам як фальклору і моў этнасаў, так і ў значна большай меры сістэм іх прафесійнай духоўнай творчасці[179].

---

народ адэкватна выяўляе ўсе асаблівасці свайго прыроднага, сацыяльнага і духоўнага быцця, свайго гістарычнага лёсу, усёй сістэмы сваіх каштоўнасцей і ідэалаў. Уласна нацыянальны кампанент (як і сам этнас) змяняецца ў працэсе гістарычнага развіцця надзвычай павольна. Яго можна вызначыць як субстанцыянальную аснову ўсёй сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры. — *Заўв. А. Б.*

[178] Прычым якасна розныя наяўна-сацыяльныя кампаненты пэўнай нацыянальнай культуры могуць замяняць адзін аднаго і ў рамках аднатыпнай эканамічнай сістэмы. «Пульс» гістарычных змен наяўна-сацыяльнага кампанента найбольш часты — у параўнанні з іншымі, асабліва ўласна нацыянальным. — *Заўв. А. Б.*

[179] Інтэрнацыянальны кампанент з'яўляецца шматузроўневым. Элементы яго — ад самых простых, двунацыянальных, да шматнацыянальных — у рамках родных, рэгіянальных і этнічна далёкіх культур — паступова ўскладняюцца, ахопліваючы ў ідэале творчую дзейнасць усіх народаў. Гэтая вяршыня развіцця інтэрнацыянальнага кампанента, напоўненасць яго ўсімі духоўнымі скарбамі, створанымі чалавецтвам у рамках нацыянальных культур, відаць, і з'яўляецца сэнсам паняцця «агульначалавечая культура».

Інтэрнацыянальная культура, на наш погляд, гэта не што іншае, як паняцце, якое вызначае меру наяўнай напоўненасці інтэрнацыянальнага кампанента кожнай нацыянальнай культуры нацыянальна пераўтворанымі, пераасэнсаванымі духоўнымі каштоўнасцямі іншых народаў, меру таго агульнага, што рэальна маецца ў інтэрнацыянальных кампанентах найбольш развітых нацыянальных культур. — *Заўв. А. Б.*

Лагічныя контуры «інтэрнацыянальнага кампанента» праходзяць паміж двума крайнімі пунктамі, «вузламі лініі меры»: за межамі аднаго з іх — недастатковасць канструктыўных іншанацыянальных імпульсаў, што вядзе да застою; за межамі другога — такі іх збытак, які вядзе да разбурэння нацыянальнай культуры як пэўнай цэласнасці. У залежнасці ад канкрэтна-гістарычнай сітуацыі кожны народ знаходзіцца ці імкнецца знайсці аптымальна жыватворную «прамежкавую зону» паміж двума крайнімі пунктамі, «вузламі лініі меры» інтэрнацыянальнага кампанента ў сістэме сваёй нацыянальнай культуры[180].

Інтэрнацыянальнае ў сферы духоўнай культуры існуе рэальна толькі ў выглядзе сукупнасці інтэрнацыянальных кампанентаў сістэмы нацыянальных духоўных культур, а таксама міжнародных органаў, якія займаюцца праблемамі культуры, напрыклад ЮНЕСКА[181]. Структура катэгорыі «інтэрнацыянальнае» як інструмента даследавання культуры ізаморфная трохузроўневай структуры катэгорыі «нацыянальнае». Іх узаемапранікание — аж да дыялектычнай

---

[180] Прыкладам гэтых пошукаў з'яўляецца, у прыватнасці, геніяльны артыкул Максіма Багдановіча «Забыты шлях». У ім беларускі пясняр выказвае сваё разуменне сэнсу нацыянальна-самабытнага ў паэзіі і мове, з вялікай лагічнай, мастацкай і маральнай сілай выяўляе сутнасць інтэрнацыянальнага, дыялектыку нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай творчасці: «*Намагаючыся зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала светавая (найчасцей еўрапейская) паэзія. Гэта апошняя праца павінна ісці поўным ходам. Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што соткі народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё. А свайго, як мы бачым, мы давалі меней, чым маглі*». Багдановіч, М. Збор твораў. Т. 2. Мінск, 1968. С. 171. — *Заўв. А. Б.*

[181] **ЮНЕСКА — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры** (англ. *UNESCO — United Nations Educational, Scientific and Cultural Organization*) — арганізацыя ў структуры ААН, асноўнай мэтай якой з'яўляецца садзейнічанне ўмацаванню міру і бяспекі за кошт пашырэння супрацоўніцтва дзяржаў і народаў у галіне адукацыі, навукі і культуры. Заснавана ў 1945 г.

тоеснасці — найбольш выразна выяўляецца на сацыяльным узроўні і фіксуецца ў паняцці «зліццё нацый».

Як пошукі аптымальна жыватворчай «прамежкавай зоны» паміж крайнімі «вузламі лініі меры» інтэрнацыянальнага ў структуры нацыянальнай культуры (народа) можна, напэўна, разглядаць гістарычную палеміку паміж так званымі заходнікамі і славянафіламі. Першыя канцэнтравалі ўвагу на канструктыўных іншанацыянальных імпульсах (гл., у прыватнасці, П. Я. Чаадаев[182]. Философические письма. Казань, 1906, с. 8, 15, 18 і інш.), другія — на развіцці нацыянальна спецыфічнага ў Расіі[183]. У адносінах да мовы і мыслення наяўнасць гэтых «вузлоў лініі меры» глыбока адчуваў Патабня, які імкнуўся абараніць ад разбуральных асімілізатарскіх уплываў тыя самабытныя пласты нацыянальнай мовы, якія нясуць у сабе шматвяковы вопыт арыгінальнай моватворчасці народа[184].

Тут, ля сваіх крайніх, крытычных пунктаў, паняцце «інтэрнацыянальны кампанент» актыўна ўзаемадзейнічае з паняццем «індывідуальна-творчы ўзровень» катэгорыі «нацыянальнае». Тут найбольш рэльефна выяўляецца сітуацыя «асобы на мяжы культур», якую (зразумела, не ўжываючы менавіта гэты пазнейшы тэрмін) глыбока адчуваў і аналізаваў М. Г. Чарнышэўскі, асэнсоўваючы як працэс станаўлення маладой рускай літаратуры (у прыватнасці, Пушкіна), так і сацыяльнае станаўленне Расіі (у прыватнасці, сацыяльную творчасць Пятра I[185]).

Калі недастатковасць канструктыўных іншанацыянальных імпульсаў прывяла да працяглага застою ўсяго рускага грамадства, Пётр I, нягледзячы на супраціўленне кан-

---

[182] **Пётр Чаадаеў** (рус. *Пётр Чаадаев*, 1794–1856), рускі філосаф і публіцыст.

[183] Гл.: Хомяков, А. С. Соч. Т. 1. М., 1911. К Сербам. Послание из Москвы; Данилевский, Н. Я. Россия и Европа. СПб. С. 95–96, 105, 129–130, 171. — *Заўв. А. Б.*

[184] Гл.: Потебня, А. Мысль и язык. Харьков, 1913. С. 194–199 і інш. Гл. аб гэтым таксама: Перкін, Н. С. Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры. Мінск, 1971; раздзел: Культура агульначалавечая і нацыянальная. — *Заўв. А. Б.*

[185] **Пётр I** (1672–1725), маскоўскі цар і першы імператар Расійскай імперыі.

серватыўных — і, здавалася б, «сапраўды нацыянальных» — сіл, ажыццявіў рэзкую інтэнсіфікацыю ўздзеяння найбольш прагрэсіўнага іншанацыянальнага на асноўныя сферы рускага жыцця. Здавалася б, ён зрабіў уласна нацыянальнаму вялікую шкоду, нават здрадзіў роднай культуры — дзеля іншаземнага. Але Чарнышэўскі ацэньвае гэта як акт найвышэйшага патрыятызму, сапраўднай любові да Радзімы, да свайго народа[186].

З другога боку — Пушкін… Калі засілле іншанацыянальнай (французскай) культуры (і, у прыватнасці, мовы) сярод вышэйшых сфер рускага грамадства дасягнула такой мяжы, калі фактычна адціснутымі зрабіліся руская культура, руская мова, Пушкін ажыццявіў індывідуальна-творчую акцыю, у чымсьці супрацьлеглую пятроўскай (бо развіццё інтэрнацыянальнага кампанента наблізілася да свайго верхняга крытычнага пункта), але якую можна параўнаць з ёй — па стратэгічным значэнні для развіцця рускай духоўнай культуры.

Прапанаваныя паняццевыя структуры адлюстроўваюць аднаўленне цэласнасці нацыянальнага (як і цэласнасці асобнага чалавека і чалавецтва), якое ажыццяўляе камуністычная цывілізацыя. Яны дазваляюць пазбегнуць антыдыялектычных крайнасцяў, абсалютызацыі асобных момантаў нацыянальнага (прыродных, духоўных ці сацыяльна-эканамічных — адпаведна ў «біялагічных», «псіхалагічных» і «вульгарна-сацыялагічных» канцэпцыях разумення нацыянальнага), дазваляюць не толькі бачыць, але і канкрэтна аднаўляць гармонію прыроднага, сацыяльнага і

---

[186] *«…Ужываючы свяшчэннае слова “патрыятызм” часта бывае неабходна вызначыць, што менавіта мы бачым за ім. Для нас ідэал патрыёта — Пётр Вялікі; найвышэйшы патрыятызм — палкае, бязмежнае жаданне дабра радзіме, якое адушаўляла ўсё жыццё, накіроўвала ўсю дзейнасць гэтага вялікага чалавека. Разумеючы патрыятызм у гэтым адзіным сапраўдным сэнсе, мы падкрэсліваем: лёс Расіі ў адносінах да шчырых пачуццяў, што кіравалі дзейнасцю людзей, якімі наша радзіма можа ганарыцца, дагэтуль адрозніваецца ад гісторыі шмат якіх іншых краін… Гістарычнае значэнне кожнага рускага вялікага чалавека вымяраецца яго заслугамі перад радзімай, яго чалавечая годнасць — сілаю яго патрыятызму…»* (Н. Г. Чернышевский об искусстве. М., 1950, с. 216, 217). — *Заўв. А. Б.*

індывідуальна-духоўнага ў нацыянальным жыцці кожнага народа, аб'ектыўныя магчымасці для якой стварае камуністычны грамадскі лад.

Вернемся цяпер ізноў непасрэдна да праблем нацыянальнай мовы і разгледзім некаторыя з іх больш канкрэтна і падрабязна.

Найбольш яскрава тое, што нас цікавіць у першую чаргу, выяўляецца ў паэзіі, бо сама праблема нацыянальнай мовы (абарона яе жывога існавання, праблема «быць ці не быць» нацыянальнай мове як мове прафесійнай духоўнай творчасці народа) можа зрабіцца адной з цэнтральных — асабліва ў паэзіі народаў, прафесійная духоўная творчасць якіх гістарычна яшчэ маладая і знаходзіцца «на мяжы культур».

Найдалікатнейшы аналіз шмат якіх нюансаў нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў паэзіі даў Максім Багдановіч у артыкуле «Забыты шлях». Таму, адсылаючы чытача да гэтай жамчужыны логікі, прыгажосці і маральнасці — у іх цэласнасці, у іх жывым адзінстве[187], — мы спынімся перш за ўсё на тых момантах, якія там змяшчаюцца толькі ў глыбінных плынях думкі (падтэксту, сацыяльна-духоўнага кантэксту часу і г. д.), але ў рэчышчы нашага разгляду павінны быць разгорнуты больш поўна. Гэта перш за ўсё разгляд праблемы нацыянальнай мовы на індывідуальна-творчым узроўні — у цэласных адносінах, у плане «моўнага выбару». Ці, інакш кажучы, маральныя і эстэтычныя аспекты праблемы нацыянальнай мовы.

Паэзія неадрыўная ад пэўна-нацыянальнай слоўнай стыхіі. Усё, што яна выяўляе, заўсёды паўстае пераломленым і перафарбаваным у структуры, у рытмамелодыцы пэўнай нацыянальнай мовы. Вядома, праўда, што паэтыку нацыянальнага жыцця таго ці іншага народа можна глыбока адлюстраваць і не ў адэкватнай моўнай форме, карыстаючыся мовай іншага народа. Але ўсё ж — гэта экстрэмальныя сітуацыі ў развіцці духоўнай культуры народа, якія аніяк нельга лічыць нармальнымі, хоць яны могуць

---

[187] Гл.: Багдановіч, М. Збор твораў. Т. 2. Мінск, 1968. С. 166–177. — *Заўв. А. Б.*

працягвацца даволі доўга пры неспрыяльных гістарычных умовах. Тут трэба размяжоўваць два моманты: пэўныя плыні нацыянальнага жыцця, што раскрываюцца ў тэкстах, — і сродкі (у першую чаргу — моўныя), з дапамогай якіх гэта робіцца; духоўны выбар паэта, выбар ім творчай Радзімы — і выбар ім свайго «моўнага эйкасу», урэшце — той нацыянальнай культуры, у сістэме якой ён рэалізуе свой талент. Гэтыя моманты настолькі цесна і арганічна ўзаемазвязаны, што іх цяжка размежаваць нават у паняцці. Дысгармонія паміж імі часцей за ўсё ўзнікае, калі інтэрнацыянальны кампанент у прафесійнай духоўнай дзейнасці таго ці іншага народа дасягае свайго верхняга крытычнага пункта ці перавышае яго. У гісторыі беларускай культуры такое бывала даволі часта.

Вельмі тонка адчувае гэтыя нюансы (ужываючы, зразумела, іншую тэрміналогію) Уладзімір Караткевіч, калі ён аналізуе працэсы духоўнага і творчага станаўлення многіх дзеячаў беларускай культуры ў кнізе «Зямля пад белымі крыламі». Спынімся на ягоным аналізе творчай дзейнасці Яна Баршчэўскага[188] (1794–1851 гг.). «*Ян Баршчэўскі,* — піша Ул. Караткевіч, — *...вельмі цікавая асоба. Чалавек, які пісаў вершы, балады і паэмы па-польску. Шмат. І нічым з гэтага не ўваходзіў у вялікую літаратуру. Горача любіў родны край, але ведаў, што надрукавацца па-беларуску не дадуць, лічыў, што роднай мовай пакуль што нельга выказаць складаныя пачуцці і абстрактныя думкі. І... застаўся ў літаратуры... трыма (было болей, але дайшло тры) вершамі па-беларуску, дзе і пачуццё, і гістарызм, ды яшчэ чатырохтомным зборнікам, дзе пад кожным творам бруіць, звініць, льецца беларускі фальклор, беларуская песня, беларускі спосаб мыслення, фантазія беларуская, гора і шчасце беларуса: “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях”... “Адысея беларуская” з тысячамі прыгод, або лепей нешта накшталт беларускай “1001 ночы”, дзе адна казка пераходзіць у другую і ўсе звязаны адной і той жа фігурай, прывабнай фігурай Завальні, у доме якога*

---

[188] **Ян Баршчэўскі** (1794 (1790, 1796) — 1851), пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

*выпадковыя госці расказваюць розныя дзівосныя здарэнні... Гэта напісана таксама па-польску (сям-там з беларускімі дыялогамі), але важна тое, што за кожным радком тут стаіць беларус і яго зямля...»*[189]. Ул. Караткевіч прыводзіць далей словы Р. Падбярэскага[190], сказаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі. «*Тое, што піша Баршчэўскі прозай,* — гаворыць Падбярэскі, — *не датычыцца непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але важнейшай рэчы — духу і паэзіі народа, адкуль выцякаюць і гісторыя, і літаратура, і мова. Ён... вырашыў даць вялікую мастацкую панараму нацыянальнага жыцця... Ён бачыць перад сабой народ, часта з усёй чароўнасцю паганскай фантазіі, якую ён апраменьвае сваім, так сказаць, беларускім гафманізмам*[191]... *Усё жыццё яго — адно суцэльнае адступніцтва ад самога сябе ў імя паэзіі. Каб зразумець добра, што я гавару, трэба ведаць яго асабіста, трэба яго бачыць з кіем падарожніка ў руцэ, так, як я спатыкаў яго ў маіх падарожжах, пешкі, сярод беларускага люду, на плытах Дзвіны, у прыдарожных корчмах, на сцежках у лесе і на вялікіх гасцінцах!.. Гэты чалавек не мае парожніх слоў... ён — сама сутнасць... як ні кажы, адкрывае ён новую краіну*»[192].

Ул. Караткевіч далей прыводзіць словы з польскага часопіса — пра Яна Баршчэўскага: «*М. Грабоўскі ў польскім часопісе "Пельгжым" піша ў 1843 г.: "Не толькі цяпер, але і з самага дзяцінства, палымяны беларус, ён правёў з народам усё жыццё: яго загарэлы, далёка не кабінетны твар даводзіць, што ён з'яўляецца чалавекам справы... Ён дасканала ведае ўсю Беларусь, бо разоў з трыццаць абышоў пешшу і штогодна наведвае яе з Пецярбурга, а ўсюды там*

[189] Караткевіч, У. Зямля пад белымі крыламі. Мінск, 1977. С. 129–130. — *Заўв. А. Б.*

[190] **Рамуальд Падбярэскі** (1812 (1813) — 1856), выдавец, літаратуразнавец, публіцыст, фалькларыст. Аўтар прадмовы «Беларусь і Ян Баршчэўскі» да кнігі апошняга «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844).

[191] Ад імя **Эрнста Тэадора Вільгельма Гофмана** (ням. *Ernst Theodor Wilhelm Hoffmann*, 1776–1822), нямецкага пісьменніка-рамантыка, казачніка, кампазітара, мастака.

[192] Караткевіч, У. Зямля пад белымі крыламі. С. 130. — *Заўв. А. Б.*

*пажаданы і сустракаецца ў радасцю, бо, як бард той старонкі, ён сыпле, бы з рукава, апавяданнямі і анекдотамі. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў: не дадае амаль нічога свайго, а між тым усё становіцца яго ўласным”.*

*І вось на старонках “Завальні” ідзе Беларусь, якая яна ёсць і якой яна ўяўляе сябе…»*[193].

Той радыкальны паварот, які Баршчэўскі яшчэ не мог зрабіць у беларускай духоўнай культуры, зрабіў у культуры братняга народа маладзейшы і больш славуты сучаснік Баршчэўскага — Пушкін, які па-сапраўднаму і паставіў, і вырашыў праблему нацыянальнай мовы і прафесійнай духоўнай творчасці свайго народа.

Гэтая праблема, як мы ўжо адзначалі вышэй, звяртаючыся да значэння творчасці Пушкіна ў станаўленні маладой рускай культуры, выходзіць на першы план, калі развіццё інтэрнацыянальнага кампанента ў цэласнасці духоўнай культуры народа набліжаецца да свайго верхняга крытычнага пункта ці перавышае яго. Разгледзім цяпер працэс духоўнага станаўлення Пушкіна ў аспекце нацыянальнага і інтэрнацыянальнага крыху больш падрабязна.

Працэс творчага фармавання Пушкіна праходзіў ва ўмовах, калі, як адзначае М. Г. Чарнышэўскі ў артыкуле «Творы Пушкіна», «*…усё яго выхаванне вялося на французскай мове. Бацька паэта пісаў мноства лёгкіх французскіх вершаў для ўцехі кампаніі; таму і малады Пушкін пачаў пісаць не па-руску, а па-французску… французскія вершы працягваў ён пісаць і ў ліцэі… Сляды набытай у дзяцінстве звычкі пісаць і думаць па-французску засталіся ў Пушкіна на ўсё жыццё… Не кажам ужо пра тое, што часта Пушкін пісаў і родным сваім французскія лісты… Яшчэ цікавей тое, што ў рускіх лістах, нават у нататках, накіданых у чарнавых сшытках для памяці, Пушкін увесь час пераблытвае*

[193] Тамсама, с. 130–131. У значнай меры тое самае можна сказаць аб «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага (Кракаў, 1523). Напісаная на лацінскай мове, гэтая славутая паэма апявае Беларусь, яе прыроду, яе народ. Гл.: Мікола Гусоўскі. Песня пра зубра / пер. Я. Семяжона // Полымя. 1969, № 6. Пра творчасць Баршчэўскага гл. таксама: Каваленка, В. А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Мінск, 1975. С. 76–92. — *Заўв. А. Б.*

*рускія фразы з французскімі»*[194]. *«…Пушкін прызнаваўся, што пісаць па-руску ўсё ж такі цяжка…»* (Аненкаў[195]). *«…Рыхтуючы нататкі, з якіх хацеў стварыць прадмову да “Барыса Гадунова”*[196]*, ён накідвае іх па-французску…»*[197].

Аднак творчая воля паэта была дастаткова моцнай, каб — усведамляючы сваю місію і абавязак перад сваім народам — плыць супраць цячэння. Выбар паэтам не толькі свайго «духоўнага эйкасу», «духоўнай Радзімы», але і свайго «моўнага, творчага эйкасу» быў пэўным і паслядоўным: ён рэалізаваў свой геній у сістэме рускай нацыянальнай культуры, аддаў яго свайму народу і толькі праз яго — чалавецтву.

*«Усё гэта з'яўляецца лепшым доказам* — піша далей Чарнышэўскі, — *што ў кім моцная народная стыхія, у тым ніякія іншаземныя ўплывы не задушаць яе… Нягледзячы на французскае выхаванне, нягледзячы на тое, што сярод яго сваякоў размаўлялі пераважна па-французску, Пушкін, як вядома, ужо ў дзяцінстве быў абкружаны элементам народным; вядома, што галоўнай прадстаўніцай гэтага ўплыву была нянька яго, славутая Арына Радыёнаўна…»*[198].

Адна старэнькая руская жанчына — супраць цэлай Францыі — у сэрцы дзіцяці… Сапраўды, гэта глыбокі сімвал!.. І ён, магчыма, важнейшы — у разуменні дыялектыкі нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай культуры — за ўсе чыста тэарэтычныя разважанні на гэтую тэму, разам узятыя.

Чарнышэўскі падкрэслівае: *«Да Пушкіна Расія не мела вялікіх паэтаў… Пушкін першы даў нам цудоўныя вершы, напісаныя на роднай мове, а не перакладзеныя з іншай…»*[199].

---

[194] Гл.: Чернышевский, Н. Г. Полн. собр. соч. Т. 2. С. 429. — *Заўв. А. Б.*

[195] Маецца на ўвазе **Павел Аненкаў** (рус. *Павел Анненков*, 1812–1887), рускі літаратурны крытык, гісторык літаратуры і мемуарыст. Сярод іншага збіраў успаміны пра Аляксандра Пушкіна.

[196] **«Барыс Гадуноў»** (рус. *«Борис Годунов»*) — гістарычная драма Аляксандра Пушкіна, напісаная ў 1825 г. Прысвечана падзеям мяжы XVI–XVII стст. у рускай гісторыі.

[197] Гл.: Чернышевский, Н. Г. Полн. собр. соч. Т. 2. С. 430. — *Заўв. А. Б.*

[198] Тамсама, с. 430. — *Заўв. А. Б.*

[199] Тамсама, с. 507. — *Заўв. А. Б.*

Дыялектыка дзвюх найважнейшых стыхій, што ўдзельнічалі ў першапачатковым утварэнні паэтычнага характару Пушкіна, — французскае выхаванне з аднаго боку і рускі (народны) элемент з другога — і ўсвядомлены індывідуальна-творчы выбар паэта — вось ключавыя моманты аналізу станаўлення Пушкіна (у аспекце нацыянальнага і інтэрнацыянальнага).

Асэнсаванне Чарнышэўскім сацыяльнага і духоўнага станаўлення рускага народа (гістарычная ацэнка ім дзейнасці Пятра І, з аднаго боку, і Пушкіна – з другога, — у аспекце нацыянальнага і інтэрнацыянальнага) надзвычай актуальна для тых народаў, якія сутыкнуліся са шмат у чым падобнымі сітуацыямі на больш блізкіх да нашага часу стадыях свайго развіцця.

Для Беларусі (у ракурсе нашага даследавання) сацыяльнай навальніцай, якую па стратэгічным значэнні для гістарычнага лёсу беларускага народа можна параўнаць з тым, што для сацыяльна-духоўнага станаўлення рускага народа значыла сацыяльная творчасць Пятра і далейшы ўплыў на рускае нацыянальнае жыццё культур і моў больш сталых еўрапейскіх народаў, было рэвалюцыйнае абнаўленне свету, звязанае з міжнародным камуністычным рухам, з пабудовай рэальнага сацыялізму, з уваходжаннем беларускага народа ў братэрскую садружнасць савецкіх народаў і, як вынік гэтага, моцнае развіццё інтэрнацыянальнага кампанента ва ўсім беларускім сацыяльна-духоўным жыцці. У дыялектычным адзінстве і ўзаемадзеянні з гэтым разгортваюцца індывідуальна-творчыя акцыі, якія, у аспекце нашага разгляду, можна супаставіць з пэўна-нацыянальным духоўна-творчым выбарам Пушкіна. Адна з самых яркіх з'яў гэтага роду ў беларускай культуры — Максім Багдановіч.

Каб ва ўсёй паўнаце ўявіць сабе маральны і творчы подзвіг гэтага геніяльнага юнака, трэба увесь час памятаць пра тую маральна-псіхалагічную атмасферу ў адносінах да беларускай прафесійнай слоўнай творчасці, якая панавала сярод беларускага «інтэлігенцкага асяроддзя» напярэдадні таго часу, калі Багдановіч уваходзіў у літаратуру. Гэтую атмасферу цудоўна перадаў сам Багдановіч у

нясконачаным артыкуле пра паэта І. Неслухоўскага: «*…На вялікім абшары нашага краю патроху з'яўляліся людзі, так ці сяк дарабіўшыяся да нацыянальнага самапачуцця, а разам з тым ужо пачала ажываць і замёршая лет на 15 беларуская пісьменнасць: перадрукоўваўся Марцінкевіч, з'явілася колькі ксёнжачак Ельскага*[200]*, пераклад Гаршынскага*[201] *апавядання "Сігнал"*[202]*, вершы Бурачка*[203]*, Каганца*[204]*, Шункевіча*[205] *і інш. Але да народу гэтыя творы бадай што не даходзілі, а спольшчаная і абруселая беларуская інтэлігенцыя пачытывала іх з усмешкай, як нешта мілае і ў той жа час бадай што ні для чаго не патрэбнае. "Надта ж ужо міла думаць думкі і, як дзеці, пушчаць пузыр з мыла"…*»[206].

У самым сэрцы Расіі, у Ніжнім Ноўгарадзе, у сям'і, дзе рос маленькі Максім, як піша бацька паэта Адам Багдановіч[207] ва ўспамінах, «*панавала руская мова*»[208]. Але была ў будучага паэта свая Арына Радыёнаўна — вобраз, сатканы з песень і казак бабкі Анэлі. Яна памерла зусім маладой, раней, чым нарадзіўся яе славуты ўнук, але яе песні і мова дайшлі да Максіма праз цётку Магдаліну, праз бацькавы запісы. Як піша Адам Багдановіч, «*…яна ведала на памяць мноства беларускіх песень і наогул была носьбітам і захавальніцай народнай даўніны: абрадаў, звычаяў, варажбы, па-*

---

[200] **Аляксандр Ельскі** (1834–1916), гісторык, краязнавец, публіцыст, збіральнік беларускіх рукапісаў.

[201] **Усевалад Гаршын** (рус. *Всеволод Гаршин*, 1855–1888), рускі пісьменнік.

[202] Маецца на ўвазе выданне: Сігнал, або Расказ аб тым, як дабро перамагло зло ў чалавека / пераложана, з малымі переменамі, з расказа Усевалада Гаршына [Ядвігіным Ш.]. Масква, 1891. 31 с.

[203] **Мацей Бурачок** — псеўданім Францішка Багушэвіча.

[204] **Карусь Каганец** (сапр. **Казімір Кастравіцкі**, 1868–1918), пісьменнік.

[205] **Аляксандр Шункевіч** (сапр. **Мікалай Марозік**, каля 1852 — пасля 1913), паэт-самавук, прапаведнік-мараліст.

[206] Багдановіч, М. Збор твораў. Т. 2. Мінск, 1968. С. 93. — *Заўв. А. Б.*

[207] **Адам Багдановіч** (1862–1940), этнограф, гісторык культуры, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча.

[208] Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Мінск, 1975. С. 48. — *Заўв. А. Б.*

*данняў, прыказак, прымавак, загадак, народных лекавых сродкаў і інш. …Перадача казачнага сюжэту для яе была творчым актам; кожны раз яна ўносіла ў апрацоўку сюжэта новыя рысы; гаварыла моцна і нараспеў, дадаючы апавяданню прыкметную рытмічнасць. У маіх запісах яе казак гэтая рытмічнасць па магчымасці захавана. Па гэтых казках Максім азнаёміўся ўпершыню з беларускай мовай…»*[209]. «*…Я і мая сястра Магдаліна,* — піша далей Адам Багдановіч, — *любілі напяваць любімую песню нашай маці, якую яна спявала доўгімі зімовымі вечарамі пры святле лучыны ці куродымнай лямпачкі, седзячы на ляжанцы за вышываннем ці прасніцай: "А дзе ж тая крынічанька, што голуб купаўся"… Сястра Магдаліна, носьбіт традыцый нашага роду, жыла і вяла сваю сям'ю так, як гэта рабілі яе маці і бабуля: яна захоўвала і шанавала ўсе звычаі і абрады, спраўляла "дзяды, каляды, масленіцу" і "вялікадні" і інш., так, як гэта рабілі продкі… Максім увесь вольны час праводзіў у цётак у гульнях і забавах са сваімі дваюраднымі братамі і сёстрамі. І дома, і ў цётак ён чуў апавяданні і ўспаміны пра родную даўніну, дзе вынырвалі розныя асобы і падзеі, своеасаблівыя, таямнічыя, так непадобныя на ўсё навакольнае. Тут ён чуў і беларускую казку, і беларускую песню з яе сумным, прывабным напевам, поўным глыбокага невычэрпнага пачуцця, тут жа вырывалася жывая беларуская прыказка, трапныя "крылатыя" словы. Гэта, вядома, былі крупінкі, крошкі, але ён чуйна іх збіраў, схопліваючы на ляту… Свае вопыты пісання на беларускай мове ён пачаў вельмі рана, прыблізна з 10–11 год…»*[210]. *«Ён не пайшоў найлягчэйшым шляхам,* — піша Адам Багдановіч,— *не стаў пісаць па-руску. Ягоныя пераклады ўласных вершаў сведчаць, што ён і па-руску мог бы пісаць нядрэнныя вершы. Але ён гэты шлях яшчэ ў дзяцінстве адкінуў і смела вырашыў пераадолець велізарныя цяжкасці, каб авалодаць роднай мовай сваіх продкаў і авалодаць настолькі, каб пісаць прыгожыя вершы і ўзбагаціць гэтую мову новымі мастацкімі*

---

[209] Тамсама, с. 12. — *Заўв. А. Б.*
[210] Тамсама, с. 47–48. — *Заўв. А. Б.*

*формамі… Калі прыняць пад увагу стан яго здароўя, неабходнасць вучэння і ўсе абставіны жыцця, то нельга не прызнаць яго працу ў гэтай сферы велізарнай. І нельга не лічыць гэтага пачынання нават дзёрзкім… Які з паэтаў, успрыняўшых беларускую мову з малаком маці, уздымаў гэтую цяжкую, марудную, крыжаборскую працу? А ён, слабагруды, кволы, узняў. І нёс яе цярпліва, упарта…»*[211].

*«…За беларускай мовай не жадаюць прызнаць самастойнасці і самабытнасці,* — скажа пазней Максім. — *Не жадаюць дапусціць і думкі, што на гэтай мове можна выказаць усе парывы чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжачкай* (гаворка ішла пра «Вянок». — *Заўв. А. Б.) хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма. А для гэтага трэба было беларускую мову паставіць побач з еўрапейскімі мовамі…»*[212].

*«…Чым вытлумачыць выбар, пастаноўку мэты?* — запытвае Адам Багдановіч і сам сабе адказвае: — *Перш за ўсё ўнутраным, відаць, неадольным імкненнем, роднай стыхіяй, інтуіцыяй, атрыманай у спадчыну ад продкаў. Гэта не пустыя словы, і мо ён сам, што гэта не пустыя словы, адзін з яркіх доказаў. Астатняе зрабіла цвёрдая воля і ўпартасць у працы»*[213].

Творчы шлях Максіма Багдановіча — цудоўны прыклад глыбокага развіцця не толькі ўласна нацыянальнага, але і інтэрнацыянальнага кампанентаў нацыянальнай духоўнай культуры, праламлення ў яе сістэме лепшых «прафесійна-тэхналагічных» і духоўных дасягненняў іншых народаў. Гэта — незгасальны ўзор і для сучасных, і для наступных пакаленняў дзеячаў беларускай духоўнай культуры.

Чым вытлумачыць індывідуальна-творчы выбар Багдановіча?.. Відаць, тым самым, што і выбар Пушкіна — усведамленнем асабістага маральнага і эстэтычнага абавязку перад сваім народам, абуджаным і сфармаваным нацыянальным сумленнем.

---

[211] Тамсама, с. 43. — *Заўв. А. Б.*
[212] Тамсама, с. 64. — *Заўв. А. Б.*
[213] Тамсама, с. 44. — *Заўв. А. Б.*

Шмат у чым жыццёвы і творчы лёс Багдановіча перагукваецца і з лёсам Шапэна[214]. Для абодвух святыняй была далёкая пакутніца Бацькаўшчына. Кожны аддаў ёй сваё сэрца і геній. І кожнаму была суджана жыць і заўчасна памерці ў далёкіх краях…

Глянем цяпер ізноў на праблему нацыянальнай мовы панарамна, з дапамогай прыведзеных вышэй паняццевых структур.

Схематычна ўзаемадзеянне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай культуры беларускага народа — як часткі больш шырокага сацыяльнага цэлага — можна адлюстраваць так:

Прыродны ўзровень нацыянальнага. Гэта — нацыянальны фальклор у адзінстве з жыццём яго рэальных носьбітаў, захавальнікаў, творцаў і ўзнаўленне ў з'явах прафесійнай духоўнай творчасці роднай прыроды — у адзінстве з маральнай і эстэтычнай сферамі жыцця народа, узнаўленне, якое ажыццяўляецца з дапамогай адэкватных сродкаў, у першую чаргу — моўных. Тут пераважае стыхія ўласна нацыянальнага. Трэба, аднак, адзначыць, што ў часы інтэнсіўных міжнацыянальных калізій прадстаўнікі іншых народаў, якія ўцягнуты ў нацыянальнае жыццё пэўнага народа, могуць глыбока адчуць прыродную аснову нацыянальнай культуры і ўнесці значны ўклад у яе развіццё. Унікальная з'ява беларускай духоўнай культуры ваенных гадоў — партызанская песня — сведчанне гэтаму.

У народнай смехавой культуры (М. Бахцін[215]) мы бачым ступеньку пераходу да сацыяльнага ўзроўню, момант узаемасувязі прыроднага і сацыяльнага, беспамылковую ацэнку народам тых наяўна-сацыяльных з'яў, якія адбываюцца ў яго нацыянальным жыцці, ацэнку, у якой выяўляюцца істотныя грані нацыянальнага характару. Разам з гэтым тут мы наглядаем глыбокую інтэрнацыянальную роднасць духоўных культур усіх народаў свету.

---

[214] **Фрыдэрык Шапэн** (пол. *Fryderyk Franciszek Chopin*, 1810–1849), польскі кампазітар і піяніст-віртуоз.

[215] **Міхаіл Бахцін** (рус. *Михаил Бахтин*, 1895–1975), рускі філосаф, культуролаг, літаратуразнаўца, тэарэтык еўрапейскай культуры і мастацтва.

Сацыяльны ўзровень нацыянальнага. На гэтым ўзроўні найбольш глыбока выяўляецца дыялектычнае адзінства нацыянальнага і інтэрнацыянальнага — у прыватнасці, у паняцці савецкага патрыятызму, у поліфаніі Радзімы — як мастацкім адлюстраванні тых рэальнасцей, якія фіксуюцца ў паняцці савецкага народа, і далей — у паняцці сацыялістычнай садружнасці (а ў ідэале — у глабальнай навукова-эканамічнай і арганізацыйна-палітычнай цэласнасці сусветнай камуністычнай цывілізацыі). Тут найбольш выразна выяўляецца і паняцце наяўна-сацыяльнага кампанента сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры, у якім адлюстроўваецца сутнасць канкрэтнага сацыяльнага рэгулявання духоўнай культуры пэўнага народа.

Індывідуальна-творчы ўзровень нацыянальнага. Гэты ўзровень найбольш поўна выяўляецца ў з'явах прафесійнай духоўнай дзейнасці.

Тут найбольш поўна выяўляецца як уласна нацыянальны, так і інтэрнацыянальны кампанент сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры, а таксама іх узаемадзеянне — аж да дыялектычнага ўзаемапранікнення.

Паняцце ўласна нацыянальнага кампанента сістэмы нацыянальнай прафесійнай духоўнай дзейнасці адлюстроўвае, як выхадцы з пэўнага народа (этнасу) асэнсоўваюць і ў адэкватнай (у першую чаргу — моўнай) форме ўзнаўляюць гістарычны лёс свайго народа, развіваюць далей нацыянальныя творчыя патэнцыі.

Паняцце інтэрнацыянальнага кампанента сістэмы нацыянальнай прафесійнай духоўнай дзейнасці адлюстроўвае, як дзеячы культуры, у тым ліку і выхадцы з іншых этнасаў, якія ўключаюцца ў нацыянальнае духоўнае жыццё пэўнага народа, асэнсоўваюць і ўзнаўляюць — скарыстоўваючы творчыя дасягненні іншых народаў — дыялектыку ўзаемадзеянняў гэтага народа з іншымі, увогуле дыялектыку міжнацыянальных узаемадзеянняў — у рамках гэтай нацыянальнай культуры.

Адначасовае «праецыраванне» катэгорый «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» і паняцця «сістэма нацыяналь-

най духоўнай культуры» на культуру пэўнага народа, што паказвае яе «гарызантальны» і «вертыкальны» зрэзы, усе яе асноўныя ўнутраныя і знешнія сувязі, дае магчымасць ажыццявіць усебаковае, цэласнае, г. зн. спецыфічна філасофскае, даследаванне праблематыкі духоўнай культуры асобнага народа як часткі больш шырокай сацыяльнай цэласнасці (у ідэале — цэласнасці агульначалавечай)[216]. Аднačасовае выкарыстанне такіх катэгарыяльных структур пры даследаванні міжнацыянальных сувязей і ўзаемадзеянняў культур народаў, якія будуюць камуністычнае грамадства, павінна быць, на наш погляд, вельмі перспектыўным для раскрыцця глыбінных тэндэнцый іх далейшага развіцця — з прычыны ўзрастання значэння цэлага шэрагу фактараў, у прыватнасці: моцнага ўзрастання інтэрнацыяналізацыі сучаснага духоўнага жыцця; узмацнення ролі індывідуальна-творчых (асабовых) фактараў у

---

[216] Патэнцыяльныя магчымасці прапануемага паняццевага апарату (катэгорый «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» як інструментаў даследавання культуры і паняцця «сістэма нацыянальнай духоўнай культуры») выкарыстаны намі далёка не поўнасцю. Нам здаецца, што яны ў далейшым будуць раскрывацца больш поўна пры больш дэталёвым разглядзе асобных сфер духоўнай культуры. Разам з тым трэба адзначыць, што зразуменне праблем нацыянальнай культуры на лагічным узроўні (г. зн., паводле Ф. Энгельса, вызваленым ад гістарычнай формы), у пэўнай сістэме паняццяў (у дадзеным выпадку з дапамогай катэгорый «нацыянальнае» і «інтэрнацыянальнае» як сродкаў даследавання культуры і паняцця «сістэма нацыянальнай духоўнай культуры», з дапамогай іх аднačасовага «праецыравання» на пэўныя з'явы культуры і цалкам на ўсю сістэму) з'яўляецца важнай перадумовай больш глыбокага тэарэтычнага і практычнага зразумення яе жывых праблем. (Прыгадаем словы А. Ф. Лосева: «*…Часцей за ўсё ўстаноўленыя намі тэарэтычныя катэгорыі фактычна вельмі блізка падыходзяць адна да адной, іх часта цяжка адрозніць, і яны збіваюцца ў адно непадзельнае цэлае. Але няма большай радасці для тэарэтыка, чым тая, калі ён з гэтым сустракаецца ў жыцці і мастацтве. Гэта ж не значыць, што ён забывае свае тэарэтычныя катэгорыі ў аналізах жыцця. Наадварот, толькі яны і дапамагаюць разабрацца ў канкрэтным жыцці мастацкага твора; толькі яны і з'яўляюцца ўмовай зразумення таго, з чаго складаецца жыццё, і як менавіта катэгорыі, устаноўленыя ў думцы, фактычна перамешваюцца і збіваюцца ў жывым гістарычным працэсе*». — Гл.: Лосев, А. Ф. Проблема символа и реалистическое искусство. М., 1976. С. 204–205.) — *Заўв. А. Б.*

сацыяльным развіцці; пашырэння маштабаў і інтэнсіўнасці сацыяльнага рэгулявання працэсаў развіцця нацыянальных духоўных культур; уплыву фарсіраванага пераўтварэння прыроднага асяроддзя (якое ўспрымаецца асобным народам у выглядзе рэзкага, а часам і дэструктыўнага змянення яго «нацыянальнага эйкасу»), а таксама інтэнсіўнай міграцыі насельніцтва на ўсю сферу маральнага і эстэтычнага жыцця народа і інш.

Выкарыстанне прапанаванага паняццевага апарату можа быць карысным для выяўлення цэласнасці і індывідуальнасці шматвяковых гістарычных працэсаў фармавання і развіцця духоўных культур народаў нашай краіны, кожная з якіх у цяперашні час рэальна ўзаемадзейнічае як з культурамі іншых народаў Савецкага Саюза і сацыялістычнай садружнасці, так і з культурамі ўсіх народаў свету, якія жывуць і развіваюць свае духоўныя каштоўнасці ва ўмовах мірнага суіснавання розных сацыяльна-эканамічных і палітычных сістэм, для выяўлення як агульных рыс структуры, функцыянавання і развіцця, так і глыбокіх, істотных адрозненняў, перш за ўсё ў адносінах характару сацыяльных мэт, сацыяльнай накіраванасці, духоўных культур народаў ва ўмовах розных грамадска-эканамічных фармацый, г. зв. дыялектыкі агульнагістарычнага і фармацыйнага. Такое выкарыстанне гэтай сістэмы паняццяў можа аказацца карысным і для справы строга навуковага практычнага рэгулявання працэсаў развіцця нацыянальных духоўных культур і іх узаемадзеянняў, у прыватнасці для павышэння прафесійнай кваліфікацыі тых дзеячаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да працэсу наяўна-сацыяльнага рэгулявання сістэмы нацыянальнай духоўнай культуры. Гэта асабліва важна ў наш час, маючы на ўвазе маральны абавязак наяўных пакаленняў людзей перад будучымі: захаванне чалавецтву непаўторнага аблічча кожнай з гэтых культур, якое ствараласа стагоддзямі, калі ўпершыню ў гісторыі створаны спрыяльныя аб’ектыўныя ўмовы для хуткага і глыбокага пранікнення ўсіх культур у індывідуальнасць кожнай асобнай, для іх жыватворчага ўзаемаўплыву, калі, таксама ўпершыню ў гісторыі, перад кожнай нацыянальнай духоўнай культурай (асаблі-

ва ў нешматлікіх народаў) адкрываюцца перспектывы як усебаковага, гарманічнага разгортвання сваіх творчых патэнцый, так і хуткага, незваротнага знікнення пад націскам гіганцкіх глабальных працэсаў, спароджаных ХХ стагоддзем.

Ахова помнікаў культуры ў наш час — гэта перш за ўсё ахова саміх нацыянальных культур як унікальных цэласных сістэм, якія ствараліся на працягу стагоддзяў, ахова ад разбурэння іх жывога функцыянавання, магчымасцей іх далейшага самаразвіцця — як самастойных галасоў паліфаніі чалавечай культуры.

У сувязі з гэтым, у прыватнасці, вельмі важна, каб патэнцыяльныя магчымасці адной з самых цудоўных заваёў сталага сацыялізму — масавага двухмоўя (білінгвізму) —выкарыстоўваліся ў нашай рэспубліцы ў поўнай меры, на карысць кожнай з братніх культур, на карысць справе камуністычнага абнаўлення свету. Вельмі важна, каб двухмоўе і сярод нашых прафесіяналаў слоўнай творчасці (тут маюцца на ўвазе не пісьменнікі ці мовазнаўцы — у іх з гэтай справай усё добра, а перш за ўсё прафесійныя філосафы, прапагандысты, супрацоўнікі і кіраўнікі культурных установаў і г. д.), каб у іх двухмоўе зрабілася аб'ектыўна рэальным, жывым, а не толькі дэкларатыўным. Нацыянальная палітыка партыі ў сацыяльным і культурным будаўніцтве павінна ажыццяўляцца ў поўным аб'ёме.

Гэтае пытанне, акрамя ўласна культуралагічнага, мае і надзвычай важны палітычны аспект. Вядома, што нашы класавыя супраціўнікі вядуць супраць нас шырокую псіхалагічную вайну, у тым ліку і па праблемах нацыянальнай палітыкі. Адным з важных тэзісаў іхнай прапаганды з'яўляецца тэзіс аб «русіфікацыі» саюзных рэспублік, і ў першую чаргу Беларусі. Сапраўдным сродкам абвяржэння гэтага тэзіса з боку прафесійных беларускіх філосафаў, увогуле — дзеячаў культуры слова, можа з'явіцца аб'ектыўна рэальнае двухмоўе ў іх творчай і грамадскай дзейнасці. Гэта будзе сапраўднай дапамогай партыі — з боку прафесійных дзеячаў слоўнай культуры — у ажыццяўленні і ідэалагічнай абароне яе нацыянальнай палітыкі, сапраўдным, а не толькі дэкларатыўным правядзеннем прынцыпу

партыйнасці ў галіне развіцця і ўзаемадзеяння нацыянальных духоўных культур[217].

Асноўным помнікам і ў той жа час асноўным кампанентам нацыянальнай духоўнай культуры з'яўляецца мова. Ахова мовы — маральны і канстытуцыйны («*Клопат аб захаванні гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей — доўг і абавязак грамадзян Беларускай ССР*»)[218] абавязак у першую чаргу прафесійных дзеячаў культуры. Гэта добра разумеюць, напрыклад, найбольш глыбокія беларускія мастакі. Хоць асноўнай прафесійнай мовай у іх з'яўляюцца лініі і фарбы, аўтографы на сваіх карцінах яны робяць на мове (Касмачоў[219], Сергіевіч[220], Шчамялёў[221] і інш.). На першы погляд — «дробязь». Але гэта — вялікі сімвал!.. Сімвал разумення стваральнікамі мастацкіх каштоўнасцей праблемы нацыянальнага ў духоўнай творчасці і сваёй асабістай адказнасці.

Але тыя, хто выракляе з слоўнае пароды — у прыватнасці, філосафы, якія распрацоўваюць праблемы духоўнай культуры народа, — на жаль, далёка не ўсе ўсведамляюць сваю асабістую маральную і прафесійную адказнасць за лёс нацыянальнай мовы.

Філасофскія праблемы, скажам, фізікі ці хіміі — яны нейтральныя да слоўнай формы, у якой адбываецца працэс іх асэнсавання. Але ж філасофскія праблемы нацыянальнай літаратуры, мастацтва, увогуле, усёй сферы маральна-

---

[217] Калі жывая культура слова развіваецца ў нас у асноўным на адной мове, асабліва, калі паленіка з класавымі супраціўнікамі па нацыянальным пытанні і, у прыватнасці, па тэзісе «русіфікацыі» вядзецца амаль цалкам па-руску, то гэта якраз тое, што ім трэба, бо яны з радасцю крычаць на ўвесь свет пра такіх «палемістаў»: «*...Мы ж пра тое і кажам!*» Лепшага падарунку ім і большай прапагандысцкай шкоды сабе зрабіць немагчыма. Сапраўды мядзведжую прыслугу партыі робяць такія тэарэтычныя «абаронцы» яе нацыянальнай палітыкі! — *Заўв. А. Б.*

[218] Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мінск, 1978. С. 22 (артыкул 66). — *Заўв. А. Б.*

[219] **Канстанцін Касмачоў** (1911–1992), жывапісец, графік, педагог.

[220] **Пётра Сергіевіч** (1900–1984), жывапісец, графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы.

[221] **Леанід Шчамялёў** (1923–2021), народны мастак БССР.

га і эстэтычнага жыцця народа — яны не нейтральныя па нацыянальнай слоўнай стыхіі. У адрыве ад яе каранёў не можа быць сапраўднага вырашэння ніводнай з іх.

Тая плынь філасофскага працэсу, якая асэнсоўвае культуралагічную праблематыку, павінна выконваць інтэгратыўную функцыю ва ўсёй сістэме нацыянальнай духоўнай культуры. Для эфектыўнага ажыццяўлення гэтай функцыі неабходна яе развіццё ў адэкватнай моўнай форме, яе духоўнае і моўнае ўз'яднанне з беларускай літаратурай. Бо сапраўды — беларускія прафесійныя філосафы і беларускія пісьменнікі і паэты гавораць на розных мовах!..

Гэта — трагічная, дэструктыўная супярэчнасць у развіцці нацыянальнай духоўнай культуры… Але пераадоленне трагедый — асноўная пружына развіцця культуры кожнага народа. І беларускі народ, безумоўна, не выключэнне.

Аб'ектыўныя ўмовы для гэтага пераадолення цяпер вельмі спрыяльныя (у параўнанні, скажам, з дарэвалюцыйным часам). Галоўная перашкода тут — гэта, на жаль, маральная кволасць суб'ектыўнага фактару, неўсведамленне пераважнай большасцю прафесійных філосафаў сваёй індывідуальнай адказнасці.

Патрабуюцца таксама пэўныя намаганні ў гэтым кірунку і з боку тых дзеячаў, якія нясуць персанальную сацыяльна-палітычную адказнасць за аптымальнае развіццё нацыянальнай культуры (кіраўнікі адпаведных інстытутаў, сектараў, вучоных саветаў, дырэктыўных органаў і г. д.). Трэба стварыць спрыяльную атмасферу заахвочвання (перш за ўсё маральнага і арганізацыйнага) для развіцця ў адэкватнай моўнай форме той плыні філасофскага працэсу на Беларусі (тут маецца на ўвазе напісанне артыкулаў, дысертацый, манаграфій, правядзенне навуковых канферэнцый, семінараў і г. д.), у якой адбываецца асэнсаванне нацыянальнай культуралагічнай праблематыкі, дыялектыкі нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай культуры беларускага народа і ўвогуле — міжнацыянальных узаемадзеянняў у галіне культуры.

Абуджэнне пачуцця асабістай адказнасці за аптымальнае развіццё ўсёй сістэмы беларускай духоўнай культуры

ў кожнага яе прафесіянальнага дзеяча, абвяржэнне справай, г. зн. у дадзеным выпадку — словам (зразумела, беларускім), аднаго з важных антысавецкіх і антыкамуністычных тэзісаў (тэзіса «русіфікацыі») — найважнейшая і двуадзіная (культурная і палітычная) задача. Вось дзе сапраўды бязмежнае поле для праяўлення дзеячамі беларускай культуры пачуцця маральнай, эстэтычнай і палітычнай адказнасці перад сваім народам і інтэрнацыянальнай справай сусветнай камуністычнай сябрыны народаў!..

На жаль, вялікую шкоду робяць справе Камуністычнай партыі тыя тэарэтыкі, якія блытаюць катэгорыю «нацыянальнае» — як інструмент даследавання культуры, барацьбу за гармонію нацыянальнага, інтэрнацыянальнага і сацыяльна-класавага ў духоўнай культуры народа — з нацыяналізмам (г. зн. з выкарыстаннем нацыянальнага аспекту развіцця культуры ў палітычнай барацьбе супраць Камуністычнай партыі і савецкай улады). Гэтая шкода выяўляецца як ва ўласна культурным жыцці (бо парушэнне гармоніі нацыянальнага, інтэрнацыянальнага і сацыяльна-класавага ў духоўнай культуры народа замаруджвае яго агульнаэстэтычны прагрэс), так і ў тым, што гэтай сваёй тэарэтычнай нязграбнасцю (асабліва калі яна спалучаецца з выкананнем пэўных адміністратыўных функцый) яны адштурхоўваюць значную частку нацыянальнай інтэлігенцыі ад актыўнага ўдзелу ў камуністычным будаўніцтве (бо такое тэарэтычнае і адміністратыўнае недамысленне атаясамліваецца некаторымі палітычна наіўнымі дзеячамі культуры з палітыкай Камуністычнай партыі і савецкай улады ў нацыянальным пытанні). Акрамя гэтага, як ужо адзначалася вышэй, падобныя тэарэтыкі і практыкі даюць найлепшыя козыры прапагандзе нашых палітычных супраціўнікаў, якія ганяць нашу нацыянальную палітыку.

Ёсць даўнія добрыя словы: «*Не пытайце, што Радзіма можа зрабіць для вас. Пытайце, што вы можаце зрабіць для яе*».

І яшчэ: «*Нават калі толькі два чалавекі гавораць на сваёй мове — яна жывая*».

Калі мы запытваем саміх сябе: «*Ці можам мы што зрабіць для беларускай мовы?..*» — адказ будзе… мо і крыху банальны, крыху наіўны… а мо і просты, як ісціна: не саромцеся, не лянуйцеся — размаўляйце на ёй…

І яна, гэтая падчарка гісторыі, адорыць вас сваёй, нават яшчэ і напалову нераскрытаю таямніцай…

*(26 гадоў, беларус, тэолаг, з Беласточчыны)*

…Не так трэба ратаваць айчыну. Выратаванне — толькі ў Ісусе Хрысце. Мова — шлях да Яго. Але толькі шлях. І толькі ў гэтай якасці яна мае сэнс, як і ўсё іншае. Сама па сабе, без Яго, мова нічога не вартая. Як і ўвесь свет. Без Яго ўсё гэта — шлях у нябыт…

*(50 гадоў, беларус, літаратуразнаўца і крытык)*

Мне здаецца, што пакуль сур'ёзнага абмеркавання пастаўленага пытання, чаму ў рэспубліцы вузкая сфера практычнага карыстання беларускай мовы, не атрымалася. Асноўная прычына няўдачы, на маю думку, — адсутнасць ці няпэўнасць зыходнай пазіцыі. На самай справе хіба можна лічыць дастаткова грунтоўным зыходным пунктам пачатку абмеркавання пытанне: «*Чаму вы не размаўляеце на беларускай мове?*». Магчымы адказ на такое пытанне «*Бо ніхто не размаўляе*» або «*Бо мала хто размаўляе*» зусім дастатковы, каб дыскусія вычарпалася і завяршылася.

Не можа быць адпраўным момантам і пытанне: «*Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?*». Яно мне здаецца залішне абстрактным. Магчымы, напрыклад, такі адказ: «*Думаем добра*». І на гэтым кантакт можа апраўдана перарвацца.

У матэрыялах, з якімі я пазнаёміўся, ёсць, аказваецца, навуковы артыкул ініцыятара інтэрв'ю пра будучыню нацыянальных моў. Артыкул добры і глыбокі. Хацелася б, каб асноўныя палажэнні гэтага артыкула, папулярна і даступна сфармуляваныя, і сталі зыходнымі пунктамі, з якіх пачынаецца сапраўдная размова. А пакуль што вулічныя апытванні на хаду ніяк не дастасоўваюцца да тэарэтычных выкладак філасофскага артыкула. Ствараецца ўражанне,

што самы адказны момант у разгортванні дыскусіі — увaход у праблему дыскусіі — перакладаецца выключна на тых, хто ўдзельнічае ў дыскусіі, а сам арганізатар застаецца дзесьці ўбаку. Магчыма, такую ролю «ўводзін» у праблему павінен выконваць раздзел «Беларускія паэты пра родную мову». Але ён, гэты раздзел, наўрад ці выконвае такую функцыю, бо ён залішне «пасіўны» — гэта значыць, не ўвязаны з тымі задачамі, якія ставяцца пры абмеркаванні. Натуральна, што ў адказах у выніку гэтага вельмі шмат збіўлівага і непаслядоўнага.

Урэшце, прапанова выказаць адносіны да матэрыялаў, якія ёсць у папцы, вельмі ўжо неазначальная. Не зусім зразумела, што патрабуецца ад таго, хто ўдзельнічае ў дыскусіі, бо надзвычай стракаты матэрыял і выказаць да яго адносіны даволі цяжка.

Думаецца, што і выраз «філасофскі фальклор» у адносінах да матэрыялу, які сабраны, наўрад ці правамерны. Які там ужо фальклор! Гэта проста ўдзел у інтэрв’ю!

Як можна здагадацца, арганізатара дыскусіі найбольш цікавяць асабістыя практычныя адносіны да беларускай мовы і адносіны да самой праблемы. Выкажуся па гэтых пытаннях.

Гавару на роднай мове ў сям’і. Усе члены сям’і таксама гавораць дома па-беларуску. Гэта не ўстаноўка, а даўняя звычка. Гавару па-беларуску на працы, у асяроддзі калег. На вуліцы, у тралейбусе з калегамі таксама размаўляю па-беларуску. З незнаёмымі загаворваю па-руску. Думаю, што пачынаць размову з незнаёмым па-беларуску некультурна, асабліва ў Мінску: чалавек можа не ведаць мовы. У кампаніі, дзе размаўляюць па-руску, таксама падтрымліваю размову па-руску. На тэмы навукова-тэарэтычныя часта гавару па-руску, бо большасць тэарэтычнай літаратуры чытаю на рускай мове.

Перакананы, што праблема практычнага карыстання нацыянальнай мовай мае важнае грамадскае і культурнае значэнне. У нашых умовах гэта праблема складаная. І мяне проста здзівіла павярхоўнасць і адназначнасць, з якой адгукнуліся на пастаўленыя пытанні літаратары. Куды большую глыбіню разумення сітуацыі выявілі некаторыя

філосафы і людзі іншых прафесій. Нават у большасці вучнёўскіх лістоў і адказаў падкупляе сур'ёзнасць падыходу да пытання, якое пастаўлена на абмеркаванне. Літаратары, як правіла, абмяжоўваюцца эмоцыямі, і яны, гэтыя эмоцыі, як ужо адзначалася некаторымі ўдзельнікамі дыскусіі, выклікаюць толькі раздражненне, у лепшым выпадку — недаўменне.

Чаму ўзнікаюць сур'ёзныя прэтэнзіі да выказванняў літаратараў? Яны амаль поўнасцю пазбаўлены адчування аб'ектыўных прычын існуючай сітуацыі — і гэта заўважылі некаторыя ўдзельнікі дыскусіі. Заўважылі і кінулі справядлівы папрок: ужо хто-хто, а пісьменнікі і журналісты, якія прафесійна звязаны з лёсам беларускай мовы, павінны хоць трохі паўней уяўляць сабе праблему з яе аб'ектыўнымі вытокамі, прычынамі і вынікамі.

Нельга, вядома, патрабаваць ад пісьменнікаў поўнага тэарэтычнага асвятлення праблемы, але некаторыя яе важнейшыя аспекты яны проста абавязаны адчуваць больш цвяроза, не ўпадаць у грамадскую інфантыльнасць. Аднак я хацеў бы засцерагчы пісьменнікаў і іх працу ад неапраўданых падазрэнняў, якія ідуць ад простай недасведчанасці, што быццам пісьменнікі «аграбаюць» вялікія грошы за веданне нацыянальнай мовы. З усёй адказнасцю сведчу, што ў аплаце працы пісьменнікаў няма ніякага асаблівага падыходу. Пісьменнікі сярэдняй ці добрай кваліфікацыі атрымліваюць аплату, не вышэйшую за заробак рабочага сярэдняй ці добрай кваліфікацыі.

Аднак перш чым прыступіць да абмеркавання сітуацыі з практычным бытаваннем беларускай мовы, па маім перакананні, варта мець на ўвазе наступныя зыходныя пункты: 1) за ўсю гісторыю існавання беларускага народа ніколі яго мова не мела такога высокага культурнага ўжытку, як у гады савецкай улады; 2) ніколі раней беларускі народ не ўсведамляў сябе так глыбока нацыяй, як цяпер пры савецкай уладзе; 3) ніколі раней беларускі народ не быў цалкам аб'яднаны ў адну адміністрацыйна-дзяржаўную адзінку, як цяпер пры савецкай уладзе; 4) блізкасць беларускай мовы да рускай з'яўляецца велізарнай [удачай][222]

[222] У першым выданні слова пазначана як не расчытанае.

беларускай культуры, бо дае ёй амаль беспасрэдную сувязь з дасягненнямі сусветнай мастацкай і духоўнай культуры, [за]сцерагае[223] ад правінцыйнай ізаляцыі.

Улічв[аць][224] хоць бы ўнутран[ае значэнне][225] гэтых фактараў у развіцці беларускай культуры абав[язаны][226], калі толькі мы хочам мець перад сабой правільную перспектыву ў абмеркаванні складаных ці яшчэ не вырашаных праблем культурнага жыцця нашай рэспублікі. А яны, гэтыя праблемы, вядома, ёсць.

Сфера ўжывання беларускай мовы — не выдуманая, не штучна створаная праблема. Але яна ні ў якім разе не можа быць зведзена да таго, на якой мове размаўляць. Калі б гэта было так, то ўсё выглядала б вельмі проста: кожны хай гаворыць на той мове, на якой хоча. Аднак жа ад таго, наколькі шырокая сфера ўжывання роднай мовы, вельмі шмат залежыць у развіцці нацыянальнай культуры. І не толькі культуры. На [вуз]кай[227] аснове практычнай жыццядзейнасці нацыянальнай мовы не можа натуральным шляхам адбывацца духоўны рост асобы і духоўная пераемнасць паміж пакаленнямі. Першыя ўражанні і ўяўленні чалавека пра навакольны свет павінны складвацца на грунце культуры роднай мовы. Таму асабліва важна, каб пачатковая і сярэдняя адукацыя адбывалася на роднай мове. Гэта добра разумеў і пра гэта пісаў яшчэ К. Д. Ушынскі[228]. Усякі іншы падыход да вырашэння гэтага пытання пакуль што з непазбежнай заканамернасцю будзе шкодзіць выхаванню паўнацэннага, не ўшчэрбнага чалавека. А такое становішча, у сваю чаргу, супярэчыла б мэтам пабудовы камуністычнага грамадства.

З другога боку, руская мова і літаратура павінны вывучацца вельмі настойліва, пільна і глыбока, бо праз іх бе-

---

[223] У першым выданні слова часткова не расчытанае.

[224] У першым выданні слова часткова не расчытанае.

[225] У першым выданні словы не расчытаныя.

[226] У першым выданні слова часткова не расчытанае.

[227] У першым выданні слова часткова не расчытанае.

[228] **Канстанцін Ушынскі** (рус. *Константин Ушинский*, 1823–1871), рускі педагог украінскага паходжання, адзін з заснавальнікаў педагагічнай навукі і народнай школы ў Расійскай імперыі.

ларус уваходзіць у вялікі свет усечалавечай культуры, у першую чаргу далучаючыся да багатых скарбніц рускай культуры.

Відавочна таксама, што вузкая сфера грамадскага ўжывання роднай мовы становіцца перашкодай на шляху развіцця нацыянальнай літаратуры і мастацтва, бо ў такім выпадку духоўныя здабыткі слаба даходзяць да шырокіх народных мас. Літаратура і мастацтва страчваюць кантакт з масавым чытачом. Яны да народа звяртаюцца, а водгук у адказ атрымліваюць слабы. Як сказана ў сучаснага беларускага паэта: «*Пішам, а нас не чытаюць амаль*»[229]. В. Распуцін[230] выказаў правільнае перакананне, што «*чытач — магутная рухаючая сіла літаратуры*». Моўнае раз'яднанне літаратуры і чытача істотна змяншае гэтую сілу.

Ці дастаткова шырокі абсяг сёння абыходкавага культурнага ўжывання беларускай мовы? Відаць, не, бо ў 1920-я і ў 1930-я гады ён быў у БССР нашмат шырэйшы.

Чым выкліканы вузкія межы практычнага бытавання беларускай мовы сёння? Гэта пытанне не даследавалася, аднак было б наіўна думаць, што яго можна вытлумачыць нейкімі суб'ектыўнымі фактарамі: маўляў, нехта захацеў і пашырыў, а іншы заўпарціўся і звузіў. Змены ў галіне моўнай арыентацыі і палітыкі залежаць ад больш сур'ёзных прычын. Гэта, як правіла, прычыны сацыяльныя.

Яшчэ больш інфантыльным выглядае перакананне асобных таварышаў, быццам захаванне вёскі аўтаматычна забяспечыць захаванне мовы. Іх ідэал — старая патрыярхальная вёска, непадуладная ўплыву якога-небудзь прагрэсу. Для такіх таварышаў зялёны мох на саламянай страсе даражэй і важней бібліятэкі ў сялянскай хаце. На такім узроўні ў сучасны момант культура ўжо не ствараецца. Сёння гэта дрымучы правінцыялізм.

Інтэнсіўнае развіццё нацыянальнай культуры абвастрае пытанне аб практычна-побытавым статусе беларускай мовы, патрабуе пашырэння сферы яе выкарыстання.

---

[229] Радок з верша Пімена Панчанкі «Творчасць», напісанага ў 1974 г.

[230] **Валянцін Распуцін** (рус. *Валентин Распутин*, 1937–2015), рускі савецкі і расійскі пісьменнік і публіцыст, грамадскі дзеяч.

Хочацца спадзявацца, што такое пашырэнне адбудзецца. А як яно будзе адбывацца — на гэтае пытанне адкажа толькі будучыня. Аднак думаць над ім варта.

*(Каля 50 гадоў, беларус-мяшанец, гісторык са Смаленшчыны)*

Што мы думаем пра Цябе?

Як магло стацца, што каб быць гаспадыняй ва ўласным доме, Ты пераўтварылася ў служанку ці нават у нялюбае брыдкае дзіцё, лёсам якога перасталі не толькі цікавіцца, але і кпяць як родныя, так і чужыя?

Чаму так сталася? Ці гэта кара Божая за нашу сціпласць і лагоднасць, за тое, што ніколі чужога мы не захапілі, нідзе нічыіх правоў не пагвалцілі, самабытнасці другіх народаў не зняважылі? Ці мо такім чынам расплачваемся за нашу гасціннасць і адкрытае сэрца, за цярпімасць (талерантыйнасць) да адметнасці чужых думак і паводзін? Чаму?

Чаму мацнейшыя так хутка і бессаромна выкарыстоўваюць нашу часовую кволасць?

Чаму на Цябе, Мова, першы замах? Ці тыя, хто хацеў бы нас праглынуць цалкам, робяць гэта свядома ці інтуітыўна, пачаўшы менавіта з Цябе?

Варта было б прыгадаць лёс некаторых нашых суседзяў... Яшчэ ў пачатку XIX ст., калі раздзёртая Польшча знаходзілася ў палоне (паводле выразу К. Маркса) «трох разбойнікаў з вялікай дарогі»[231], вядомы дзеяч польскай культуры Юльян Урсын Нямцэвіч[232] падкрэсліваў, якое рашаючае месца зойме мова ў лёсе нацыі. Вось што наконт гэтага ён сказаў: «*Мова — аснова нацыі, ці, больш дакладна, уяўляе сабой адрозненне нацыі ад нацыі. Калі толькі сціраецца родная мова — гіне імя Бацькаўшчыны. Ніводзін народ не мае большай патрэбы стаяць на варце супраць гэтай пагрозы, як мы, палякі*».

---

[231] Пад «разбойнікамі» маюцца на ўвазе Расія, Аўстрыя і Прусія, якія падзялілі пры канцы XVIII ст. Рэч Паспалітую.

[232] **Юльян Урсын Нямцэвіч** (пол. *Julian Ursyn Niemcewicz,* 1757–1841), польскі пісьменнік беларускага паходжання, палітычны дзеяч, гісторык.

І нягледзячы на жорсткую дэнацыяналізацыю з боку іх суседзяў, палякі здолелі захаваць сваю мову, а пасля адраджэння іх дзяржаўнай незалежнасці зрабіць яе пануючай нават са шкодай тых славянскіх меншасцей, якія, прынесеныя ў ахвяру палітычным інтарэсам вялікіх дзяржаў, апынуліся ў межах міжваеннай Польшчы.

Польскі ўрад поўнасцю выкарыстаў усе адміністрацыйныя рычагі, каб «аднямечыць» тую частку польскага насельніцтва, якая, будучы ў складзе колішняй Прусіі, пачала адмаўляцца ад роднай мовы. Такім чынам урад, згодна з прынцыпам дзяржавастваральных працэсаў навейшага часу — *«не нацыя стварае дзяржаву, а дзяржава нацыю»*, выканаў сваю гістарычную місію, вярнуўшы Польшчы яе страчаных дзяцей.

Такую ж пазітыўную ролю ў стварэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў адыграў у 1920-я гады ўрад Беларускай Савецкай Рэспублікі, узнікшай амаль сумесна з адраджэннем польскай дзяржаўнасці. Так званая каранізацыя адміністрацыйнага апарату ці беларусізацыя грамадска-палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі знаходзілі падтрымку як цэнтральных улад савецкай дзяржавы, так і яе культурных устаноў. Здзейснілася такім чынам ленінская нацыянальная палітыка ў плане падтрымкі беларускага адраджэння з боку больш моцных нацый, перадусім — вялікага рускага народу.

Парушэнне ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнай законнасці, якое вылілася ва ўмовах Беларусі ў паляванне на нацдэмаў, абязвечыла працэс развіцця і паглыблення самасвядомасці беларусаў. Абяскроўленая беларуская культура пачала ажываць толькі ў пасляваенныя гады. Аднак неспрыяльныя ўмовы культу асобы прадаўжалі лажыцца ценем на працэс беларускага адраджэння. Спроба бараніць сваё, самабытнае, дастасаваць яго да патрэб сацыялістычнага будаўніцтва адвяргалася як спроба ўваскрашэння так званай нацдэмаўшчыны. Лёгка і беспадстаўна вешаліся ярлыкі «нацыяналізму» на тых, хто стойка трымаўся матчынай мовы. Партызаншчына, якая заліла амаль увесь адміністрацыйны апарат, свае метады вырашэння праблем перанесла і на кіраванне галіной нацыянальнай культуры.

Забітаму спрадвечным горам, стомленаму вайной і нястачамі беларускаму народу было абыякава, як вырашаецца пытанне беларускага адраджэння. Пакарміцца б удоваль, выбіцца б у людзі, стварыць як найлепшыя ўмовы для сваіх дзетак і не паўтарыць лёсу іх гарапашных дзядоў — дамінавала над патрэбай захавання нацыянальнай самабытнасці. Пытанні нацыянальнай мовы, дзіцячага сада, школы, друку адыходзілі на другі план. Закаранелае ў сялянскіх душах пачуццё «комплексу ўласнай непаўнацэннасці» стала саюзнікам тых, хто ўсюды дэманстраваў больш моцную і больш выгадную культуру пануючай нацыі. Імкненне дацягнуцца да яе, палепшыць свой побыт, закончыўшы вышэйшую навучальную ўстанову, прывяло да татальнага адмаўлення ад беларускай мовы.

Тэарэтыкі, узброіўшыся некаторымі яшчэ да канца не распрацаванымі палажэннямі «мовазнаўчых прац» вялікага правадыра, абаснавалі прагрэсіўнасць гэтага працэсу. У выніку пачалі падштурхоўваць яго так, што спроба ўзяць пад абарону родную мову стала дараўноўвацца да рэакцыйных поглядаў або пачало зноў пашырацца беспадстаўнае абвінавачванне ў нацыяналізме. Зноў павеяла цвілым пахам 1930-х гадоў… Сяды-тады практыкуецца паляванне на чараўніц… «нацдэмаўшчыны».

Каб спыніць ненармальную з’яву ў нашым жыцці, лічу неабходным правесці наступнае:

1. На варце стварэння спрыяльных умоў для прадаўжэння яшчэ незаконачанага працэсу беларускага адраджэння і далейшага развіцця беларускай мовы і культуры павінны стаць кіруючая партыя і сам урад БССР.

2. Беларуская мова ў рэспубліцы павінна стаць дзяржаўнай нароўні з рускай (і не толькі дэкларатыўна).

3. Не рабіць ніякіх перашкод у прапагандысцкай і арганізацыйнай рабоце на карысць беларускай мовы.

4. Вышэйшыя навучальныя ўстановы абеларусіць і стварыць лепшыя шансы пры паступленні ў спецыяльныя школы для тых, хто закончыў беларускія школы.

5. Прыняць закон, які будзе забараняць усялякае зневажэнне беларускай мовы і ўсіх тых, хто ёю карыстаецца.

Ажыццяўленне гэтых умоў будзе садзейнічаць умацаванню ў насельніцтве рэспублікі сапраўднага сацыялістычнага патрыятызму і трывалай дружбы беларускага народа з усімі братнімі народамі.

*(Каля 30 гадоў, беларус, філосаф з Брэстчыны)*

Звычайна мову мы адчуваем парадкам ніжэй, чым хацелася б, — не як з'яву духоўную, а якая перадаецца па спадчыне, як нейкую з'яву, больш матэрыяльную. Трэба перасягнуць нейкую мяжу, закрануць сувязь паміж духам, душой і моваю — на ўнутранай вібрацыі, адпаведнасці жыцця, яго сутнасці і мовы.

Гавораць пра «ўдасканаленне моваў». У чым будзе праяўляцца гэтае ўдасканаленне? Як? Ці на адным целе? Была ж некалі адна — індаеўрапейская. Быў ствол. Сталі галіны, сталі жывыя мовы — паўнакроўныя, дзейныя, якія занепадаюць, гінуць, квітнеюць. Чаму? Была ж адна — і гэта не задаволіла некага. Пачала яна ўдасканальвацца.

Хай нехта скажа: вось мая мова — тая, якая цяпер ужо не існуе — мёртвая. Вось мая радзіма — роспачы... прывязкі і сувязі. Родная мова... Мы гаворым на іншай мове, на мове, якую не разумеем... Чужыя гаворкі... Гаворым словамі, сэнс якіх страціўся... Яны асвойтаныя, але не родныя.

Мова чалавека. Я гэтыя словы засвоіў, але я іх не разумею. Страціліся карані, калі мова была родная. Адбыўся адрыў паміж сэнсам і гукам...

Любая жывая мова — штучная. Мы — у тарабаршчыне, у лухце, у сутарэннях. Мы апынуліся там, але не разумеем гэтага.

Родная мова там, дзе мы па сэнсе яе разумеем. Тут жа трэба ўсё тлумачыць. Родную мову трэба здабыць, яна яшчэ не ёсць. Тое, што ёсць, гэта толькі матэрыя, след, шлях да гэтай роднай мовы.

А то зацвердзілі, што чалавечае існаванне — адно адзінае існаванне, і яно апраўдвае неадчуванне вечнага.

Сцвярджайся — але не сцвердзішся. Кожны чалавек пераўзыходзіцца, але не сцвердзіцца. Калі сам не сцвердзіўся той сутнасцю, якая сцвярджаецца.

Родная… Гэта не азначае — дадзеная… як спадчына… Гэта родавае, але яшчэ не роднае. Калі б гэта было роднае, не трэба было б рухацца. Трэба было б замерці, скамянець. Калі гэта паўната, то не трэба руху. З паўнаты нельга выйсці. Мова — гэта як раз нейкі такі палец, які паказвае, кім мы былі, хто мы ёсць.

Мы занадта шмат захацелі — атрымаць жыўцом, гатовым тое, што ёсць творчасць. Пачынаецца драбненне — на пункты, падпункты: «рэдукцыянізм», «складанасць», «прымітывізм».

Мы адчуем, што мы ўжо ўсё страцілі, калі гэтыя пытанні набудуць сілу. Тады — на водкуп ужо мова будзе аддадзена.

А так яна пакуль што яшчэ выслізгвае, пераліваецца. Калі б яна паддалася навуковаму аналізу — тады ўсё, калі падпарадкаваць яе цалкам рэгламентацыі — тады ўсё.

А пакуль яна — як у нарачанскія месяцовыя ночы плывуць тыя вугры… у нейкія моры… выслізгваюць у іншаземнасці за трыдзевяць зямель у неспазнанае.

Інакш адымуцца нейкія інтуіцыі.

Пра мову нельга разважаць. Разважаць можна толькі мовай. Інакш гэта разважанні пра нейкія сітуацыі, але не пра сэрца мовы. Пра сэрца мовы можна гаварыць мовай толькі.

Але… Мы гаворым на мове, якую не разумеем. А мова, якую мы не разумеем, ці яна нам родная?

Не «непрастата», пра якую яны гавораць, а казеродства атрымліваецца, калі істота перастае разумець другую істоту. Тут твая тэорыя музычнага афармлення не падыходзіць: не трэба кранаць больш буйныя гарматы, калі гэта непатрэбна, бо яны твой слых паржжуць.

Большая прастата — яна больш складаная, чым тыя здані.

Ці яны думаюць пра мову — гэтыя людзі, якіх ты зачапіў? Ты сам — з аднаго боку, зацікаўлены, а з другога — як месяц халодны… Табе ўсё роўна — няхай сабе хоць заўтра сунуць яе ў торбу і некуды выкінуць… Ты адначасна — Буда і яго вучань, Хрыстос і апостал…

Той, хто застаецца на мяжы, — той усё абдымае, а хто ідзе — той абдымае часткова. Адно «Я» — вялікае, вечнае — пасылае сваіх двайнікоў у гэтыя сітуацыі. Але гэтае «Я» спакойнае, бо яно бачыць, куды яно іх пасылае…

Яны думаюць: ці ты проста прышпіліцца да гэтай справы вырашыў, ці то ўварвацца і абысці пярэдніх, ці то правакацыю якую ўчыніць.

Палюсы ў цябе — толькі халоднае і гарачае. Сярэдзіны няма. Толькі прырода і метафізіка — без псіхалогіі.

Патрэбна інтэрв'ю абсалютна староннягa чалавека, які б нешта духоўным розумам разумеў — і сказаў бы нешта… Каб ён быў анёл ці дэман… каб ён праўду адчуваў, менавіта праўду, толькі праўду.

У беларусаў заўсёды быў падспудны недавер да слова. Да слова расходнага, хадавога, бо яно заўсёды насычана ідэалогіяй. Ідэалогія — гэта заўсёды частковасць, непаўната.

А ў хвіліну нематы, якая настае, толькі гэтаму яны давяраюць. Ужо і цяпер гаворыць не вёска. Там гаворыць памяць. Чаму баба ці мужык гавораць на мове? Таму што імі гаворыць жыццё.

Родная мова якраз больш простая. А ў нас паўстае як аздоба, як афармленне, як афарміцельства.

А якія трэба будаваць складаныя рыштаванні, каб адбылося гэтае простае!

Непрастату, апранахі калі скінуць — тады і адбудзецца родная мова! Толькі тады.

А ў найбольшых складанасцях, ва ўзрастанні складанасцей — мы сутнасці не разумеем.

Калі гэты жыве ў бараку, гэты ў лодцы, а гэты пад лодкай, дык і гаварыце кожны на сваёй мове — барачнай, лодачнай, падлодачнай. Напластаванні, крупіны, якія тлумілі сэрца чалавека, яны тлумілі і мову. Стан мовы, тое, што бытуе, — гэта мліва, гэта нельга назваць роднай мовай.

Тое, што прысутнічае ў адным позірку, гэта можна зваць роднай мовай.

Тое, як гаварылі гадоў 300 таму, — ці ўспрымаецца гэта як родная мова? Значыць, успрымаем мы толькі нейкі стан мовы.

Родная мова — гэта не тое, што ёсць, але і не тое, што было. Гэта яшчэ не ўзважана, як інтуіцыя нейкая.

Багушэвіч разважае: чалавек, якому займае дыханне, адымае мову. З кожным адбываецца такое. Якая мова тады яму родная? Вымаўляльная? Ці тая, якую ён за жыццё вымаўляць не навучыўся? Можа, яна якраз у невымаўленні — родная?

Калі ўсе вялікія рэлігіі нацэленыя на тое, на тую мяжу — можа, сапраўды родная мова выступае тады, калі ў яго адымаецца мова?

Можа, ад Багушэвіча трэба ісці наадварот? Мо калі чалавек канае, тады і пачынаецца сапраўдная мова?

Мова, пра якую мы разважаем, яна толькі да мяжы, да сапраўднай мяжы.

Я не згодны з тым, каб прымаць нейкі стан за нешта непарушнае. Мо пасля мяжы чалавек толькі і пачынае разумець сапраўдны сэнс слоў.

Слоўнікі я паважаю больш, як мастацкую літаратуру. Таму што яны дакладныя, валодаюць сілай дакумента — каб зрабіць мову зразумелай.

На пачатку было Слова — гаворыцца… Але ж там прыступае і нейкі іншы сэнс: што гэта Слова ёсць і ў канцы. А мы — сярэдзіна нейкая. І хочам захаваць сябе і мову ў гэтай сярэдзіне. А гэта — несапраўдны занятак. «*Уваходзь у пачатак і набліжай канец*». Родная мова збываецца праз іх.

А пакуль што мы існуем не ў родным склоне, у не родным часе, у не родным стане, у не роднай мове…

*(25 гадоў, беларус, літаратар)*

Паміж людзей я быў, як прывід…
Мне музыка была пазнання мурам…
У смутку нехта ўспомніць пра мяне…
Але прыйшоў я, каб пра смерць падумаць толькі —
І задушыць сябе у вершах…
Вы мудрасцю не называйце боль!

Жывы я толькі адмаўленнем волі…
Усё натхненню аддаю,
Усё дасканалым заклінаю…
Мой лёс — усё падаць, падаць
У дол радкоў…

***

«*Мысль изреченная есть ложь*»…
Гэта праўда любой вымаўленай мовы…
А ці ж можа быць «лож» роднай?

***

…Бяссонніцай з'яўляецца мне смерці міг…

***

…Вось памяць засіляе сэрца,
І ноч нямая шэпча
чароўным прывідам спагады
мне, прыкаванаму да лёсу —
як да муру
на могілках маіх надзей…

***

…Заўсёды прада мною бездань…
…І ў свеце месяца лунае бэзаў дух…

***

Але хвіліну разарву я на мільёны эр —
і з попелу натхненняў зноў ствару надзею!
І скрозь бяздонне адмаўлення свету
з нямых радкоў
я ўзыду —
як кветкі няземных гармоній…

***

…І лашчыць золак языком
журботны ночы твар…

…Людзі не разумеюць адзін аднаго. Заўсёды ў іх — незавершаная камунікабельнасць.

Некалі мовы знікнуць увогуле, стануць помнікамі археалогіі. Будзе адкрытая свядомасць — прамы дотык нашых духоўных манад-экзістэнцый, нашых «я»…

Старажытныя грэкі не ведалі электрамагнітнага поля. Так і мы пакуль што яшчэ не намацалі «інтэлектуальнае біяполе», якое зробіць нашы душы адкрытымі, як твары, адчувальнымі неадчужана…

Вымаўленыя любой мовай, яны застаюцца самотнымі. Спадчыннай мовай зямной Радзімы яны, праўда, бы матуляй аблашчаны. Але нашы палі — нават нашы з табой! — пакуль што яшчэ рассеяныя…

Гэта дзіўнае, бяздоннае і вельмі крохкае слова — Радзіма. Штодзённы ўжытак зношвае яго,ператварае ў банальнасць.

Кожная чалавечая душа — антыпод Сусвету, водбліск яго. Сусвет — агульная Радзіма, усіх і заўсёды. Адкрытая свядомасць — праз «інтэлектуальнае біяполе» — гэта паглыбленне ў Радзіму, у Родную мову, у Вечнасць.

Але кожны народ павінен прынесці туды пялёстак зямной Радзімы, водбліск, водгук яе… праз мову спадчынную.

Навошта? Не ведаю…

Нейкім чынам, перачытваючы Алесевы словы, нашы мовы зямныя *«згушчаюцца, насычаюцца энергіяй, якая, як магніт жалезнае пілаванне, размяшчае»* іх па сваіх сусветных «сілавых лініях»[233].

…Кожны мае родную мову. Адвечна невымоўную. Шлях да яе — праз сцежкі, камяні, памыйні духу, праз смерць — у спадчыннай мове Радзімы…

---

[233] Гл.: Разанаў, Алесь. Малюнкі на нерухомай плыні // Маладосць. 1979. № 9. С. 183. — *Заўв. А. Б.*

# Перш, чым загарнуць…

*Алесь Адамовіч*

…Вы заўважылі, што беларускае слова ў горадзе часам робіцца «стыляжнай» адзнакай? Як наймаднейшае адзенне? Раней было для некаторых адзнакай вясковай неадукаванасці, цяпер — быццам адзнака, аздабленне элітарнасці.

Але і гэта, можа, усяго толькі парадыйнае праяўленне больш глыбокага працэсу — пена на новай, моцнай, даўно чаканай хвалі: да беларускай мовы гараджанін выходзіць ужо праз адукаванасць. І гэта вельмі важная адзнака часу. Ці не тут павінна быць галоўная кропка сённяшніх намаганняў нашай літаратуры. Калі мы хочам, каб кола чытачоў увесь час пашыралася.

Успомнім, што асаблівымі энтузіястамі збірання па ўсёй Беларусі помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культур — у выніку чаго створаны выдатны музей пры АН БССР — былі фізікі. Маладыя вучоныя-фізікі, і не толькі беларусы.

Гэта той працэс, якому літаратура наша дапамагаць, спрыяць зможа толькі ў тым выпадку, калі яна будзе адпавядаць самым высокім інтэлектуальным, духоўным, маральным запатрабаванням…

Будучыня літаратуры на беларускай мове — паверым Кузьму Чорнаму[234]! — на тым шляху, дзе магчымы «свае Карамазавы[235]», «з такой сілай».

Каму-небудзь мацнейшаму і з гістарычна іншай моўнай сітуацыяй можна і дазволіць сабе часовую затрымку на шляху развіцця, росту, узмацнення кантакту з чытачом — яны ні чытача, ні саміх сябе не страцяць. А страцяць чытача, дык пасля лёгка вернуць.

Для нас такое непажадана. Магло б адбыцца незваротнае…

---

[234] **Кузьма Чорны** (сапр. **Мікалай Раманоўскі**, 1900–1944), празаік, публіцыст.

[235] **«Браты Карамазавы»** (рус. «*Братья Карамазовы*») — апошні раман Фёдара Дастаеўскага, напісаны ў 1880 г.

…Тое моўнае мора, якое акружала гарады, улівалася ў гарады, як Вілія ўлівалася ў Свіслач, мора, на якім «плавала» літаратура ў часы Купалы, Коласа, Гарэцкага[236], Чорнага, — яно ўжо не тое…[237].

*Генадзь Тумас[238]*

**У храмах матчынае мовы**

Стагоддзяў глум і здзек згадай.
Душы тваёй крануцца словы
Найшчырых дум пра родны край.
І ціхі боль уласным шчасцем
Ты назавеш упершыню.
І боль душы не загрувасціш,
Адчуўшы храмаў чысціню.
І вера будзе не лятункам,
А вечнай праўдай для цябе.
Неспадзяваным паратункам
У неспадзяванай барацьбе.
Калі ж спатрэбіцца ахова,
Зрабі, каб не было руін
У храмах матчынае мовы
На той зямлі, якой ты сын[239].

*(21 год, беларус, студэнт БДУ)*

…Лёс мовы?
Будзе не так, як «гісторыя захоча»…
Будзе так — як мы зробім!

---

[236] **Максім Гарэцкі** (1893–1938), пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца, лексікограф, фалькларыст.

[237] Алесь Адамовіч. Усім ветрам адкрытая… // Беларусь. 1981. № 4. С. 14–15.

[238] **Генадзь (Яўген) Тумас** (нар. 1940), паэт, празаік, перакладчык.

[239] Гэты верш Генадзя Тумаса надрукаваны ў г. Ашмяны, у газеце «Краснае знамя» 15 студзеня 1977 г.

*Пімен Панчанка*

…Пакуль сонца не згасне,
Пакуль свецяцца зоры,
Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь![240].

[240] Пімен Панчанка. Верш «Беларусі» (1941) (Збор твораў: у 3 т. Т. 1. Мінск, 1967. С. 11–12).

# Мова
# (што *я* думаю пра цябе)

Перагарнуў апошнія старонкі кнігі «Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?». Кнігі, бо гэты рукапіс — гэта ўжо нешта такое, што адбылося, здзейснілася. Назнарок не кажу нічога пра дзве-тры папраўкі, якія зрабіў бы ў рукапісу я. Таму што, магчыма, іх зрабіў бы толькі я, і яны аніяк не могуць прэтэндаваць на «ўсеагульнасць».

Таму што цікавасць гэтай кнігі менавіта не ва ўсеагульнасці, а ў шматплыннасці, у мностве твараў жывой, сённяшняй чалавечай думкі. І менавіта ў гэтай цякучасці, сённяшнясці, адлюстраванні становішча, якое маем зараз, цяперашняга пункту гледжання на яго — галоўная каштоўнасць кнігі, складзенай А. А. Бембелем па цаглінцы на фундаменце і пад дахам, якія склаў, стварыў ён.

З самага пачатку згодзімся з аўтарам, які перафразаваў думку М. Глінкі, што *«мудрасць стварае народ; філосафы яе толькі аранжыруюць»*, і з сумнай, на жаль, часта справядлівай заўвагай, што гэтым яны яе почасту «толькі псуюць». З цалкам правільнай заўвагай аб двух узроўнях філасофствавання. Бо гэта праўда, што жывое спасціжэнне ісціны і існага кожнай чалавечай душой, незалежна ад *«прафесійнай вывучкі і заняткаў яе носьбіта»*, заўсёды куды больш жывое, часам куды больш глыбокае і заўсёды куды больш цікавае.

Таму што — магчыма, гэта толькі мая думка, ды я і не прэтэндую на непагрэшнасць, я не папа рымскі — філасофіі нельга навучыць, калі ў аб'екта няма свайго погляду на рэчы, свайго светаадчування, сваіх густаў і — тады ўжо гэта справа зусім безнадзейная — сваіх, непазычаных мазгоў.

А паколькі — па словах Мефістофеля[241] — разумнікаў, як тое быдла:

---

[241] **Мефістофель** — тут маецца на ўвазе персанаж філасофскай трагедыі «Фаўст» Ёгана Вольфганга Гётэ (1749–1832).

*Злы дух іх водзіць па стаптанай пашы,*
*Хаця навокал свежая атава*[242].

Паколькі кожная былка (чалавек) на гэтым поплаве на сваю асобіцу, паколькі яна — свой, непадобны сусвет, то поплаў (народ) — гэта сукупная непаўторнасць кожнай травіны. І калі чалавецтва — лес, то лес гэты ёсць сукупная непаўторнасць дрэў, а не сукупнасць тэлеграфных слупоў (хаця ніхто і не адмаўляе ім у пэўнай карыснасці).

Што думае кожны чалавек. Ёсць практыка збору рукапісных архіваў, рукапісных і друкаваных успамінаў розных асоб (каб яны з часам утварылі партрэт эпохі). Чаму не зрабіць практыкай збіранне думак кожнага, з якіх толькі і нараджаецца філасофія эпохі, калі яна жывая, а не мёртванароджаная.

Кніга «Што мы думаем…» — адна з першых (і таму асабліва карысных і патрэбных) спроб паднесці люстру да майго і твайго аблічча. І калі ў кагосьці з нас пыса крывая, то крыўдаваць не трэба, *«на зеркало неча пенять»*[243]. Ды і ўвогуле культурна і па-філасофску выхаваны сучасны чалавек на праўду крыўдаваць не будзе.

Калі Рыгору Скаварадзе[244] (Украіна, XVIII ст.), асветніку, дэмакрату і гуманісту, сказалі, што ён займаецца непатрэбшчынай і размоўнымі гулямі, жадаючы ведаць, што думае кожны чалавек па тым ці іншым пытанні, і што яму трэба гэта канчаць, бо ён пры яго талентах быў бы «стаўпом царквы», сей вандроўны філосаф адказаў з пункту гледжання жывой філасофіі: *«Досыць і вас, стаўпоў неабчасаных»*. А ён ведаў, што такое філасофія абстрактная, меў права сказаць пра сябе: *«Свет лавіў мяне, але не спаймаў»*.

Па-мойму — зноў жа толькі па-мойму — гэта адзіны шлях кожнай навукі: піць ваду не толькі з крана (кніг), не толькі дыстыляваную са шклянкі, але і заўсёды ісці да

---

242 Гётэ. Фауст. Мінск, 1976. С. 69. — *Заўв. А. Б.*

243 Пачатак рускай прымаўкі *«На зеркало неча пенять, коли рожа крива»*, якая была ўзятая эпіграфам да камедыі Мікалая Гогаля «Рэвізор».

244 **Рыгор Скаварада** (укр. *Григорій Сковорода*, 1722–1794), украінскі філосаф-містык, багаслоў, паэт, педагог.

крыніц, якія б'юць з роднага берага недзе пад тваёй хатай. Таму што ўсе мы — народ, і філасофія кожнага (і сукупнасць іх) — ёсць філасофія, мудрасць, а значыць, і справа народная.

З самага пачатку скажу, што праца А. А. Бембеля мне спадабалася не таму, што там сказана вуснамі людскімі добрае і пра мяне (адзіна вартая ўзнагарода, хаця, можа, яе і не трэба было, не заслужыў), а проста таму, што яна ўзняла жывое пытанне самога жыцця. Таму што яна не толькі сям-там гаварыла асабіста пра мяне добрае, але сям-там, зноў жа чалавечымі вуснамі, надавала мне асабіста такіх выспяткаў, што я аж дрыжэў ад абурэння і злосці (заслужыў і на тое і на другое). Думаю, што памяркоўныя, разумныя і культурныя людзі паставяцца да яе гэтак жа сама. Бо калі цябе хваліць парсюк, тады прызнайся, што ты і сапраўды «пляшешь» дрэнна. А калі ён цябе лае — гэта значыць, не ўсё яшчэ згублена.

І наадварот.

Таму, паставіўшыся да добрых слоў і да лаянкі талерантна, я спадзяюся, што маю права адразу ж выказаць і сваю думку, і свой погляд на рэчы і іх стан (а значыць, і на праблему кнігі). Гэта не прэтэндуе на глыбакадумнасць, гэта толькі думка «вандроўнага філосафа і збіральніка філасофіі людской». І таму пастаўцеся да яе цярпіма і бесстаронне, як я паставіўся да вашай.

Вось адна: «*Паміраць збірайся, а жыта сей*». І незайздросныя доля і слава ў тых, хто ў чаканні «страшнага суда» распрадасць, растрэнькае маёмасць бацькоў і сваю, закіне сваё поле, ляжа ў труну і будзе рыхтавацца, чакаць.

Ганьба яму і пагарда і ў сваім доме і ў чужым. Думаеце, сусед, які сее, будзе паважаць такога? Ды не! Ці яму патрэбен лішні работнік, найміт, на ягоным клапціку поля? Дудкі! Плюне ён толькі і скажа: «*Працуй. А наконт страшнага суда, дык гэта яшчэ бабка надвае варажыла*» («*бабка надвое сказала*» або «*na dwoje babka wrozyla, albo umrze, albo bedzie zyla*» — выбірайце той варыянт, які вам больш даспадобы).

Ну вось, цяпер, выказаўшыся проста, без двухсэнсоўя, я нібы падзяляю з аўтарам ягоны поспех (магчымы) і яго

адказнасць. І магу пагаварыць пра кнігу ягоную больш падрабязна. І няхай не надта злуюцца тыя, каго давядзецца зачапіць, а тыя, каго захочацца пахваліць, не так ужо надта скачуць. Па словах вашых мяркуюць пра вас, а вось уздасца вам — па дзеях вашых. А на іх яшчэ трэба будзе паглядзець.

Спачатку думкі тых, чыё слова ўжо канчаткова, на вялікі наш жаль, стала дзеяй і «абскарджанню не падлягае». А. Міцкевіч (ясна, што з яго, як з песні, слова не выкінеш, хаця ён і дарэмна рабіў толькі з нас адных няшчасненькіх, бо ўсе народы і ўсе гісторыі народаў былі гісторыяй прыгнёту і большай ці меншай галечы), Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Цётка, Ядвігін Ш., П. Глебка (агульнае ўражанне страшнае: сапраўды мароз па скуры і труба архангела).

І сучаснікі нашы, годныя людзі, якія (будзем спадзявацца і жадаць, каб гэта здарылася праз сто год) некалі таксама з гонарам скончаць свой шлях. Іначай жа нашто жыць?

Пасля Багушэвіча і Купалы і іншых такіх і сапраўды, здаецца, няма чаго казаць. Але гэта толькі здаецца. Занадта яшчэ моцна сядзіць у некаторых учарашні раб, і яму трэба паўтараць вачавіднае тысячу разоў, бо сорам у наш час і нашаму чалавеку хаця ў чымсьці быці добраахвотным рабом… А ёсць і простыя нашчадкі чарнасоценцаў з нейкіх там правінцыйных «лісткоў», якія лічаць, што пасля рэвалюцыі нічога не змянілася, што найлепшы шлях для кар'еры (бо таленту ж і змогі працаваць на службе Айчыне, «*не складваючы рук і не шкадуючы сілаў*», — няма) — гэта подласць і рэптыльнасць.

І ёсць такія, што, накшталт сына са старой байкі, які спытаў бацьку, як яму «*преуспеть в жизни*», і, атрымаўшы адказ «*служы радзіме*», сказаў: «*цяжка*», а на другую параду «*будзь флюгерам*» сказаў:

*Ах, нет, я не хочу быть с подлостью знаком.*
*Ни труд и ни порок меня равно не привлекают.*

На што бацька слушна адказаў:

*Тогда… тогда будь просто дураком.*
*Я слышал, многие из них преуспевают.*

Усё ж ёсць адзіна годны шлях: служыць айчыне да крывавага поту, не чакаючы ўзнагароды ад людзей і лёсу, проста таму, што іначай нельга. Іначай — сорам. І не апраўданне ганебнаму ўчынку ў тым, што *«яны самі так хочуць»*. Сорам — самім так хацець. І яшчэ большы сорам, спасылаючыся на гэта, на «аб'ектыўную» (хто гэта вызначаў, аб'ектыўна гэта ці не?) хаду падзей, на самой справе падпарадкоўвацца не сваёй думцы, а думцы нейкага дзядзькі. Свой «перамес» і праўда ж у сто разоў горшы за іншых.

Так, кніга балючая, кніга непрыемная (а хто хацеў ад літаратуры, ад філасофіі, каб яны «рабілі прыемна»? Мы не ў ложку, мы ў цяжкім рэйдзе, партызаны, дзеці і ўнукі партызанаў). Кніга непрыемная (і ліст «беларуса» з Масквы: раб прыкрывае сваё разумовае халуйства гучнымі словамі), але патрэбная. Як ланцэт лекара.

Бо мае рацыю аўтар, калі кажа пра *«бязлітаснае выпрабаванне на жыццяздольнасць»*. Сорамна не вытрымаць. І ніякі гуманізм (адзіны выпадак!) не апраўданне таму, хто паступіўся свядомасцю, што ён, чалавек, паступіўся сваёй высокай годнасцю чалавечай. Ніякае апраўданне, што гэта «дзеля карысці», «дзеля прагрэсу» — тут… прабачце… ніякае не апраўданне. Як, скажам, Каліноўскі, Сусанін[245], Альгіяці[246], Міхал Крычаўскі[247] ад болю заплакалі б і вы-

---

[245] **Іван Сусанін** (рус. *Иван Сусанин*, ? — 1613), рускі селянін, удзельнік вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскім княствам пачатку XVII ст. Паводле папулярнай версіі, быў узяты атрадам шляхты Рэчы Паспалітай у якасці праваднiка да вёскі Домніна, дзе знаходзіўся абраны на маскоўскі царскі пасад Міхаіл Раманаў. Аднак завёў атрад у непраходную багну, за што быў закатаваны.

[246] Маецца на ўвазе **Джэролама Альджаці** (іт. *Gerolamo Olgiati*, 1453–1477), чыноўнік-урадовец у Мілане, які браў удзел у забойстве герцага міланскага, тырана Галеацца Марыя Сфорцы (1444–1476).

[247] Маецца на ўвазе **Міхал Станіслаў Крычаўскі** (? — 1649), казацкі дзеяч, наказны гетман запарожскага войска, удзельнік паўстання Багдана Хмяльніцкага. Пра Міхала Крычаўскага ў кнізе Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» згадваецца наступнае: «*Пасля на дапамогу яму рушыў з Украіны 15-тысячны атрад казакаў і беглых сялян, на чале якога стаяў асабісты сябар Багдана, адзін з лепшых яго военачальнікаў і блізкіх саратнікаў, беларус Міхал Крычаўскі, у той час пераяслаўскі і кіеўскі палкоўнік. Пачалася шматдзённая сеча. Спа-*

далі, скажам, маці, бацьку, брата, таварыша. Прычым тады, калі перастала балець.

*«Лёс не толькі беларускай, але і ўсіх іншых нацыянальных культур і моў вырашаецца тут, на Беларусі».*

Правільна. І кепска, калі мы, гераічны народ (успомніце кожнага чацвёртага!), падамо ўсім кепскі прыклад. Самых слабых. Самых горшых.

Я не хачу належаць да ніводнага тыпу, акрэсленага на адной са старонак. Ні да «балота», ні да «эміграцыі», вонкавай ці ўнутранай. Не хачу і жыць у чужым выгодным сутарэнні, працаваць у сухой чужой шахце. Я хачу разам са сваімі шматлікімі братамі сумленна працаваць у шахце сваёй, ставіць падпоры са сваёй сасны, каб яны (і я) даўжэй жылі і працавалі. Без гэтага жыцця не мыслю, а калі давядзецца (немінуча!) адыходзіць з яго, то я хачу, каб труну мне зрабілі з роднай сасны. Я быў, думаецца, някепскім гарняком-крапільшчыкам і, думаю, заслужыў на гэта.

А наконт таго, ці шмат здолее адзін — тут не. Нават адзін здолее, калі да канца. І тут трэба выкарыстаць сябе як мага разумней. Бо і сапраўды, нашто мне інтэгрыравацца. Калі ўжо глабальная інтэграцыя, то інтэграцыя ўсіх (а й нудны жа ж будзе гэты свет, калі ўсе інтэгрыруюцца). Ты мужчына, таму аддай каму хочаш (людзям, лёсу, радзіме, жанчыне) душу, жыццё, сэрца. Але хоць гонар свой пакінь сабе. Не дазваляй нікому трымаць цябе за вусы, хай нават рэдкія. І нават калі здарыцца няшчаснаю воляю лёсу

---

*чатку ў полі, пасля за ляснымі засекамі. Прыкры выпадак дапамог амаль разбітаму Радзівілу: кавалерыя, пасланая ім адрэзаць Крычаўскаму шлях з Украіны (палкоўнік падмануў іх і абышоў), не знайшла яго, заблукала і… выйшла невядома як у левы фланг ватажка. Падбайлу, які спяшаўся на дапамогу, адкінулі да Дняпра. Уначы паўстанцам удалося таемна вылезці з завалаў і знікнуць праз лясы і балоты. Адзін маленькі атрад панству ўсё ж удалося дагнаць: тыя не маглі бегчы, везлі на возе ўсяго зраненага ва ўчарашняй сечы пераяслаўскага палкоўніка. Супраціўляліся шалёна. Крычаўскі, лежачы, страляў па нападаючых. Пасля выйшлі набоі, а казакі і сяляне, што біліся да апошняга, ляжалі вакол, пасечаныя. Здзіўлены смеласцю Міхала, Радзівіл прапанаваў яму пераход на службу. Крычаўскі плюнуў і раструшчыў сабе галаву ўдарам аб куты жалезам задок воза».*

горшае — трэба быць не Неронам[248] і не Мамурай[249] латыні, а яе славай.

Быць Катулам[250], Гусоўскім[251], Капернікам[252] (да іх, хочаш не хочаш, звяртаюцца і зараз), але прайграй са сваёй латынню мужна. А лепей не дапускай да гэтага, нізавошта, бо *«мёртвыя сораму не імуць»*.

…А ён рацыяналістычны, гэты «філосаф каля сарака». Аж агіда бярэ, такі разумны. Толькі розум не пакінуў там месца для душы, для гонару за сваё «я». Кажа пра дружалюб'е палітыкана і дзеяча духоўнай культуры. Прабачце, нешта не чуў. Бо не школа знішчае мову і не ўніверсітэт, а тое, што мы з іх зрабілі. Мы, адзінкі, надзеленыя духоўнай уладай і… рэптыльнасцю. Праўда, лягчэй за ўсё абвінавачваць бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў (пісьменнікаў там, якраз, кот наплакаў).

А вось «мастацтвазнаўца» — малайчына. Сапраўды, калі чалавецтва ідзе да спрошчанасці казарменнай — тады адна мова, калі да складанасці — мноства.

І «гісторык філасофіі» мае рацыю. Паказваючы карані хамства і іхні працяг-чартапалох… А што мы, беларусы, зрабілі ў літаратуры не «жалкую пародыю» — гэта зараз ужо і сляпому ясна.

І, галоўнае, у большасці выказванняў сапраўдная гаспадарчая заклапочанасць шляхамі мовы, культуры, бацькаўшчыны (лепшае, што даў новы час новаму чалавеку і

---

[248] **Нерон Клаўдзій Цэзар Аўгуст Германік** (лац. *Nero Claudius Caesar Augustus Germanicus,* 37–68), старажытнарымскі імператар (54–68), апошні з дынастыі Юліяў-Клаўдзіяў.

[249] **Марк Вітрувій Мамура** (лац. *Marcus Vitruvius Mamurra*), старажытнарымскі ваенны і грамадзянскі інжынер. Быў набліжаны на Цэзара, прыдбаў сабе зайздросныя багацці, першым пабудаваў палац з мармуру.

[250] **Гай Валерый Катул** (лац. *Gaius Valerius Catullus,* каля 87(84) — каля 54 да н. э.), старажытнарымскі паэт, адзін з найбольш вядомых паэтаў у эпоху Цэзара і Цыцэрона.

[251] **Мікола Гусоўскі** (каля 1470–1533), паэт, гуманіст, дзеяч эпохі Адраджэння. Найбольш вядомы яго твор — паэма «Песня пра зубра», напісаная на лацінскай мове.

[252] **Мікалай Капернік** (пол. *Mikolaj Kopernik*, 1473–1543), польскі навуковец, астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай тэорыі свету. Свае працы пісаў на лацінскай мове.

што мы не павінны згубіць). А за кожным выказваннем тых, хто «развенчвае» выпакутаваныя бацькамі каштоўнасці, — проста аж свеціцца духоўная (не хачу сказаць «разумовая») абмежаванасць. Заўтрашні «пажарнік», які ў Рэя Брэдберы[253] («451° па Фарэнгейту») пры спрыяльных абставінах паліць кнігі.

І як прыемна нават паспрачацца, нават не згадзіцца з «мастацтвазнаўцам, каля 30 гадоў», з чалавекам, які ўмее разважаць. Вядома, пакуль мы яшчэ сіла. І — сумная рацыя пра дзіцячыя садкі і іншае. Але таварыш памыляецца ў думцы, што беларусам «навязалі» паняцце аб нашай мове як «непрыгожай».

Не, яна і сапраўды непрыгожая… ад дрэннага ведання яе. Існуе няпісаны (і неабвержны) закон, які цудоўна ведаюць усе па-сапраўднаму адукаваныя і культурныя людзі: чым лепей ведаеш нейкую мову (і гэта можна сказаць не толькі пра мову, але і пра краіну, навуку, сяброў, многіх жанчын, мастацтва і г. д.) — тым больш яна прыгожая і значная. Польская шыпіць? Нямецкая брэша і гаўкае? Брахня! Якія яны мілагучныя… для тых, хто зведаў (і, вядома, калі вусны кажуць *«Der Freund»* (друг), а не «*erschießen*» (расстраляць); думаю, што апошняе слова і па-італьянску прагучыць для аб'екта гэтага дзеяння не вельмі прывабна).

Чым болей паглыбляешся ў кожную мову, чым лепей разумееш адвечную логіку яе законаў — тым яна большы ўзор прыгажосці і дасканаласці. Лаяць нейкую мову — азначае не ведаць яе. Ды яшчэ з самаўпэўненасцю, уласцівай непісьменнай тупасці, ганарыцца, што ты — цёмная бутэлька.

Лаяць, праўда, і на іншым, вышэйшым узроўні. Не так, як лае жанчын той, хто ніколі іх не ведаў, а як чалавек, які многа і шчасліва кахаў, часам пакеплівае з сапраўды каханай жанчыны, нават калі яна не Афрадыта[254], але дарогі табе ад яе — няма.

---

[253] **Рэй Брэдберы** (англ. *Ray Douglas Bradbury,* 1920–2012), амерыканскі пісьменнік. Адзін з найбольш вядомых твораў — антыўтопія «451 градус па Фарэнгейце».

[254] **Афрадыта** — багіня прыгажосці і кахання ў старажытнагрэцкай міфалогіі.

Байран[255] назваў сваю, англійскую, мову грубай і дзікай, сказаў, што яна звыкнула «*свісцець, шыпець, плявацца*». Але той жа Байран, напэўна, за прапанову здрадзіць ёй разбіў бы жартаўніку зубы (тым болей што быў першакласны кулачны баец). Ды яму, ведаючы гэта, ніхто і не пасмеліўся прапанаваць такое.

Прынцып такіх людзей: «*Я пан жартаваць сам з сябе. Але як нехта іншы паспрабуе нахабна пажартаваць — я здолею яго абарваць у адно імгненне*».

Па-мойму, гэта першы прынцып сапраўдных мужчын (з жанчын не жартуюць). І калі нехта яго не прытрымліваецца — што ж, значыцца, у яго няма ніякіх прынцыпаў… Ёсць беспрынцыповасць, узведзеная ў прынцып.

І іншыя галасы. Устрывожаны, мастака 32-х год, тым, што немаўля толькі праз мову звязваецца са светам, што выклікае трывогу стан, калі з дзіцячага садзіка прыходзіць маленькі вораг нацыянальнай культуры, адбываецца генетычная падмена і, у выніку, з'яўляецца духоўна хворы чалавек, што актуальнай становіцца тэма духоўнага жабрацтва.

Рабочага, які думае па-дзяржаўнаму, як акадэмік. І лепей за некаторых акадэмікаў. Настаўніка з Мядзельшчыны, які цалкам правільна сказаў аб голых прагматыках («*не трэба мовы, бо няма з яе выгады*»), якія забываюць, што мова — душа народа, і тут шукаць выгады — гэта блюзнерства над самым запаветным. І голас рускай, сацыёлага, з якога відаць, што гэта хаця і трошкі сухаваты, але *homo sapiens*. Або філосаф-эстэт, па думках якога адразу відаць, што не трэба было яго вучыць філасофіі, бо й так разумны. Хіба што вучоба прыдала ягонаму прыроджанаму розуму лоск і тонкасць у выслоўліванні (справа другарадная) і спрыт у аперыраванні вучонымі тэрмінамі (што і ўвогуле справа дзясятая). І вось што цікава ў адносінах да такога тыпу людзей. Ледзь чалавек выяўляе памяркоўнасць, жаданне зразумець, павагу да суседскага — адразу мешчанота пхае яго ў нацыяналісты (бо зручна, хутка і, у

[255] **Джордж Гордан Байран** (англ. *George Gordon Noel Byron*, 1788–1824), англійскі паэт-рамантык, драматург.

разумовым сэнсе, дзёшава і танна). Яго, рускага, — у беларускія нацыяналісты. Мяне калісьці (а быў 1950 год) — у нацыяналісты ўкраінскія.

Каб ганілі, атрымоўваецца, нічога б не было, нават добра было б.

Нявызнаныя шляхі твае, пане Божа!

Што ж, я нацыяналіст. Украінскі (як мала хто з украінцаў ведаю Т. Шаўчэнку[256]), польскі (Норвід[257] і Міцкевіч — браты мае), нямецкі (за Рыльке[258]), рускі (за ўсіх, ад Кантэміра[259] да Паўстоўскага і Шукшына), іспанскі (за Рысаля[260], Вальеха[261] і Лорку). «Усіхні» нацыяналіст і ганаруся гэтым ярлыком.

І шавініст. Па той прычыне, што жылі ў гэтым лепшым са светаў і рабілі яго далёка не лепшым, розенбергі[262] і гімлеры[263], мураўёвы[264] і ўласавы[265] і іншыя, няма ім ліку. І калі нехта падумае навесіць мне і гэта — буду ганарыцца і такім.

---

[256] **Тарас Шаўчэнка** (укр. *Тарас Шевченко*, 1814–1861), паэт, класік украінскай літаратуры.

[257] **Цыпрыян Каміль Норвід** (пол. *Cyprian Kamil Norwid,* 1821–1883), польскі паэт, драматург, празаік, мастак, філосаф.

[258] **Райнер Марыя Рыльке** (ням. *Rainer Maria Rilke,* 1875–1926), аўстрыйскі паэт-сімваліст.

[259] **Анцівох Кантэмір** (рус. *Антиох Кантемир*, 1703–1744), рускі паэт-сатырык, дыпламат малдаўскага паходжання.

[260] **Хасэ Рысаль** (ісп. *José Protasio Rizal Mercado y Alonso Realonda,* 1861–1896), філіпінскі асветнік і навуковец, іспанамоўны пісьменнік.

[261] Відаць, маецца на ўвазе **Сэсар Вальеха** (ісп. *César Abraham Vallejo Mendoza,* 1892–1938), перуанскі паэт, празаік.

[262] **Альфрэд Розенберг** (ням. *Alfred Rosenberg*, 1893–1946), нямецкі палітычны дзеяч, галоўны ідэолаг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай работніцкай партыі (*NSDAP*), ад 1941 г. — рэйхсміністр па справах усходніх земляў.

[263] **Генрых Гімлер** (ням. *Heinrich Luitpold Himmler*, 1900–1945), нямецкі палітычны дзеяч, рэйхсфюрар СС, у 1943–1945 гг. — рэйхсміністр унутраных спраў Германіі.

[264] **Міхаіл Мураўёў-Віленскі** (рус. *Михаил Муравьёв-Виленский*, 1796–1866), генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю ў часы задушэння паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

[265] Маецца на ўвазе **Андрэй Уласаў** (рус. *Андрей Власов*, 1901–1946), былы савецкі генерал-лейтэнант. Захоплены ў палон, перайшоў на бок нацыстаў. Узначаліў Рускую вызваленчую армію.

Разумею, што прынцып ананімнасці можа згуляць са мною кепскі жарцік. Сярод тых, каго хвалю, могуць апынуцца асабістыя мае ворагі (значыць, абставіны не дазволілі нам зведаць цану адно аднаму), а сярод тых, каго лаю, — сябры (значыць, прыкідваліся са мною або ненарокам, пад настрой, ляпнулі нечуваную дурасць). Але я тут хвалю не іх, а правільную думку, лаю не іх, а думку, ад якой на хвіліну не хочацца належаць да чалавечай грамады. І я раблю гэта не ананімна, так што хай ведаюць.

І таму скажыце гэтаму «беларусу, сацыёлагу трыццаці год», што «эліта», можа, і зарабляе на беларускай мове грошы, а «не эліта» — пачасту сінякі і інфаркт. «Сацыёлаг» проста знаходзіцца ў палоне мяшчанскіх уяўленняў аб тым, што паэты купаюцца ў грошах і з гэтай прычыны, на жаль, у палоне зноў-такі мяшчанскай зайздрасці і нянавісці да іх (пачуцці, якія не прыкрашаюць чалавека).

Брыдка гэта рабіць (чаму сацыёлаг павінен атрымоўваць грошы за сваю працу, а паэт — не?), але даводзіцца. Я не ведаю, дзе працуе гэты чалавек. Але, скажам, ён працуе ў АН БССР. Калі ён малодшы навуковы супрацоўнік без вучонай ступені, то ён атрымоўвае ад 140 да 165 рублёў у залежнасці ад стажу работы і іншых прычын. Калі ён кандыдат, то пасля пяці год працы — 150 рублёў, а пасля дзесяці — 175 рублёў. Калі ён кандыдат і старэйшы навуковы супрацоўнік, то адпаведна 210–230–250 рублёў (у адрозненне ад «сацыёлага», ніколі не лічыў чужых грошай і спраўкі пра іхнюю зарплату навёў пяць хвілін назад). У іншых інстытутах, у Кіеве, у Маскве могуць быць пэўныя разбежнасці, але мы бяром першы-лепшы выпадак.

Цяпер уявім сабе, што малады паэт (а па нашых разуменнях, ён малады, бо напісаў ніжэйпамянёны верш, калі яму было дваццаць тры гады — дваццаць чатыры павінна было стукнуць праз два тыдні) А. С. Пушкін прынёс у рэдакцыю часопіса «Нёман»[266] свой верш «Птичка».

*В чужбине свято наблюдаю*
*Родной обычай старины:*

---

[266] **«Нёман»** — літаратурна-мастацкі і грамадска-публіцыстычны беларускі часопіс, які выдаецца на рускай мове ў Мінску ад 1945 г.

*На волю птичку выпускаю*
*При светлом празднике весны.*
*Я стал доступен утешенью;*
*За что на Бога мне роптать,*
*Когда хоть одному творенью*
*Я мог свободу даровать!*

Рускі верш, і таму рускі паэт прынёс яго ў рускі часопіс. Але каб быў беларус і прынёс у беларускі — справа не змянілася б, стаўкі тыя самыя.

Рэдактар «Нёмана» А. П. Кудравец[267] чалавек разумны і зразумеў, што перад ім — Пушкін (а нехта мог бы і не зразумець), і таму вырашыў надрукаваць «Птичку» і аплаціць яе па стаўцы ганарару для маладых, рубель дваццаць капеек за радок. Шчаслівы паэт пастаяў ля ганарарнай касы і, купаючыся ў золаце (9 р. 60 капеек мінус падаходны падатак і падатак за бяздзетнасць), пайшоў — гуляем, брат! — у «Юбілейны»[268] (па думцы некаторых, нашы паэты адтуль не вылазяць).

Але, скажам, Пушкін у свае дваццаць тры ўжо лаўрэат і атрымоўвае па вышэйшай у перыёдыцы стаўцы, два рублі за радок. Тады ён выйдзе з шаснаццаццю рублямі ў кішэні. У кнізе лаўрэат Пушкін атрымаў бы за той самы верш дваццаць чатыры рублі, і больш няма, самая вышэйшая стаўка. Ну, але ж не адзін верш за год ён напіша?

Падлічым і тут. Кніг у гэтым годзе, наколькі мне вядома, ён не выдаваў, паэм — не пісаў. Не напісалася («Каўказскі палоннік» — 1822 г., «Бахчысарайскі фантан» — 1824, «Цыганы» — толькі напісана ў 1824 годзе, «Браты разбойнікі» — 1825 год).

Колькі ж ён зарабіў? Напісана адзінаццаць вершаў. *«Птичка», «Кто, волны, вас остановил», «Ночь»* (*«Мой голос для тебя и ласковый и томный»), «Завидую тебе, питомец моря смелый»* (бачыце, «питомцу» ён зайздросціць, а не яго ганарару), *«Надеждой сладостной младенчески*

---

[267] **Анатоль Кудравец** (1936–2014), пісьменнік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[268] Маецца на ўвазе **рэстаран «Юбілейны»** пры аднайменнай гасцініцы ў Мінску, цяпер на праспекце Пераможцаў, 19.

*дыша», «Демон», «Простишь ли мне ревнивые мечты», «Свободы сеятель пустынный», «Кн. М. А. Голицыной»* (верш відавочна альбомны, а не для друку), *«Телега жизни», «Жалоба».*

Нават калі б усе яны былі надрукаваныя — сто шэсцьдзесят восем радкоў. Як на маладога — і без кнігі — 207 р. 60 к. Як на лаўрэата і ў кнізе — пяцьсот чатыры рублі. За год!

Зайздросціць і кідацца гноем «сацыёлагу» відавочна няма чаго, па-руску ці па-беларуску піша паэт. Ён спытае: *«А чаму вершаў толькі адзінаццаць? Чаму не трыста адзінаццаць?»* Адказваем: *«Можна, мабыць, кожны дзень пісаць артыкул у газету, нават сацыялагічны, але нельга кожны дзень “выдаваць на гара?” “Свободы сеятель пустынный”. Дый артыкул, калі гэта не смецце, так не пішацца».*

*«А чаму б яму не пайсці на радыё, у газету, на тэлебачанне, у кіно?»*

А ты пайдзі. Зрабі. Пражыві з таго, што заробіш пяром. Большасць паэтаў, да ведама «сацыёлага» (кепскі ён, відаць, сацыёлаг, калі не ведае, колькі плацяць за радок і колькі каштуюць боты), ходзіць «у дэпартамент». А хто не ходзіць (адзінкі), зарабіў гэта права шматгадовым крывавым потам.

Можа, і ёсць такія, што «купаюцца ў золаце», што «мільянеры», але я асабіста з такімі не знаёмы. Грошай дарэмна ў нас (і нідзе) за працу не даюць, на якой бы мове ты ні пісаў. А ў «злодзеі ад літаратуры» (мабыць, ёсць і такія, як ёсць і «злодзеі ад сацыялогіі») пісаць працаўнікоў несумленна і брудна, селянін ён або паэт. А параўнаюць зарплату сярэдняга сацыёлага з ганарарам сярэдняга паэта (не тых, што пішуць левай нагой таўшчэзныя даследаванні і пульхныя паэмы, ад якіх мухі дохнуць) — староннія непрадузятыя людзі.

Не ведаю, ці піша «дзеля заробку» «сацыёлаг» (гледзячы на тое, як ён лічыць капейкі ў чужой кішэні — піша), але большасць паэтаў піша не дзеля рубля, а дзеля самавыказвання, таму што іначай не могуць. І самавыказваюцца па-беларуску, таму што на іншай мове яны, вядома, мелі б большую колькасць чытачоў, але не маглі б выказацца так глыбока, з поўнай аддачай, як на сваёй.

Або гэты, «беларус, журналіст паміж 40 і 50 гадамі» — гэта той самы аўтар «ліста з Масквы», толькі, здаецца нам, крыху больш разумны, бо можа затуманіць у галаве чытача або субяседніка просты сэнс складанымі (таму і здаюцца разумнымі) словамі.

Пра аўтара «ліста» («*Интересный человек пишет*») можа так сказаць толькі ягоны духоўны сабрат, чалавек у сутнасці глыбока нецікавы і «р-рэалістычны». Чалавек, які сам мысліць не хоча (а мо не можа).

Ведаем мы, за якім папугаем паўтарае ён словы, калі гаворыць пра *«беларускі патрыятызм, прынесены немцамі або палякамі»*. Вось кніга А. Рыціха[269] *«Обиженный край»* (Пб, 1911). Я не думаў, што мне давядзецца звяртацца да яе другі раз (у першы раз я ўзяў з яе кавалкі, каб паказаць духоўнага бацьку гэтага чарнасоценца, прафесара Руніна[270], якому ў «Каласах» Алесь[271] уладкаваў абструкцыю), але, відаць, руніны і рыціхі жывуць і не шманаюць. Цытую:

*«Русский коспомополитизм, марксизм, незнание России и её народа… взяли верх над государственной и национальной идеею. Общество не хочет и не может понять, что Россия может жить только с таким духом народа, как было при Царях Иоанне III[272] и Алексее Михайловиче[273]…» Необходимо попечение, «иначе он (край.* — У. К.*) легко может сделаться достоянием немцев, даже австрийцев и, чего доброго, поляков…». Жиды-шпионы «по шоссе от австрийской границы к Киеву и от Кенигсберга к Риге и Петербургу —*

---

[269] **Аляксандр Рыціх** (рус. *Александр Риттих*, 1831–1900), рускі этнограф, ваенны картограф.

[270] **Платон Рунін** — прафесар, персанаж гістарычнага рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

[271] Маецца на ўвазе **Алесь Загорскі** — галоўны герой гістарычнага рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

[272] **Іван III Васільевіч** (рус. *Иван III Васильевич*, 1440–1505), вялікі князь маскоўскі (1462–1505), у часе кіравання якога адбылося аб'яднанне значнай часткі ўсходнеславянскіх земляў пад уладай Масквы і абвастрыліся дачыненні з Вялікім Княствам Літоўскім.

[273] **Аляксей Міхайлавіч** (рус. *Алексей Михайлович*, 1629–1676), другі маскоўскі цар з дынастыі Раманавых, пры якім у выніку вайны з Рэччу Паспалітай да Маскоўскай дзяржавы адышлі Браншчына, Смаленшчына і Левабярэжная Украіна.

*по пути вражеской армии… всё на пользу вторгнувшегося войска…».*

А вось пра беларусаў: «*Пинчук, этот обитатель Пинских болот, с личностью, не похожею на человека, с ногами в виде колеса и непонятным говором, исчезает окончательно*» (сказаў бы ён такое паляшучкам Жэні Янішчыц і Веры Палтаран[274] або спевакам з Клетнага[275] і Тонежа[276]). А вось пра ўкраінцаў: «*К особенностям Юго-Западного края следует отнести появление там с 60-х гг. XIX ст. украинофильства, сильно теперь подогреваемого австрийскими агентами. Это дело с обществом Шевченки во главе (?), какою-то оперою Наталки-Полтавки[277] (?) и ограниченным числом фантазёров, полагающих, что Малороссия, малороссы, составляет что-то особенное со своим неразработанным наречием и своими чумаками…*» «*Как у немцев Германия превыше всего* (ад каго мы гэта яшчэ нядаўна чулі?)*, так у нас наш русский Государь превыше всего… Не пора ли бы напротив того войти в соглашение с Германией и окончательно присоединить к себе русскую Галицию по Сан[278]: Знай, ляше…*»

Не сорамна, марксіст (а пэўна ж!) сацыёлаг NN.

Але, можа, гэта адзін дурань Рыціх знайшоўся? Ды не, вось рускі гістарычны белетрыст XIX ст. растлумачвае пугачоўшчыну (!) «польской интригой». Вось сучасны культурны дзеяч піша пра Радзівілаў, «*говорящих по-польски с берлинским акцентом*» (княгіня Ізабела Радзівілова[279] жыве

---

[274] **Вера Палтаран** (у шлюбе **Ляпеская**, 1919–1989), пісьменніца, публіцыстка, літаратурны крытык, перакладчыца.

[275] **Клетнае** — вёска ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці.

[276] **Тонеж** — аграгарадок у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці.

[277] **«Наталка Палтаўка»** — украінская опера Мікалая Лысенкі паводле аднайменнай п’есы Івана Катлярэўскага, пастаўленая ў 1889 г.

[278] **Сан** (укр. *Сян*, пол. *San*) — рака ва Украіне і Польшчы, на іх памежжы, самы вялікі правы проток Віслы.

[279] **Ізабэла Радзівіл** (пол. *Izabella Róża Maria Antonina księżna Radziwiłłowa,* 1888–1968), польская арыстакратка. У часе Другой сусветнай вайны кіравала санітарным корпусам Мальтыйскага ордэна, за што мела ўзнагароду.

сабе ў Варшаве, узнагароджаная за падполле ордэнам «Віртуці мілітары»[280], па-нашаму Герой Савецкага Саюза).

Дзіўна неяк дажыць да год «паміж 40 і 50-ю» і не нажыць ні сумлення, ні розуму. Ды ўрэшце застацца проста элементарна непісьменным. Філіповіч — *«адзіны беларускі мастак»*?

Словам, заклікае да сур'ёзнага падыходу да справы, а сам несур'ёзны, чужых вяршкоў нахапаўся, нічога не ведае пра культуру народа, да якога належыць па пашпарце і сярод якога жыве.

А як вынік гэтага неразумны і, як кожны такі, небяспечны.

Бо працуе на карысць ворагаў нашага мыслення. Ім дае козыры ў рукі, а братам і таварышам робіць мядзведжую паслугу.

И как отдыхает душа, когда после этого «белоруса» слушаешь русского, учителя, которому хочется, *«потеряв на минутку тайну своей души, вселенскую тайну»*, ответить на его языке (как ответил бы и на любом другом). Ибо он мне больше брат, чем вышеуказанный «белорус». Я бы сказал: *«прожжённый белорус»*.

І якія розныя людзі! Якія непадобныя! З памылкамі і з азарэннямі! Як з імі цікава! Не тое што з некаторымі «падкутымі», якія лічаць, што таму маюць права брыкацца і менавіта *«адштурхоўваюць частку народнай інтэлігенцыі і даюць зброю ворагу»*.

Во глядзіце, куды ўсё ж ідуць самыя таленавітыя? Да сваёй культуры і мовы — часцей за ўсё. Да суседняй — радзей (і Твардоўскія[281] сярод іх шчаслівае выключэнне). А збольшага, калі адрываецца ад свайго, — прыстасаванец (не хачу сказаць «рэптылія») накшталт вышэйпамянёнага культурнага журналіста.

---

[280] ***Virtuti Militari*** («Вайсковай доблесці») — польская вайсковая ўзнагарода, прызначаная за выбітныя баявыя заслугі, заснаваная ў 1792 г. Паводле іншых звестак, Ізабэла Радзівіл была ўзнагароджана Крыжам храбрых (пол. *Krzyż Walecznych*).

[281] **Аляксандр Твардоўскі** (рус. *Александр Твардовский*, 1910–1971), рускі савецкі паэт.

Аўтар мае рацыю. Найбольшая «культурная каштоўнасць» — мова. То вось і зберагайце яе («Канстытуцыя БССР», Мн., 1978, с. 22). І тут погляд аўтара ледзь не адзіна правільны.

Ёсць і трохі недадуманае. «Творчую радзіму» чалавек не выбірае. Яна выбірае яго, калі ён разумны і ўмее прыслухацца да сябе. Не толькі Ян Баршчэўскі, але ўспомнім «гімназічна-альбомныя» вершы М. Багдановіча па-руску (а ён жа «вучыўся Беларусі» па кнігах, а «вучыўся Расіі» ўсімі абставінамі жыцця). Яшчэ пацверджанне — Пушкін. Французскія вершы ягоныя (хаця ён сам прызнаваўся, што пісаць па-руску яму было *«ўсё ж такі цяжка»*) не ідуць па якасці ні ў якое параўнанне з яго рускімі вершамі (тое самае і ў Шаўчэнкі). Так што выбірай, нават калі ты часталюбівы (а з такіх пераважна і выходзяць «асвечаныя касмапаліты»): быць пасрэднасцю на мове суседа або нечым значным на сваёй. А «значны» гэта азначае «значны для многіх», калі б нават на тваёй мове гаварылі сто чалавек.

Выключэнняў я амаль не ведаю (Шамісо[282]? Конрад? Яшчэ пару чалавек — вось, бадай, і ўсё). Калі, вядома, не лічыць «ірландцаў па крыві» — ад Свіфта[283] да Уайльда[284] і Шоў[285]. Але там была традыцыя, карані якой у Сярэдневякоўі. І, дарэчы, «ірландцаў і шатландцаў» (Маршаку[286] жартам прапанавалі перакласці Бёрнса[287] *«назад на английскую»*, каб англічане маглі разумець, але забыліся, што (можа) без «шатландскай гаворкі» Бёрнс не быў бы цікавы ні англічанам, ні рускім, нікому) нашаму брату бывае чытаць пачасту цікавей, чым некаторых «чыстапародных» англічан.

---

[282] **Адальберт фон Шамісо** (ням. *Adelbert von Chamisso*, 1781–1838), нямецкі асветнік, вучоны.

[283] **Джонатан Свіфт** (англ. *Jonathan Swift,* 1667–1745), англа-ірландскі пісьменнік.

[284] **Оскар Уайльд** (англ. *Oscar Fingal O'Flahertie Wills Wilde,* 1854–1900), ірландскі пісьменнік, паэт, крытык, драматург.

[285] **Бернард Шоў** (англ. *George Bernard Shaw,* 1856–1960), ірландскі пісьменнік, драматург.

[286] **Самуіл Маршак** (рус. *Самуил Маршак*, 1887–1964), рускі савецкі паэт, драматург, перакладчык.

[287] **Роберт Бёрнс** (англ. *Robert Burns,* 1759–1796), шатландскі паэт, фальклярыст.

Ох, як трэба быці ўважлівым да кожнага слова. Нават да «подпісу ў мастака». Вось вялікі рамантызм літоўска-беларускага памежжа ў Чурлёніса[288]. І раптам, у хвіліну слабасці (іначай не назавеш, бо самыя складаныя паняцці такі мастак, як Чурлёніс, мог перадаць праз фарбы і лініі, а тут вырашыў «абысціся танна», падмацаваць словам — а мастакі твораць рукой і душою, а ніяк не словам; гэта за іх, часта няўдала, робяць крытыкі), перадае на палатне (!) словы Бога (!) у момант стварэння сусвету (!): «*Stan sie!*»[289].

Бог (а бацька мастака — касцёльны арганіст) самыя важлівыя свае словы (дзеля якіх яго і шануюць) сказаў на мове пераважнай большасці тых, што адпачывалі тады ў модных Друскеніках[290]. Ну а на якой мове сказаў бы ён гэта зараз? Хто пераважае там зараз?

Не-е, тут нешта не тое. Бога ў гэтыя справы ўблытваць не варта. Але свае чалавечыя адносіны да створанага табою свету — можаш і павінны.

…Гучаць і гучаць дзясяткі розных, непадобных, часам супярэчлівых галасоў.

Паэтава супярэчлівасць. Па-руску ёсць і іншае адценне сэнсу: «*противо-речь-е*». І адна «рэч» супярэчыць другой, а адна «*речь*» — іншая.

*З нямых радкоў*
*я узыду.*

Мы верым гэтаму. Але, пакуль тое, «нямыя радкі» выказваюцца… па-беларуску.

У кнізе маса глыбокіх і цікавых думак. Цікавых, бо новых і ўпершыню ў такім аб'ёме сабраных у адно. Думак, якія карысна ведаць і дзеячу вытворчасці, і дзеячу культуры, і дзяржаўнаму дзеячу. І за кожнай думкай жывая душа, і многім такім душам спачуваеш. Бо гэта каструбаватая, з усіх бакоў узятая, голая праўда, падабаецца яна мне ці не.

---

[288] **Мікалоюс Чурлёніс** (літ. *Mikalojus Konstantinas Čiurlionis,* 1875–1911), літоўскі кампазітар, мастак, дырыжор, культурны дзеяч.

[289] ***«Stań się!»*** (пол.) — стань, будзь.

[290] **Друскенікі** — цяпер **Друскінінкай** (літ. *Druskininkai*) — горад і курорт на поўдні Літвы.

Так думаюць людзі. А гэта заўсёды трэба ведаць.

Вось скардзіцца дзяўчына сямнаццаці год. Ёй здаецца, што яна ў пытанні, якое ўздымае кніга, няшчасная. Дурненькая, сотні людзей пачыналі пазней за цябе. Той самы Купала. Ты яшчэ сто разоў можаш зрабіцца шчаслівай. Ніколі не позна.

…Настаўнікаў такіх сапраўды ад школы, ад дзіцячай душы паганай мятлою трэба гнаць. Продкі мелі рацыю: *«Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць»*. Як не прыняць, калі на тваю карысць? Але здрадзіў ён іншым — жорстка здрадзіць і табе. Абапірайся на цвёрдых, сумленных, хай непакорліва-самастойных, але непадкупных.

Прыехаўшы ў суседнюю краіну, я стараюся гаварыць на яе мове. Калі дужа захачу — бывае, што й досыць паспяхова. Бо не хадзі са сваім статутам у чужы манастыр. Хай кепска, але старайся гаварыць на мове гаспадара, тады ён цябе паважаць будзе: *«Добры чалавек, стараецца хоць слова па-нашаму сказаць. Пэўна, і сваю мову паважае, пэўна, яна — вартая таго»*.

Мае рацыю настаўнік з Мядзельшчыны: *«Людзі, якія забыліся сваё мінулае, сваю культуру, сваю мову, ператвараюцца ў табун, які жадае толькі аднаго — набіць бруха або кішэню»*. На жаль, праўда. І, на жаль, гэтая чарада сямтам расце. А верыць такім нельга. І паважаць няма за што. А наконт *«у раи воздастся»* — чулі мы гэтыя байкі пра райскую канюшыну.

Або вось жанчына «са сферы сервісу»: *«Калі мільёны адмаўляюцца — што ж тут адзінкі зробяць?»* Псіхалогія адчаю і духоўнай ніцасці. Ну а каб А. С. Грыбаедаў[291] не пытаў:

*Воскреснем ли когда от чужевластья мод?*
*Чтоб умный, добрый наш народ*
*Хотя по языку нас не считал за немцев.*

Каб уся інтэлігенцыя не спытала так — дзе была б Расія? Каб Месроп Маштоц[292] тысячу пяцьсот год таму не пры-

---

[291] **Аляксандр Грыбаедаў** (рус. *Александр Грибоедов*, 1785–1829), рускі пісьменнік, дыпламат.

[292] **Месроп Маштоц** (каля 362 — 440), армянскі мовазнаўца, стваральнік армянскага алфавіту, пачынальнік армянскай літаратуры.

думаў алфавіта — дзе была б Арменія? Каб адзінкі з «блакітнай ружы» не гінулі — дзе быў бы гонар гётэўскай Германіі?

Адзінка толькі тады «нічога не можа», калі яна— амёба (ды й тое можа; скажам, можа, каб горад вымер ад дызентэрыі, калі ты амёба — носьбіт гэтай заразы). Або проста носьбіт рэптыльнай баязлівасці.

Ёсць там у кнізе адзін такі «вучоны за семдзесят год». Хаця — ну чаго табе баяцца? Табе за семдзесят, і нават калі б, крый Божа, нейкі звар'яваны гітлер[293] здолеў бы на нейкую гадзіну захапіць уладу ў тваім доме — што ўжо асабіста табе? Хаця? Калі за семдзесят год не здолеў зрабіць нічога добрага і годнага, тады, мабыць, і хочацца зберагчы жалю вартыя рэшткі мала каму, акрамя цябе, патрэбнага жыцця. Бо пры жыцці хоць сусед ці пляменнік помняць (грошай пазычыць), а хто ўспомніць пасля смерці? І вось гэты «за семдзесят» б'е ў пастронкі і закачвае ад невытлумачальнага жаху вочы:

*«Я не хочу к этой проблеме иметь никакого отношения!.. Я не хочу быть к этому делу причастен ни в коей мере».*

*«Сколько, например, общих слов в белорусском и русском языках — это проблема».*

*«Считайте, что я ничего не читал и что мы с вами ни о чём не говорили… Кому передать ваши "материалы"?»*

Я ведаю, што гэтым «падпісаным» артыкулам прыдбаю сабе шмат «ананімных», невядомых мне ворагаў. Нічога, суцяшае тое, што я прыдбаю ім яшчэ болей невядомых мне сяброў. Часам, вядома, шкада, што з табою гавораць ананімы. А вось у вышэйпамянёным выпадку — не. Каб сам так думаў, то «ананімовасць» была б дабротай Божай. Як і шчыт «антымарксізм», якім часцей за ўсё прыкрываюцца якраз бесхрыбетныя, то-бок той матэрыял, з якога марксіста не збудуеш.

---

[293] **Адольф Гітлер** (1889–1945) — заснавальнік нацыянал-сацыялізму, правадыр Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі, у 1933–1945 гг. — рэйхсканцлер, у 1934–1945 гг. — фюрар Германіі.

Шчыт мяшчанства, якое нічога не ведае і, галоўнае, нічога не хоча ведаць. І, сапраўды, вось такія «вырашаюць»: «*быць ці не быць*» беларускай мове?

Думайце пра свае бранзалеты, а мову пакіньце ў спакоі. Ёй, з гэтай прычыны, нават лепей будзе.

Вось толькі вашы дзеці? Але вы іх і так сапсулі прагнасцю і філасофіяй «хлебаеда». Дык псуйце ўжо да канца, калі не знойдзецца на іхняй дарозе добрых і мудрых людзей. А яны, хочацца думаць, знойдуцца.

Горкая праўда, вядома, што ёсць «*радетели*», якія часам «*радеют на публике*». Ну, а ты, прапагандыст «*каля 50 гадоў*», за што «*радееш*ь» ты? «Беларус», а нянавісць да крывадушнікаў распаўсюджваеш на мову маці сваёй. Як той унцер, які, вярнуўшыся з арміі на вёску, ішоў паўз матчыну хату і на заклік: «*Сыночак, дык, можа, зайшоў бы*» — адказаў: «*А чьёрт вас знает, игде вы тут живьёте*».

Затое ўжо як сустрэнеш чалавека, дык гэта чалавек. І не таму, што сям-там прыхільна кажа пра маю асобу. Гэта справа дзясятая. А проста відаць чалавека, які шмат адчуваў, шмат думаў і думае і шмат пакутаваў. Нават каб не гісторыя з яе маленькім, ад якой у мяне аж усё сціснула.

Можа, вось ёй бы не ў гідрабіёлагі, а ў пісьменнікі. Мала, праўда, сапраўдных пісьменнікаў жанчын. Не іхняя гэта справа. Іхняя справа жыць, быць шчаслівымі. Але як шмат цярпела, то тады з яе атрымоўваецца, як І. Франко[294] пра Лесю Украінку[295] сказаў: «*Адзіны мужчына на ўсю навачасную саборную Украіну*».

І менавіта не з той яна інтэлігенцыі, пра якую так правільна сказала.

І, як завяршэнне, два фрагменты.

---

[294] **Іван Франко** (укр. *Иван Франко*, 1856–1916), украінскі пісьменнік, публіцыст, навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч, удзельнік рэвалюцыйнага сацыялістычнага руху ў Галічыне.

[295] **Леся Украінка** (укр. сапр. *Лариса Петрівна Косач-Квітка*, 1871–1913), украінская пісьменніца, перакладчыца, культурная дзеячка.

Студэнтка 21 года:
*…Лёс мовы?..*
*Будзе не так, як гісторыя захоча…*
*Будзе так, як мы зробім!..*

І радкі Пімена Панчанкі:
*…пакуль сонца не згасне,*
*Пакуль свецяцца зоры,*
*Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!..*

А пад імі дата *«1941»*.

Калі тады так думалі, то цяпер іначай думаць — сорам!

Ці, можа, мы можам думаць па-сапраўднаму толькі тады, калі нам зальюць гарачага сала за скуру?

Не, з усёй адказнасцю думаю і кажу, што не.

І маю права на гэта.

Таму што сам вярнуўся да сваёй мовы. Ведаючы і іншыя, як сваю (некаторыя, можа, на самым пачатку, нават у нечым лепей), аднойчы зразумеў, што сапраўды свая сярод іх толькі адна.

Як я распарадзіўся гэтым разуменнем — хай судзяць людзі.

*27 студзеня 80 г. 21 г. 16 хв.*

# Рэдакцыйны P. S. да другога выдання

*Уладзімер ДУДЗІЦКІ*

**Роднае слова**

Я ня жыў безь цябе.
Шанаваў і сьцярог,
лашчыў ласкай
і казкай лясною,
каб ня ўмерла,
крый Божа,
ля чорных дарог
Беларускае роднае слова.

Не згінайся, малю я,
расьці і жыві.
Будзь і сокам,
і звонам вясновым,
але ў сэрцы маім,
у іскрыстай крыві —
Беларускае роднае слова!

Кожным гукам зьвіні,
пладзі песьню-красу.
Ты —
жыцьця майго
скарб і аснова!
Як малітву, цябе
у сусьвет панясу —
Беларускае роднае слова.

# Галасы сучаснікаў пра аўтара і кнігу

* * *

У свой час кніга Алега Бембеля (я і мае сябры-аднадумцы ўжо ведалі яго як таленавітага паэта, што ствараў пад псеўданімам Зьніч) сталася сапраўднай падзеяй для ўсёй, тады яшчэ нешматлікай беларусацэнтрычнай супольнасці. Гэтая праца была наватарскай і ўадначас «крамольнай», пачынаючы ўжо з абраных аўтарам тэмы і методыкі даследавання. І тэма рэальнага стану беларускай мовы ў БССР, і праведзенае Бембелем шырокае анкетаванне ўжо самі па сабе былі мужным выклікам афіцыйнай прапагандзе і сацыялогіі. У кнізе рэзка крытыкавалася савецкая моўная і ўвогуле нацыянальная палітыка, а таксама даваліся заслужаныя негатыўныя ацэнкі дзеячам, якія паводле свайго становішча павінны былі займацца абаронай і развіццём нашай мовы, а, па сутнасці, выконвалі ролю яе далакопаў.

Але Бембель не абмежаваўся канстатацыяй набліжэння да сапраўднай моўнай катастрофы і патрыятычным пратэстам супроць русіфікацыі. Ён навукова абгрунтаваў ролю роднай мовы як галоўнага і неацэннага сродку адраджэння духоўнасці асобы і ўсёй нацыі.

Памятаю, як машынапісная копія кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», пераходзячы з рук у рукі, чыталася ў нашым наваполацкім літаратурным аб’яднанні «Крыніца», з якога, дарэчы, выйшаў не адзін дзясятак прафесійных літаратараў, імёны якія сёння вядомыя не толькі ў Беларусі. Праца Алега Бембеля была тады для нашага асяроддзя, вобразна кажучы, гаючым глытком азону, яна сведчыла, што нас — значна больш, чым уяўлялася ў хвіліны роспачы і паняверкі.

Агульнацывілізацыйныя і беларускія выклікі XXI стагоддзя актуалізуюць высновы Алега Бембеля, зробленыя амаль пяцьдзясят гадоў таму. Родная мова ўспрымаецца цяпер як «ціхая», але магутная зброя, якая захоўвае нацыянальны імунітэт, якая здольная абараніць межы дзяржавы лепей за армію.

*Уладзімір Арлоў*

## Алег Бембель: мова, музыка, асалода

Напачатку была музыка. Чалавек з доўгімі сівымі (?) валасамі, больш падобны да мніха, чым да сына вядомага савецкага скульптара, граў Шапэна. Гэта Зьніч, сказаў хтосьці паўшэптам. У шараговым савецкім жыцці Алег Бембель. Былы выкладчык музыкі, былы аспірант філасофіі, былы камуніст.

Потым паэзія. Мы пілі віно ў невялікай утульнай кватэрцы на скрыжаванні Нямігі і Машэрава, у Дубянецкіх, і ён прамаўляў «радочкі», імправізуючы на матывы класічных вершаў.

Ён быў вандроўнікам, тулягам. Хаваўся ад улады ў псіхічнай лякарні («які я быў дурненькі, там толькі горш»), збёг у Піцер, дзе сышоўся з «ня-тымі» паэтамі («як казаў мой добры прыяцель Віктар Крывулін»), вярнуўся не адзін («знаёмцеся, гэта мая сяброўка Кёні»).

Потым паўстала кніга. З пасляслоўем Караткевіча, але выдадзеная там, у Лондане. Хто перадаў — невядома, дый неістотна. З яе пачаўся непазбежны сыход уніз (ці насамрэч ўверх?) яе аўтара: выгнанне з Акадэміі, блуканні ў пошуках сябе, паэзія, праваслаўе, дысідэнцтва і другая культура.

Назва, праўда, зусім не ўражвала. «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс» — гучала занадта па-савецкі. Але ўнутры ўсё было як трэба. Людзі, абазначаныя толькі прафесіямі, гаварылі пра сябе, пра сваё жыццё. Гаварылі праўду, тое, што насамрэч думалі, пра тое, што з імі насамрэч адбывалася. Пра мову. Як яны яе знаходзілі. Ці, наадварот, гублялі. Пра вёску і горад, Купалу і Багдановіча, навуку і супольную будучыню.

Гэта была рызыка, у спрэс разлінаваным і кантраляваным познесавецкім грамадстве, але яны былі абароненыя. Неабароненым быў толькі аўтар. Складальнік. Які пісаў, даводзіў, угаворваў, што гэта ніякая не крамола. Не дысідэнцтва. А самы што ні ёсць мэйнстрым. Народная філасофія.

Кніга ўзарвала глузды як уладзе, так і некаторым мінскім асяродкам. Яна была не толькі пра мову і русіфікацыю. У ёй былі ўжо бачныя ўсе тыя складнікі, што выйшлі на паверхню беларускага грамадства пасля камунізму.

Культурныя эліты, якія хацелі, патрабавалі сваёй культуры. Адрознай, высокай, сучаснай, у згодзе і працягу з папярэдняй традыцыяй. А не каланіяльнага кітчу, псеўданародніцкіх культур-імітацыяў на радасць усходняму суседу.

Інжынеры і адміністратары, якія былі нібыта не супраць, хаця не да канца разумелі  навошта, калі ўсё і так добра.

Моладзь, што стаяла ўва ўвесь рост, не прыгіналася і не выбірала словы. Якая выстаўляла рахунак папярэднім пакаленням каланізатараў і прыкарытных («вы ў нас скралі мову сваім згодніцтвам, сваім маўчаннем»).

І звычайныя, шараговыя мінакі, тутэйшыя, якія не вызніваліся, не аддзялялі сябе ад наяўнага. Якія навучыліся адаптавацца да ўсялякага надвор’я, супадаць з якойколечы ўладай. І таму нерваваліся, што зноўку прыйдзецца нешта мяняць, шукаць сабе новыя ролі і новыя маскі.

Усё гэта сутыкалася, перапляталася, шукала словы і аргументы. У тэатры ідэнтычнасці аднаго асобна ўзятага грамадства.

Унутраны драматызм быў вытрыманы ідэальна.

Голас традыцыі і культуры («пісьменнікі пра беларускую мову»). Антытэза рэальнасці («рамашкавае» бяспамяцтва ў цэнтры сталіцы). Цынізм і нацыянал-абыякавасць (ліст маскоўскага беларуса пра тое, што ўсё памерла). І галасы жывых, «нягледзячы на ўсё гэта». Эмацыйныя, разважныя, асцярожныя і рэвалюцыйныя. З кожным новым голасам, з кожным наступным маналогам штосьці змянялася ў паветры. У прасторы кнігі. І ў свядомасці чытачоў.

Усё гэта скончалася каментарам (рэплікай? катарсісам? палемічным трактатам?) Уладзіміра Караткевіча. Які збірае ўсё ў адно, акцэнтуе і ўзмацняе. Перакладае на музыку.

Усё разам — ідэальны твор. Ніводнага лішняга слова. Ніводнай фальшывай ноты.

Кніга міжволі сталася аўтапартрэтам беларускага грамадства. Балючым, трагічным, але і аптымістычным. Гэтае грамадства было русіфікаваным, заціснутым, зацкаваным чужой уладай. Але пры гэтым жывым і дынамічным. І галоўнае, зусім не мёртвым.

Яно расло і нараджала новыя формы.

Напрыканцы васьмідзясятых гэтае грамадства выбухнула Дзядамі, Мартыралогам, мастацкай нязгодай і рабочымі маршамі. Вярнула сабе сваю гісторыю і сваю культуру.

Саму кнігу, праўда, так і не перавыдалі. Тады, на руінах старога ладу. Аўтару не далі прэміі ці медаля. Але не гэта галоўнае.

Галоўнае — паспець вярнуцца. Вярнуць згубленае.

А далей — асалода.

Ад мовы. Ад музыкі. Ад свабоды.

*Ігар Бабкоў*

* * *

Пра кнігу Алега Бембеля я даведаўся ад аўтара, мабыць, у 1981 годзе, калі ў нас была студэнцкая «Майстроўня» і мы аднаўлялі народныя сьвяты — у Менску, у Заслаўі, у Вязынцы, і такім чынам пазнаёміліся зь людзьмі з Акадэміі навук — Пятром Садоўскім, Алегам Бембелем, Уладзімерам Конанам — і ўжо даволі шчыльна кантактавалі зь імі. Тады кніга толькі пісалася, дакладней, зьбіраліся адказы людзей на пытаньне: «Што я думаю пра цябе, беларуская мова?» (першапачаткова так мелася называцца і ўся кніга). Аўтар прапанаваў нам таксама зьбіраць для кнігі адказы нашых знаёмых, таму гэта быў даволі пашыраны працэс. Мы зь сябрамі ўключыліся зь вялікай ахвотаю. Не перабольшу, калі скажу, што ўсё, што мы ўсе рабілі тады, было ўпершыню, з чыстага ліста. І гэтае, на першы погляд,

сацыялягічнае апытаньне пра мову непазьбежна ператварылася ў асьветніцкі праект, у шматгалосую споведзь людзей, многія зь якіх упершыню задумаліся над тым, чаму яны, беларусы, не гавораць па-беларуску, і што такое роднае слова, і ў якіх умовах яно існуе, і што зь ім будзе заўтра. З тых часоў тэма роднае мовы набыла грамадзкае гучаньне і на ёй было напісана шмат працаў, твораў і праведзена апытаньняў. Але я ня думаю, што прагучала нешта новае або іншае ад таго, што было сабрана Алегам Бембелем і падсумавана Ўладзімерам Караткевічам. Гэта значыць, што пытаньне роднае мовы — ня тэма для дыскусіі і навуковага разьвіцьця да таго часу, пакуль месца беларушчыны ў грамадзтве чыста адміністрацыйным чынам звужаецца да таго, якім яно было ў пачатку 1980-х, калі ўпершыню было пастаўленае ў гэтай кнізе. На жаль, кніга выйшла ў эміграцыі, была перасьледаваная ў Беларусі, дзе сёньня яе папросту не знайсьці.

*Сяргей Дубавец*

## Нябачнае сьвятло ў канцы тунэля

Канец 70-х — пачатак 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Пасля чарговага пагрому «беларускіх нацыяналістаў» у 1973 годзе над Беларуссю навісла змрочная хмара татальнай русіфікацыі. У сталіцы БССР Мінску, дзе ўжо жыло за мільён чалавек, прычым пераважна беларусаў, большасць якіх пераехала сюды з вёсак, пасля апошняй вайны не было ніводнай беларускамоўнай школы і нават класа. Беларускую мову выкінулі з ВНУ яшчэ да вайны, і нават на філфаку БДУ практычна ўсе прадметы выкладаліся па-руску. З 1971 па 1976 г. я вучыўся на гістфаку БДУ, дзе не гучала ніводнага беларускага слова. Праўда, у нашай групе быў адзін студэнт, які не толькі гаварыў па-беларуску, але і перакладаў на беларускую мову ў сваіх канспектах змест рускамоўных лекцый выкладчыкаў. Таму напрыканцы першага курса яму свядома паставілі тры двойкі на летняй сесіі і выкінулі з ВНУ.

І вось у гэты час малады навуковец АН БССР Алег Бембель працуе над кнігай «Роднае слова і маральна-эстэтычны

прагрэс», у якой падымае вельмі надзённае тады пытанне: «Які лёс у будучым нашай роднай беларускай мовы?». Прычым ён працуе як журналіст і сацыёлаг і задае гэтае пытанне розным людзям, у асноўным жыхарам Мінска. Ён збіраўся выдаць яе ў Беларусі, і, вядома, нічога «антысавецкага» ў ёй не было. Добры водгук напісаў на яе Уладзімір Караткевіч, аднак зразумела, што гэтую кнігу ніхто ў БССР выдаваць не збіраўся. Машынапіс рукапісу трапіў у Англію, дзе беларусы Вялікабрытаніі выдалі яе ў Лондане ў 1985 г. Мне гэтую кнігу як старшыні ТБМ падарыў у кастрычніку 2003 г. Міхаіл Швэдзюк, які ў часы Другой сусветнай вайны разам з бацькам трапіў у армію генерала Андэрса і дайшоў да Італіі, а потым апынуўся ў Англіі і застаўся беларускім патрыётам.

Нядаўна я зноў перачытаў гэтую кнігу і акунуўся ў часы сваёй маладосці, бо менавіта ў гэтыя гады я перайшоў на беларускую мову і добра разумеў адносіны да яе з боку чыноўнікаў мясцовай улады, якія вельмі хацелі зрабіць з беларусаў манкуртаў, якія адракліся ад усяго роднага.

З тых часоў прайшло болей за сорак гадоў, змянілася два пакаленні жыхароў Беларусі, але моўнае пытанне пасля «рэферэндуму» 1995 г. у нашай краіне, як і раней, балючае і вельмі надзённае. За гэты час адносіны да беларускай мовы кардынальна змяніліся, з мовы «калгаснай» і «сялянскай» яна стала мовай інтэлігенцыі, мовай зносін самых актыўных жыхароў сталіцы і вялікіх гарадоў. Але роднай яе называе толькі палова насельніцтва, а гаворыць на літаратурнай беларускай мове штодня значна менш за палову. Даўно няма СССР, дзе будавалі «камунізм», а потым «сацыялізм з чалавечым тварам» і дзе новая савецкая нацыя павінна была гаварыць толькі па-руску.

Зараз на ўсходзе адраджаюць Расійскую імперыю, «адзіную і недзялімую», і, вядома, з «единым языком». Рускія імперыялісты вельмі жадаюць зноў захапіць Украіну і Беларусь, прычым Беларусь для іх самая лёгкая і жаданая ахвяра. Таму іх прыхільнікі ў Беларусі пачалі закрываць усе беларускія патрыятычныя арганізацыі, сайты і газеты, тым больш што беларускамоўныя ВНУ і большасць школ ужо закрылі.

Аднак большасць жыхароў краіны ўжо за нашу мову, гісторыю і культуру, прычым моладзь сярод іх пераважае. Ім будзе вельмі цікава даведацца, з чаго пачыналася беларускае адраджэнне ў другой палове XX ст.

*Алег Трусаў*

* * *

Упершыню пра Алега Бембеля я пачуў на пасяджэнні «Тутэйшых» у 1987 годзе. Там жа хадзіў па руках зачытаны, замусолены машынапіс ягонага твора «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс». Памятаю, мяне не столькі ўразіў тэкст (нешта сярэдняе паміж манаграфіяй і сацыялагічным апытаннем), колькі асоба аўтара, сапраўднага жывога дысідэнта, з барадой, з нізкім густым голасам, з незвычайным бляскам сумных вачэй — акурат як у прысвечаным яму вершы Анатоля Сыса: «На памежжы Айчыны з чужынай па начох ходзіць сумны паэт, ён запаленымі вачыма, як вагнём, апякае свет…». У той час Алег Андрэевіч збіраў матэрыял для другой сваёй кнігі, таксама пабудаванай на апытаннях, пад назвай, здаецца, «Якімі сцежкамі ісці да Хрыста». Ужо тады ён пачаў задумвацца пра сыход у манастыр. У 1989 годзе ў Вільні адбываўся першы з'езд БНФ. Маім суседам па нумары ў гатэлі апынуўся акурат Бембель. Ён папярэдзіў, што ўначы будзе перыядычна ўключаць лямпу каля свайго ложка, каб запісваць важныя думкі, бо ўсё адно ў яго бяссонне. Назаўтра раніцай у зале пасяджэнняў ён адным з першых папрасіў слова, выйшаў на сцэну і сваім глухаватым голасам, ззяючы вачыма, пачаў чытаць:

*Ля Кастуся, ля Гедыміна,*
*Пад небам віленскіх муроў*
*Мая палонная Айчына*
*Сабрала сход сваіх сыноў…*

Гэты цудоўны верш, які, на жаль, не памятаю цалкам, і быў вынікам яго бяссонніцы.

Наконт самой кнігі: сапраўды, неяк так атрымалася, што асоба аўтара засланіла яго працу. Не памятаю, каб хоць

нeяк яна абмяркоўвалася. Гэта пры тым, што сам Алег Бембель прысутнічаў на некаторых пасяджэннях літаратурнай суполкі «Тутэйшыя», быў прыняты ў яе ганаровыя сябры. Але чытаў толькі вершы і ўспрымаўся выключна як паэт. Бадай, адзіны чалавек, які быў пра кнігу высокай думкі, акрамя таго, недзе дастаў яе (лонданскае выданне), гэта Юрась Лаўрык. Што да нас, мы самі былі адначасова і «родным словам», і «літаратурным прагрэсам», і «эстэтыкай». Маю на ўвазе неверагодны малады эгаізм. Чыталі і абмяркоўвалі іншыя забароненыя яшчэ нядаўна кнігі, напрыклад «Дзве душы», «Лабірынты», а найбольшай каштоўнасцю лічыўся слоўнік Ластоўскага.

Так што ў тыя бурапенныя 80–90-я гады кніга прамільгнула неяк незаўважна, і сам лёс цяпер падказвае неабходнасць яе перавыдання. Тым больш цяпер новая хваля цікавасці да мовы, і, упэўнены, кніга стане для многіх прыемным адкрыццём…

*Тутэйшы*

* * *

Кніга гэтая трапіла мне ў рукі ў выглядзе падсьлепаватай машынапіснай копіі, яны хадзілі па руках, як і іншыя творы нашага запозьненага, тады ўжо некрымінальнага самвыдаву — тэксты Ермаловіча, забароненые вершы Купалы. Год быў, можа, 1986-ы, мы ў нашым коле — асьпіранты-гуманітарыі інстытутаў гісторыі, мовазнаўства, літаратуры АН, клюб перакладчыкаў «Бабілён», крыху пазьней «Тутэйшыя» — займаліся перакрыжаваным інтэлектуальным апыленьнем і перадавалі з рук у рукі ўсякія навінкі. З нагоды публікацыі кнігі ў Лёндане Бембеля якраз выгналі з працы, і ён у нашым коле быў героем — у мяне дагэтуль захоўваецца перапісаны ад рукі ягоны зборнік «Рэха малітвы» («…агонь …агонія …мігціць Пагоня…»).

Пра саму кнігу я ўжо і да таго чуў у перадачах беларускай «Свабоды», якую я ад 1981 года слухаў бадай што кожны дзень. Сама дасьледная яе частка мне ўжо ня помніцца, але найбольш у ёй уразілі галасы людзей — выказван-

ні verbatim жыхароў Беларусі з самых розных сацыяльных пластоў пра беларускую мову, яе лёс і пэрспэктывы. Ня тое каб гэта было нешта такое, пра што ніхто ня ведаў, але на той час ніякіх публічных дыскусіяў на гэтую тэму не было, гэтая тэма была пад нейкай маўклівай забаронай, не раўнуючы як тэма сэксу, а тут раптам пра гэта адкрыта і шчыра гавораць людзі.

Зьніч-Бембель быў яскравай і папулярнай постацьцю ў Менску канца 1980-х, ён хадзіў з партфэлем, адкуль даставаў копіі сьвежанапісаных вершаў і раздаваў сябрам і знаёмым. У вершах тых усё часьцей замест Пагоні мігцелі крыжы, іконы і кадзілы, пакуль урэшце наш Зьніч не сышоў зусім у свой праваслаўны астрал, але я думаю, што найбольш нам ён будзе помніцца менавіта той сваёй скандальна-правакацыйнай навуковай працай, якая дала імпульс важнай грамадзкай дыскусіі.

*Сяргей Шупа*

# Індэкс асобаў

# Змест

# Роднае слова

”

*Памятаю, як машынапісная копія кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», пераходзячы з рук у рукі, чыталася ў нашым наваполацкім літаратурным аб'яднанні «Крыніцы», з якога, дарэчы, выйшаў не адзін дзясятак прафесійных літаратараў, імёны якіх сёння вядомыя не толькі ў Беларусі. Праца Алега Бембеля была тады для нашага асяроддзя, вобразна кажучы, гаючым глытком азону, яна сведчыла, што нас — значна больш, чым уяўлялася ў хвіліны роспачы і паняверкі.*

*Агульнацывілізацыйныя і беларускія выклікі XXI стагоддзя актуалізуюць высновы Алега Бембеля, зробленыя амаль пяцьдзясят гадоў таму. Родная мова ўспрымаецца цяпер як «ціхая», але магутная зброя, якая захоўвае нацыянальны імунітэт, якая здольная абараніць межы дзяржавы лепей за армію.*

**Уладзімір Арлоў**

ISBN 979-8-218-44485-3

